*Пролетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!*

# ПОЛЫМЯ

## БЕЛАРУСКАЯ ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ
## ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ, КУЛЬТУРЫ, ЭКАНОМІКІ й ПУБЛІЦЫСТЫКІ

**№ 3—4**

ЛЮТЫ—1923—САКАВІК

БЕЛАРУСКАЕ КООПЭРАЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЕ ТАВАРЫСТВА
«САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ». МЕНСК. 1923.

# Чырвоныя вясьнянкі.

1.

Зазьвінелі рэчкі крыгамі;
Сонца чэрпае праменем лужы.
Калёсамі вуліца скрыгае...
Жураўлі па-над вёскаю кружаць.

Прывіталі высь блакітную
Сьпевы жаўранка ў белым тумане.
Балота пушыцца ракітаю;
Лес шуміць, спатыкаючы раньне.

Сенажаць прайсьці прыгожа нам,—
Паміж зелені выплылі кветкі...
Каровамі выган стрыножаны,
Рвуць рагамі куп'ё пералеткі.

Зашумела поле хвалямі,
Мітусеньнем выплыўшай руні...
Вясну закліканьнем хвалім мы,
Не змаўкаюць гучлівыя струны.

2.

Паглядзі: па полі вораным
Сьлед пралажан калясом.
Селянін ідзе ня зморaным—
Корміць глебу ён аўсом.

І з сяўні за жменяй жменяю...
Шум насеньня, як дажджа.
Хоць загон блішчыць каменьнямі,
Верыць—будзе ураджай.

Ён палетак свой узораны
Баранує, рве дзірван.
За канём ідзе разораю.
Над сваёю працай пан.

Яго шнур спавіт быў межамі...
На чужынца пот ён ліў—
Цяпер з думкай вольнай, сьвежаю
Ходзіць з песьняй па ральлі.

3.

Заводаў грук і гучны гсман
Пранёсься з ветрам па палёх.
Залом тут болей не заломан...
Дым фабрык коўдраю разьлёг.

Імчыцца рэць сталёвых коней,
Капыт-калёс чувапь іх звон.
Араты, не ўзараўшы гоняў,
Глядзіць, вачам ня верыць ён.

Жывыя коні рзуць у полі,
Пужліва вушы узьнялі,
Нібы спазналі ўсе, што болей
Сталёвых коней на зямлі.

Гудзе гудок. Паўзуць машыны
У шыр і даль палёў, балот.
І людзі ў новую краіну
Сягоньня робяць пералёт.

4.

Змрокам ціхім сьпеў салаўіны...
Гай шапоча кустам альховым...
Ён прыехаў—рыцар машыны—
Кахацца з дзяўчынай вясковай.

Посьле кросен з беленькім тварам...
Спадабае хлопец рабочы...
Сэрца спуджана лічыць удары,
Паўнюткі агню яе вочы.

Прыхіліўшыся к грудзям, кажа
Ён дзяўчыне слодачы словы.
Доўгіх косаў злотная пража
Спавіла іх разам галовы.

Зазьвінела даль адгалосам,
Сьпевам гучным аб новым шчасьці.
Срэбны конь па небу пранёсься,
На зямлю ён хоча упасьці...

**М. Чарот.**

Сакавік, 1923 г.

# Беларускі народ.

*Пасьвячаю У. Ігнатоўскому.*

Ён спаў, прыгнечаны к зямлі,
І слухаў моўчкі сьвіст савіны,
А думкі чорныя цяклі
Па ўлоньні сьпячае краіны.

Па галах шэрых вузкіх ніў
Саха праводзіла разоры,
І ў іх ён сьлёзы ціха ліў,
І ў іх вахоўваў свае гора.

Зьмяняўся год, ішлі ў чаргу
Зіма, вясна, за летам—восень,
А песьці цяжкую нудзьгу
Лілі, як дождж з іголак сосен.

Віселі коўдры чорных хмар
І неба сінь ў сабе хавалі—
Праклёнам пейкім, трутай чар
Імпэт, пазывы дратавалі.

Як вока сягла, як пагляд
Празрысты вокал мог лажыцца—
Вісеў на крыжы ён расьпят
І з сэрца сточваў сукравіцу.

Ў павеях ветру, у віхрох
Сягалі стогны і пакута
Па ўсіх закінутых куткох,
Па кнеях сьціснутых і скутых.

Але між гэтым пот і кроў,
І стогн, і енк, і мукі жалю
Даўгіх гадоў, цяжкіх вякоў
З сябе адмшчэньне выплаўлялі.

З сакрытых стул, з нябачных шчэл
Што дзень мінаў—яно ўставала,
І сотні душ і сотні цел
Зялезнай сілай гартавала.

Ад шэрай стоптанай зямлі,
Ад потам вылітага долу
Пачаў сягаць да вышыні
Парыў разбуджаны, вясёлы.

І з-пад навісшага цямна
Ўсачыў народ ў сьвятле далечы
Ды гук падаў: «Вось там яна,
Краіна вольнасьці адвечнай!»

Падаў і рушыў ў грамадзе,
Бы хвалі морам ў подух буры...
І грымнуў гром яго падзей,
Ды зьняў з жыцьця выраз пануры.

Яно ўсьміхнулася, як дзень
На ўзьмежжы цёмнай доўгай ночы,
І краю шлюбны перасьцень
І валь адзела падвяночы.

Гартуй-жа сілы, ўстаўшы Сьфінкс!
Хай попел вецер вольны сее...
Няволі доўгай рабскі чынш
Зьнялі ўжо рукі Прамэтэя.

І паліць прысак ад агню,
Што з мук гвалтоўных выбіў крэмень,
Чырвоны золак таму дню,
Які зганяе ўзьвечны цемень...

3/ш 23
Мэнск.

**Цішка Гартны.**

# Я йду да усходу...

Я йду да ўсходу вузкай сьцежкай.
Абапал рунь цішком шуміць,
А далей там, за тонкай межкай
Абшар лугоў, бы ток, ляжыць.

Супроць мяне на многа гоняў
Сьцяною стаў пануры бор,
І бачу я, як сноп чырвоні
Над борам сьцеле пекны ўзор.

Праз купы дрэў, праз галкі сосен,
Праз лісьце трэплыя дубоў
Лаўлю я ніткі яго кросен
І мягкі выгіб касьнікоў.

Лаўлю і чую, як паволі
Ў маё нутро праходзіць дух
Якойсьці прагнай буйнай волі,
Пазыў нястрыманы на рух.

Ўстаюць чаргою чыннай, цеснай
Жаданьні палкія, задзёр
Абняць весь гэты гал прадлесны,
Расьлінай выспаны прастор.

І чырвань зыркую з-над бору
Зьнясьці цалком на пахкі дол,
Каб сеяць шчодра мерай спорай
Па ўсёй зямлі, як ёсьць, вакол...

Я йду ўсё далей вузкай сьцежкай,
А ў сэрцы крэпне мой намер;
І сонца ласкавай усьмешкай
Мяне вітае з вышніх сфэр.

**Цішка Гартны.**

3/II 23.

# Сяргей Карага.

Цёплая летняя ноч павольна апускалася на зямлю і ўсё гусьцей і гусьцей цярушыла над ёю, як-бы прасяючы скрозь танчэйшае сіта малюпасенькія крупінкі змроку. Рэзка вызначаныя абрысы лясоў і ўзгоркаў трацілі сваю форму і зьнікалі ў гэтым змроку. Летняе неба, здавалася, ніжэй зьвесілася над зямлёю і ўзіралася ў яе тысячамі бліскучых вачэй. Але на зямлі ў гэты момант было пуста й ціха—так ціха, што ад гэтае цішыні патыхала нейкаю жудкасьцю, бо яна, гэта цішыня, была так нязвычайна, так няпрывычна. І небу, як відаць, не хацелася паверыць, што там, на зямлі, і запраўды спакойна, бо яно зараз-жа выслала з-за цёмнага краю зямлі яшчэ аднаго дазорцу—крывава-чырвоны, сьцяты баханец—месячык. Чуць падняўшыся над дубоваю кудзеркаю лесу, што стаяла па той бок Псла, крыху павесялеўшы месячык зараз-жа нырнуў у хмарку. Відаць, гэта проста была яго ваяцкая хітрасьць, і гэтую хітрасьць запазычыў ён ад людзей, бо ў гэтым месцы зямлі яны якраз цяпер ваявалі. І як толькі закрыў ёй свой твар у цёмнай хмарцы, як у гэты-ж момант адтуль, з пад кудзеркі дубовага лесу гукнула гармата. Глуха здрыганулася цёмнае паветра, і водгульле-гром пакаціласяпа Pслу, па глыбокіх ярох, як грознае суладзьдзе хору віхроў.

— А, такі адгукнуўся!—ціха прамовіў Сяргей Карага, і яму стала чамусь весялей.

Чаму?

Ён проста не задумваўся над гэтым пытаньнем, але ў яго цяпер было такое пачуваньне, што ён не адзін, што дзесь там, таксама, ёсьць людзі. Праўда, тыя людзі—заклятыя ворагі яго. Ён ведае, што там пазыцыі карнілаўскіх палкоў, самых заядлых, самых заўзятых і самых моцных з усяе дзянікінскае армады. З другога-ж боку гэты самы гук, драпежны й злосны, памагаў яму крыху аглядзецца і больш-лепш

пэўна вызначыць сваё палажэньне, бо ён заблутаўся ў незнаёмай мясцовасьці, згубіў сувязь з сваёю разьведкаю і колькі гадзін блукаў па гэтых дзікіх ярох, заросшых грушамі-самасейкамі і купчастымі буйнымі кустамі маладога дубняку. Гэта блутаніна была так няпрыемна, а горш усяго гэта глуш, гэта бязьлюдзьдзе і гэта чаканьне на кожным кроку небясьпекі.

Ён прысеў на росную мяжу пад кустом быльняку. Вакол ляжала маўклівае, пустое поле.

Сяргей Карага стаў узірацца ў тое месца, адкуль толькі што грымнула гармата.

Сьледам за першым гукам блíснула зарніца.

— Раз, два, тры, чатыры, пяць... пачаў ён лічыць сякунды, каб па іх вызначыць адлегласьць да таго месца, адкуль стралялі гарматы.

Як толькі ён палічыў „дваццаць адзін“, пачуўся другі стрэл, больш густы й моцны.

— Шэсьць з палавінаю вёрст,—вылічыў Сяргей Карага і пачаў штось вырахоўваць, як чалавек, добра знаёмы з вайсковаю абстаноўкаю. Вынікам усяго гэтага вырахаваньня было заключэньне, што тут дзесь недалёка павінны быць дзянікінскія дазорцы.

Сяргей Карага ніжэй прынік да зямлі і стаў аглядаць месца. Перш за ўсё ён зьвярнуў увагу на тое, што ён сядзіць на самым высокім месцы поля і можа, дзякуючы гэтаму, добра адбівацца на сьветлым небе, калі пазіраць на гэты ўзгорак з нізоў.

Яшчэ больш пасьвятлеўшы месячык ізноў выплыў з-за хмаркі. Пужліва-варожы змрок крыху расступіўся, парадзеў, і перад Сяргеем Карагаю вызначылася цёмная палоска—шляк яру. У гэты момант вочы яго мімавольна, як-бы самі глянулі ўпярод. Па целу маладога разьведчыка прабегла дрыготка: ня больш, як у сту кроках ад яго, як-бы з зямлі вырасьлі тры цені!

„А можа гэта бур‘яны?“...

Карага не дадумаў да канца свае думкі: гэта прадпалажэньне аказалася памылковым у той момант, калі белаватасіні водблеск месяца сьлізгануў па стальному сьцяблу аднаго з гэтых «бур‘янаў».

Ясна, што гэта—дазорцы, і таксама было ясна, што гэта—дазорцы дзянікінскія.

«Замецілі яны мяне ці не?»

Сьвідравала мозг гэта страшная думка, і ў той-ж час у галаве яго борзда-борзда складаўся плян дзеяньня. У момант зьмерыў ён вачыма адлегласьць да яру.

„Эх, дапаўзьці-б да кустоў! дабрацца-б да яру!“ была цяпер у яго толькі гэта адна думка. Аб тым, што будзе там далей, Карага цяпер ня думаў. Але яр быў шмат далей, чым гэтыя тры фігуры, якія паволі, бяз шуму шлі якраз на яго.

„Замецілі, замецілі, сволачы!“

Паварушыцца ў гэту мінуту Карага лічыў сьмяртэльнаю небясьпекаю. Ён прыліп да гэтае межы, як-бы сама зямля трымала яго сваімі моцнымі рукамі.

Ён рашыў сядзець моўчкі, бо ў яго была ўсё-ж такі надзея, што яны яго ня бачаць. А калі ўжо прыдзецца так, што дзявацца будзе некуды, тагды...

Карага моцна сьціснуў у руках сваю вінтоўку. Цяпер яна —адна-аднютка ў цэлым сьвеце, хто можа за яго заступіцца і пастаяць. Аддавацца-ж жывым Карага ня думаў, бо там верная сьмерць і зьверскія кпіны.

І ў яго галаве вынікнуў цэлы клубок уражаньняў гэтага дню: час выхаду на разьведку, школа, дзе застанавіўся штаб іх палка, таварышы і нейкія абрыўкі—зьявы нядаўна мінулага ваяцкага жыцьця—ўсё гэта вынікла ў адзін момант, якбы прад яго вачыма на міг вывесілі нейкі многавобразны, але пераблутаны малюнак. І яшчэ адна зьява, што так глыбока запала ў душу Сяргея і так моцна ўскалыхнула яе—гэта сьмерць камандзіра іх батарэі. Яна, дапраўды, варта таго, каб яе адзначыць.

Бой, што называецца, кіпеў. Адны рады байцоў скошваліся, іх месца заступалі новыя і новыя рады-ланцугі. Дзянікінцы лезьлі назойліва, лезьлі ўпарта, як раненыя драпежныя зьвяры, і нічога не магло іх стрымаць, бо тая пазыцыя, якую займалі чырвоныя, была нязвычайна важна. Батарэя, якою камандаваў былы афіцэр, штабс-капітан Ваганаў, чалавек нязвычайнае моцы душы, пустошыла рады насядаўшых дзянікінцаў. Сюды, на гэту батарэю, быў наведзен агонь трох бранявікоў і палявое батарэі. Але Ваганаў так умеў паставіць свае гарматы і так спрытна мяняў іх месцы, што агонь праціўнікаў не рабіў ніякае шкоды. К рашучаму моманту бою былі растрэлены ўсе снарады і гэта батарэя была прымушана змоўкнуць.

— Братцы!—сказаў тагды Ваганаў салдатам:—цяпер вам тут няма чаго рабіць. Трэба выратаваць гарматы, якія пры нашых сродках выратаваць можна.

Але дзянікінцы былі ўжо блізка і некалі было вывазіць гарматы. Перапалоханыя чырвонаармейцы кінуліся наўцекі.

— Прашчайце, таварышы!—гукнуў ім Ваганаў, а сам сеў на гарачае яшчэ цела гарматы.

Сеў, вынуў партабак і закурыў. Сядзіць спакойна, аб чымсі думае і пускае тонкія клубочкі сіняватага дыму. Раз'яраныя афіцэры-карнілаўцы ўварваліся на батарэю. Бачаць—на гармаце камандзір сядзіць, курыць, кудысь у прасторы глядзіць і іх не прымячае.

— Вы—камандзір батарэі?

— Я,—спакойна адказвае той.

— Вы прымушаны былі так метка страляць ці вы гэта рабілі ад чыстага сэрца?—злосьмешна запытаў карнілавец.

— Мяне ніхто ня можа прымусіць, раз гэтага не захачу я сам,—чаканячы кожнае слова, прамовіў Ваганаў.

— Ты—камуністы?—ужо груба й злосна спытаў паручык-карнілавец.

— Я—салдат чырвонай арміі.

— Чаму-ж не ўцякаў ты, жыдоўскі наймыч, разам са сваім збродам?

— Прашу быць вежлівым. Я з вамі на грабяжы не хадзіў—гэта раз. А другое, я хацеў паказаць яшчэ ня стойкім салдатам Чырвонае арміі, як павінен уміраць чэсны салдат.

— Здраднік!!!

Паручык-карнілавец выхваціў шаблю й са ўсяго размаху сакануў яго па галаве.

Падскочылі другія карнілаўцы.

Абліты крывёю Ваганаў бяз слова, бяз зыку асунуўся пад калёсы гарматы.

Вось гэты вобраз штабс-капітана Ваганава й яго сьмерць нязвычайна яскрава ўявіліся цяпер перад вачыма Сяргея Карагі і паддалі сілы яго духу. Ён пачаў разважаць больш спакойна.

Адвёўшы на момант свае вочы ў бок яру—а гэты яр тым ня меней усё больш і больш займаў думкі Сяргея Карагі,—ён зноў зірнуў перад сабою... Што за чартоўшчына: перад ім нікагутка ня было!

„Што за праява?“ падумаў Сяргей і пачуў, як па яго сьпіне захадзілі мурашкі. „Напэўна, штось замысьлілі й, відаць, палеглі на зямлю. Усё цела яго яшчэ больш сажмалася; ён пачуў боль з боку лба, як-бы ў гэта месца вось-вось паляціць куля, бо Сяргей чакаў, што ў яго пачнуць страляць. Але момант прайшоў, і нічога такога ня здарылася.

„Куды-ж яны дзеліся?“ круціў галаву Сяргей—і нейкі невядомы страх агарнуў яго душу. Ён пачуў, што ня можа больш аставацца тут. „Трэба прабірацца к яру“—і яго вочы йзноў пазіралі на гэты яр. Ён ціханька ссунуўся з мяжы ў разору-

„А слаўная разорка!“ падумаў Сяргей.

Над гэтаю разоркаю якраз выступала досыць высокая мяжа, абросшая травою, і такім чынам рабіла яго незаметным. І ён папоўз, папоўз ціха, лоўка, як вуж, як-бы паўзуном і на сьвет ён радзіўся. Крыху замінала вінтоўка, але скора прыстасаваўся паўзьці і з вінтоўкаю. Адпоўзшыся колькі крокаў, ён спыняўся, аглядваўся, прыслухваўся.

Палавіну разоры ён ужо прасунуўся. Жаданы яр ужо недалёка. Ён прапоўз яшчэ крокаў сорак. Разора кончылася. Перад ім быў голы ўзгорак, а па гэтаму ўзгорку йшла дарога каля яру.

„Вось гэта ўжо горай“. Ён яшчэ раз азірнуўся й папоўз на дарогу.

— Стой! хто?!

Сяргей так і абамлеў: каля яру, крокаў пяцьдзесят ад яго, хадзіў часавы й аклікаў яго.

І не пасьпеў Сяргей зрабіць і аднога руху, як на яго ззаду навалілася нейчае, як дуб, крэпкае цела, і зялезныя рукі, як абцугі, здушылі яму рукі і плечы.

— Хто?—ізноў крыкнуў часавы.

— Не страляць, Ягадкін! бягай сюды!—хрыпла крычаў невядомы й мацней сьціскаў Карагу. Між імі пачалася барацьба. Сяргей таксама быў нязвычайна крэпкі хлопец. У адзін момант ускінуў ён плячыма й перавярнуўся тварам к свайму сьмяртэльнаму ворагу, стараючыся вызваліць рукі. Ён адпіхнуў яго нагамі, гатовы рваць і грызьці свайго ворага.

— Не, дудкі: ня выкруцішся, брат!—хрыпеў гэты вораг.

Колькі хвілін, зьвіўшыся ў клубок, качаліся яны па зямлі. Але зялезныя рукі так нагла напаўшага праціўніка не слабелі й здушвалі ўсё крапчэй.

Падбег часавы, сюды-ж зьбягаліся яшчэ салдаты.

— Здаравецкі, сукін сын, як бык! чуць-чуць ня вырваўся,—казаў дзянікінскі старшы унцер-афіцэр, трымаючы Карагу.

— Круці й зьвязвай яму рукі!

— Эх, вы, салдаты, салдаты! На ляжачага напалі, гуртом набеглі ды яшчэ рукі зьвязваеце,—з насьмешкаю прамовіў Сяргей.

— Так, брат, будзе спакайней,—адказаў салдат, скручваючы рэмнем яму рукі.

— Ты надта, брат, спрыцён, ня ў прыклад другім чырвоным. Ці ня будзеш ты, часам, камуністы? Давай свае кішэні! —з нядобрым сьмехам казаў унцер-афіцэр.

— „Прапала, усё прапала!—думаў Сяргей Карага: „І так падурному, так неразумна папаўся!“

Сяргей Карага ведаў, як ветла сустракаюць тут камуністых і быў асьцярожным: усё, што магло так ці йначай давясьці, што ён—камуністы, ён яшчэ загадзя зьніштожыў.

Яго абшукалі, ператрэсьлі ўсе кішэні, вельмі ўважліва пераглядзелі ўсе паперачкі, якія ў яго знайшліся, забралі ўсе грошы, якія, праўда, цаны для іх ня мелі, апрача колькі дзесяткаў рублёў царскіх грошай.

— Адвядзеце яго да камэнданта,—скамандаваў унцерафіцэр,—і далажэце яму, што гэтага малойчыка трэба добра распытаць.

— Ты, Булякін, будзь старшым. З табою пойдуць Ахрэменка й Пятручок... Марш!

— Ну, ідзі! Марш!—скамандаваў Булякін.

Уперадзе йшоў Ахрэменка, за ім Сяргей Карага, а Булякін з Пятручком ішлі па бакох.

На першых часох, покі не адышліся з вачэй начальства, Булякін пакрыкваў, як начальнік, каб паказаць, што ён і запраўды службу спаўняе й свае абавязкі выконвае строга. Потым ён прымоўк, і некаторы час усе йшлі моўчкі.

Неба на ўсходзе пачынала сьвятлець.

Павеяла ранешнім халадком. Акропленае расою поле пахла сырасьцю. Пачуліся там-сям галасы раньніх жаўранкаў. Вакол было ціха й лагодна. Дзе-ня-дзе з прадрассьветнага змроку вынікалі вёскі з сваімі ветракамі. Ветракі, як грозныя часавыя-вартаўнікі, узьняўшы свае рукі, стаялі каля гэтых вёсак.

Сяргей Карага, шчыльна сажмаўшы губы і ссунуўшы бровы, думаў свае невясёлыя думкі. Яго душу ахоплівала нейкая злосьць і ненавісьць ад аднае толькі думкі, што яму прыдзецца стаяць перад афіцэрамі, якія будуць яго распытваць, зьбіраць весткі аб тым, дзе іх войска, хто ён сам такі і г. д. А даведаюцца, што ён камуністы... тагды капут. І яму нязвычайна моцна хацелася жыць, хацелася быць сьведкаю тых вынікаў жыцьця, якія прынясуць з сабою камуністыя, і тых формаў новага будаўніцтва, у якія вальлецца гэта жыцьцё. Ды й само па сабе гэта жыцьцё так цікава. А ён, па праўдзе сказаць, яшчэ й ня жыў. То бадзяньне па вастрогах у царскія часы, то работа партыі, то гэта вайна... Ніколі раней ня думаў ён аб сьмерці, а вось цяпер яна ўспомнілася.

Ён колькі разоў скоса аглядаў сваіх канвойнікаў, незаметна паварушваў зьвязанымі рукамі, пробуючы, як моцна яны зьвязаны, і акідаў вачыма гэтыя такія мілыя, такія па-

вабныя далі, што больш і больш вырысоўваліся й асьвятляліся ясным усьмехам новага дню...

Эх, умелымі рукамі зьвязаны яго рукі!

І трудна ўцякаць цяпер!.. Не, лепш пачакаць, а можа добрае здарэньне падвернецца яму? Ня можа быць, каб ён яшчэ не пажыў на сьвеце!

Дадаўшы больш вясёлую выразу свайму твару, Сяргей сказаў:

— Эх, братцы! Курнуць-бы, эх, курнуць!

— Ды гэта бадай што й не пашкодзіла-б, — прамовіў старшы Булякін.

Перад імі ўперадзе стаяла старая разложыстая вярба. Параўняўшыся з ёю, Булякін весела, жартліва скамандаваў:

— Стой!.. аправіцца, пакурыць!

— О, гэта—голас!—прамовіў Пятручок.

Канвойнікі і іх палоньнік спыніліся пад вярбою, зараз-жа падаставалі кісеты і пачалі вярцець папяросы. Карага сядзеў са зьвязанымі рукамі, чакаючы, што будзе далей. Самому яму не хацелася прасіць, каб яму разьвязалі рукі.

— А ты чаму ня робіш папяросы?—зьбіваючыся на ўкраінскую мову, спытаў яго Ахрэменка—ня то, каб пасьмяяцца, ня то, каб зьвярнуць агульную ўвагу на зьвязаныя рукі Карагі.

— Дзівак ты,—адказаў яму Пятручок:—ці-ж ты ня бачыш, што ў яго рукі зьвязаны?..

— То як-жа ён закурыць?—пытаньнем адказаў Ахрэменка.

Ахрэменка й Пятручок зірнулі на Булякіна.

Булякін чуў, што слова цяпер за ім. Яму крыху і падабалася, што ён тут мае найбольшую вагу, але ён таксама не забываў, што ён старшы, якому даручан злоўлены камуністы.

— А ты ўцякаць ня будзеш?—запытаў Булякін Карагу.

— Куды ён тут уцячэ?—адказаў за Карагу Ахрэменка:— і дзесяць крокаў не прабяжыць, як я пасаджу яго на мушку. Ня трэба забываць, што я на сто крокаў зьніжу варону—ня то што чалавека,—на ўсякі выпадак дадаў Ахрэменка.

— Вас тут трое, а я адзін; у вас вінтоўкі, а ў мяне голыя рукі ды й то цяпер зьвязаныя,—сказаў Карага.

— У іх такія справы рашаюцца галасамі,—зьвярнуўся Булякін да канвойнікаў:—давайце, хіба, і мы пагаласуем. Хто за тое, каб разьвязаць яму рукі?

Ахрэменка й Пятручок разам паднялі высока рукі.

— Большасьцю галасоў пастаноўлена разьвязаць табе рукі.

Не чакаючы прыказу, Пятручок кінуўся разьвязваць Сяргею рукі. Ахрэменка падкінуў яму бліжэй кісет з махоркаю.

— Ты-ж, брат, глядзі ў мяне,—зьвярнуўся да Карагі Булякін:—і не папытайся ўцякаць. Мы таксама служым і службу сваю знаем, а нашых шампалоў на сваёй сьпіне ты не панясеш.

Скруцілі папяросы. Успыхнула запалка ў руках Пятручка бледна-чырвоным выбухам полымя—і скора сінія клубочкі махорачнага дыму павольна сталі падымацца ўгору пад галіны старой вярбы, і агоньчыкі ад папярос, як зорачкі, пабліскавалі то ў таго, то ў другога салдата, як сымболі спакою й згоды.

— Уцячэш,—у нейкім задуменьні, як-бы ў тон сваім думкам пачаў Ахрэменка:—ці мала блутаецца цяпер нашага брата? Вось і вашы чырвоныя—іх тут кожын дзень спаткаеш, ідзе бяз усякага табе канвою... Там дрэнна, тут дрэнна. Цьфу! Ахрэменка вылаяўся моцным салдацкім словам і махнуў рукою.

— Вайна, брат,—уставіў слова Карага.

— Гэта вайна?—зьняважліва спытаў Пятручок:—каму патрэбна такая вайна? Табе, Булякін, патрэбна яна? Табе, Ахрэменка, ці мне яна патрэбна?.. Ды прападзі яны пропадам, халера-б іх паела! Усе яны за народ ідуць: Мікалай, пішучы свае маніфэсты, казаў, што яму вельмі блізка сэрцу дабро народу; Керанскі выступіў за народ, Карнілаў ішоў за народ, Дзянікін ідзе за народ і Ленін з Троцкім ідуць за народ. Здаецца-б гэтаму народу і паміраць ня трэба. А гэты народ гноіць сваёю крывёю і касьцямі зямлю, корміць вошы, дохне з голаду, з тыфусу і сам сябе зьніштажае, і водзім мы самі сябе, як тых арыштантаў. Сёньня цябе злавілі, вядуць пад штыкамі, заўтра мяне... Эх, браткі! Каб мая Горадзеншчына ды была бліжэй. Паляцеў-бы я туды. У лес-бы зашыўся, ніякіх чартоў не хацеў-бы знаць, ядры тваю качалку!

— Так, брат, ці ня так?—зьвярнуўся Пятручок да Сяргея Карагі. А потым, як-бы схамянуўшыся, дадаў.

— Ты мажа з якіх там важных паноў, сам мажа якое начальства, дык табе магло і не спадабацца штось з таго, што я сказаў. Кажы, брат! Я абвяшчаю поўную свабоду слова пад гэтаю вярбою.

Карага слухаў, што гаварыў Пятручок і хмурыўся. А калі той скончыў сваю прамову, ён значна павесялеў.

— Не, браток, я не з паноў і не з начальства. Я—сын будачніка, а бацька мой—мужык, служыў у сваім часе на зялезнай дарозе, а дзе ён цяпера—ня ведаю; і ты, брат, відаць, ня ведаеш аб сваёй радні. Я вельмі рады, што мы з табою чуць-чуць не землякі, бо бацька мой жыў на пятай будцы

ад Пінска, туды, к Брэсту; а сам я быў рабочы ў зялезнадарожных майстэрнях на станцы Пінск.

— То й я-ж адтуль блізка,—прамовіў Ахрэменка: я—з Валыні.

— Дык вось мы дзе спазналіся: пад гэтаю вярбою!—весела прамовіў Карага. Добры настрой яго шмат падняўся, а надзея на палепшаньне яго справы мацней адчулася ў сэрцы.

— А можа й старшы, калі не зямляк, то блізкі наш сусед?

— Я - курскі,—адказаў Булякін.

— Ён не хахол, не кацап, а проста курскае „каё",—дапоўніў Ахрэменка.

— І чакае, покі дойдзеш да Псяльца, а ён тут ужо ня вельмі і далёка; а ад Псяльца ён болей не ваяка,—дадаў Пятручок і засьмяяўся.

— Псялец...—прамовіў Карага. У яго чуць-чуць не сарвалася няўмысьня, што там стаіць штаб іх дывізіі.

Абстаноўка, як відаць, складаецца прыхільна да яго.

Памаўчалі.

Дакурылі папяросы.

Ахрэменка, Пятручок і Карага адразу пачуліся, што ў іх ёсьць нешта такое, што злучала іх і рабіла блізкімі па душы, ня гледзячы на рознасьць іх характараў і на тыя дарогі іх жыцьця, па якіх яны йшлі дагэтуль і якімі хацелі-б пайсьці далей.

Карага сядзеў, апусьціўшы галаву, і штось думаў. А потым ускінуў погляд па сваіх таварышоў-канвойнікаў, правёў рукою па лбе, усё яшчэ разважаючы аб тым, ці варта даваць адказ на прамову Пятручка, дзе так луката вызначылася неразуменьне і няўменьне разьбірацца ў грамадзянскіх пытаньнях, ці лепей памаўчаць. Але ўсё казала за тое, што выказацца трэба, каб аб ім судзілі болей справядліва і каб не пазіралі на яго, як на нейкае страшыдла з вывескаю «камуністы». Таксама важна й тое, каб яны глянулі на гэту вайну з другога боку.

— Так, братцы мае,—пачау Карага нясьмела:—вайна наогул дрэнная рэч, ніхто яе ня хоча, кожны яе праклінае, і тым ня меней мы ваюем. Чаму-ж гэта так вышла? Ваявалі з немцамі, з аўстрыякамі, з туркамі, з баўгарамі, а цяпер вось самі з сабою ваюем? Калі пачыналі першую вайну, то не запыталіся ў мяне з вамі, хочам мы гэту вайну ці не. Нас проста пагналі, як жывёлу, пад нямецкія і аўстрыяцкія кулі. А хто пагнаў? Нас пагнаў капітал—наш і чужаземны; нас пагналі буржуі, багатыры, дваране—тыя самыя прадстаўнікі багатых клясаў, у чыіх руках была ўлада, тыя самыя драпежнікі, што выцягалі

з нас жылы й без вайны. Яны не пагадзіліся між сабою, кінулі свае народы, сялянства й рабочых, у гэту крывавую калатушу. Але ня вытрывалі мы. За часы вайны прасьвятлелі нашы вочы, мы зрабілі рэвалюцыю, скінулі цара. Зьявіўся Керанскі. Ён ішоў ад імя народу й нібы бараніў яго інтарэсы. Але Керанскі схаўрусаваўся, вайшоў у згоду з тымі-ж драпежнікамі, езьдзіў па фронту, агітуючы войска за вайну, за гэту непатрэбную нам вайну, вайну за інтарэсы буржуяў. Вось тады, таварышы, падала свой голас наша партыя, партыя бальшавікоў. Яна сказала: „далоў Керанскага! Далоў вайну за інтарэсы купцоў і дваранства!“ Улада перайшла ў рукі нашае партыі. Але ці маглі з гэтым пагадзіцца багацеі, царскія гэнаралы? І вось, апіраючыся на чужаземны капітал, часткаю саміх на сябе, часткаю на несазнальны свой народ, выступілі яны з усіх канцоў проціў бальшавікоў, каб вярнуць сабе ўладу, каб пасадзіць нас зноў на ланцуг. Але ў шырокіх слаёх народу не знаходзілі яны сабе падтрыманьня. Не павязло Карнілаву, не павязло Калчаку, Юдэнічу. Знайшоўся Дзянікін, у чыіх радох і вы, таварышы. Хіба-ж вы сьляпыя, таварышы? Ня бачыце, што нясе Дзянікін народу? У тых мясьцінах, якія захапіў ён, адбудоўваецца стары царскі парадак, прыходзіць старая паліцыя, за ёю цягнецца густы шэраг земляўласьнікаў. Як галоднае крумначчо на трупы, зьлятаюцца яны на свае старыя гнёзды, разбураныя рэвалюцыяю, і пачынаюць, пры шчырай дапамозе паліцыі, зьбіраць свае растрачаныя манаткі, высечаныя ў іх лесе дубкі і розную надобу. Сялян б'юць шомпаламі, расстрэльваюць, а пра камуністых і гаварыць ня прыходзіцца. Хіба-ж, таварышы, люба вам гэта ўлада, гэты парадак?

Я—камуністы, я ня буду таіцца ад вас. Калі-ж вы знаходзіце, што я ваш вораг, то скажэце пра гэта таму, да каго вы мяне вядзіцё, і мяне застрэліць бяз суду першы ваш афіцэр, як толькі ўбачыць перад сабою чалавека з гэтым ненавісным яму імем.

Апошнія словы Сяргэя Карагі зрабілі моцнае ўражаньне на канвойнікаў. Булякін пачухаў патыліцу, хацеў штось прамовіць, але, зірнуўшы назад, ён увесь здрыгануўся: ззаду па тэй-жа дарозе ехаў верхавы.

— Афіцэр! Ну, хлопцы, жыва на ногі!—сказаў Булякін і падняўся. За ім моўчкі падняліся ўсе, пастроіліся і пашлі далей. Хвілін праз колькі іх дагнаў коньнік.

— Каго вядзіцё?—спытаў афіцэр, параўняўшыся з імі.

Сэрца ў Карагі апала. Не чакаючы адказу Булякіна, ён сам прамовіў:



— Перабежчык.

— Ну, валяй!—скамандаваў афіцэр і паімчаўся далей.

— Маладзец ты, брат: знайшоўся, што сказаць,—пахваліў Карагу Булякін.

— Так мы й будзем цябе тут называць,—дадаў Пятручок.

— Ты, брат, ня бойся: скажам—перабежчыка прыьялі,—аклікнуўся Ахрэменка.

Сяргей Карага пачуў, што яго канвойнікі будуць трымаць яго руку і што яны ва ўсякім разе ня ворагі яго. А на гэтай вайне перабежчыкі як з аднаго, так і з другога боку—звычайная зьява, і імі з начальства мала хто цікавіўся.

— Толькі вось што, братцы,—сказаў Пятручок:—ці не пакажацца гэта падазрэнным, што перабежчыка тры салдаты вядуць?

Сяргею й самому здавалася ня зусім добрым, што яго вядуць пад такім канвоем. Казаць-жа аб гэтым раней ён не адважваўся, ня ведаючы, што за людзі гэтыя хлопцы.

Цяпер гэта пытаньне было разгледжана агульна і пастаноўлена было так: Булякін павядзе да камэнданта адзін, а Ахрэменка й Пятручок проста куды-небудзь схаваюцца.

Ужо пачынала ўсходзіць сонца, калі яны падыходзілі да станцыі зялезнае дарогі, дзе таксама быў і камэндант, да якога вялі Карагу.

Уся станцыя была забіта вагонамі й цягнікамі. Зірнуўшы на гэту станцыю, Карага адразу пачуў, што тут зусім другая абстаноўка. То з таго, то з другога вагона выхадзілі ў наплечніках афіцэры, і ўсё напамінала так ясна, так яскрава абстаноўку царскіх часоў, ад якік Карага даўно ўжо адвык, і нейкая варожасьць ахапіла яго душу, і ён пачуў тут страшэннае адзіноцтва.

„Толькі-б адбыць гэты налог, скарэй-бы разьвязацца“, думаў Карага, а ў галаве яго складаўся плян пабегу адгэтуль у сваю сям‘ю, к сваім таварышам.

Ён, нават, пацяшаў сябе думкаю, што можа не адзін ён вернецца ў свой полк, а з таварышамі, якіх ён ужо знайшоў тут. Эх, і будзе-ж аб чым пагаварыць!

Ахрэменка з Пятручком адсталі, а ён з Булякіным ішоў яшчэ некаторы час па станцыі. Гэта хада паказалася яму нязвычайна доўгаю. Часамі сустракаліся афіцэры, і некаторыя з іх, кінуўшы кароткі погляд на Карагу, казалі:

— Іш, ты! зашчытнік Троцкага!

Прайшлі міма бранявіка. На бранявіку красаваўся напіс: „Слава афіцэру“.

Успомнілася, што гэты бранявік меў частыя стычкі з іх

бранявіком «Чорнаморац». Аб гэтых стычках многа было гутарак у іх палку.

Станцыя канчалася. На запаснай пуці, ужо недалёка ад семафору стаяў вагон з напісам „Камэндант“.

Тут Булякін здаў свайго палоньніка дзяжурнаму салдату.

— Перабежчык. Прыказана адвясьці да камэнданта.

Салдат прыняў Карагу, а Булякін вярнуўся назад.

Камэндант, малады падпаручык, сядзеў за сталом і, ссунуўшы бровы, зірнуў на Карагу. Тут-жа, у вагоне, у кутку каля вакна стаяў яшчэ салдат, як відаць, веставы. Карага не зьвярнуў на яго ўвагі. Затое-ж гэты салдат паглядзеў на Карагу вельмі ўважліва.

— Адкуль прыбыў?

— З трыццаць чацьвёртага палка.

— Ня ўмееш адказваць афіцэру!—напусьціўся на яго камэндант.

— Таварыш камэндант, адказваю, як умею.

— Што?! Таварыш?! Які я табе таварыш?—гнеўна блснуў вачамі камэндант і аж падскочыў.

Карага стаяў, як апараны кіпенем.

— Шампалоў захацеў? Прывыклі там „тавар іскаць“, сукіныя сыны! Ты—камуністы? Што-та тваё рыла нячыстым здаецца мне!

Карага стаяў, а там, у сярэдзіне, усё траслося ў ім, бурліла.

Ды тут здарылася нешта такое, чаго ніяк не чакаў Карага.

З кутку вагона салдацкім крокам выступіў салдат. Гэта быў праўдзівы перабежчык з трыццаць чацьвёртага палка і з тое самае роты, у якой быў і Карага.

Узяўшы пад казырок, ён прамовіў:

— Гаспадзін камэндант, дазвольце сказаць: ён камуністы і ёсьць!

І пацямнела ўваччу Сяргея. Увесь белы сьвет з яго малюнкамі, зямля, неба, лес і яры, якія ён яшчэ нядаўна бачыў, завярцеліся, крутнуліся ў яго вачох. Ня помнячы нічога, не даючы сабе яснага адказу і паддаючыся аднаму ахапіўшаму яго пачуцьцю, моцнаму, стыхійнаму, ён у момант згарнуў кулакі і рынуўся на камэнданта. Салдат штаўхануў яго ў бок, і толькі паверсе галавы камэнданта сьлізгануў кулак Сяргэя Карагі і зьбіў яму шапку.

Раз'юшаны камэндант выхапіў рэвальвэр, выстраліў два разы. Убег дзяжурны салдат.

Сяргей Карага, бледны, з памутнелымі вачамі, стаяў, прыпёршыся да сьцяны, і праваю рукою трымаўся за левы бок, адкуль біла кроў.

— Дастрэльвай-жа, памешчыцкі прахвост, бо скора ў цябе і гэтага ня будзе здавальненьня,—усьпеў прамовіць Сяргей Карага і асунуўся на падлогу.

Назаўтра досьвіткам Пятручок і Ахрэменка прынесьлі з сабою ў стан чырвоных вестку аб тым, што сталася з Сяргеем Карагаю.

**Тарас Гушча.**

# Трэскі на хвалях.

У канцылярыі Вікурскага Іспалкому, падзеленай на дзьве палавінкі, таўклося процьма людзей. Адны забеглі выясьніць справу з падаткам, другія зайшлі папрасіць у прадсядацеля дроў, трэція наведаліся за дапамогаю, а некаторыя так проста сабе зайшлі. Гамонка дзелавітая, просьбы са сьлязамі на вачох, спрэчкі, выкрыкі, умольныя, ласкавыя словы знарочыста „прыніжаных“ напаўнялі дзьве невялікія каморкі, брудныя, з разьбітымі вокнамі, неапаленыя, з пашарпанымі, замурзанымі абоямі. Некаторыя з прышоўшых выказвалі сябе сьмелымі і вялі гутаркі са служачымі Іспалкому разьвязна, за панібрата; другія-ж, па старому звычаю, чулі сябе ў Іспалкоме, як-бы ў якой канцыляріі царскае валасьці або станавога, і падыходзілі да сталоў дзелавода ці загадчыка аддзелу з нейкаю палахліваю асьцярогаю, з аглядкамі навакол і назад, з падозрэннасьцю.

У дзьвёх каморках, якія складалі канцылярыю Іспалкому і разам чуць ня ўсе аддзелы, за вылучэньнем „габінэту“ прадсядацеля і „габінэту“ ваянкома, стаяла па кутках каля шасьці сталоў. На кожным стале ляжала па некалькі „спраў“ у сініх і жаўтых вокладках, вылупленых у памёршых канцылярыях старога ладу. У суседзтве з справамі стаялі разнаколерныя чарнільніцы з невялічкім запасам вадзяністае мулі чарнілаў. Добрая колькасьць гэтага чарніла апынулася на паверсе сталоў, размаляваўшы іх большымі й меншымі плямкамі. Але й таго запасу, які меўся ў бутэльках, для дзелавода й для загадчыкаў аддзеламі было даволі. Яны спакойна раз-по-разу мачалі асадкамі ў пляшачкі, прыгінаючы іх на бок, каб больш насыціць пёрка, і з перабоямі між гаворкаю выводзілі нямудрыя запісы на кавалачках рознага сорту й гатунку паперы. Часта, абмачыўшы пёрка, яны й не дакраталіся да паперы, а, гаварачы з просьбітамі, хвілінамі трымалі асадкі напагатове да пісаньня, а потым мачалі іх зноў у чарнілы.

Ды, запраўды, куды там было да спакойліваe пісаніны, калі нельга было вольна ўздыхнуць ад людзей, якія ўсё прасілі й пыталі. Здавалася, з нецярплівасьцю можна было многіх вылаяць за назойлівасьць і ачамернае прыставаньне, можна было са многімі пасварыцца. Але гэта ня было навінаю для іспалкомцаў. Што дня, праз паўтара гады, ад часу паляКоў у іспалкоме панаваў настаяшчы кірмаш. На ўсю воласьць трэ' было раздаваць прыказы, кіраваць зямельнаю, лясною, працоўнаю справамі, судзіць, радзіць, памагаць, уладаваць, наводзіць парадак і ўмацоўваць савецкую ўладу. І з усіх канцоў воласьці з яе мядзьведзкіх куткоў накіроўвалі за разьясьненьнем кожнага пытаньня ў Іспалком.

Як толькі пачыналася раніца, ужо не зачыняліся дзьверы; мэрам на станцыі—яны хадуном хадзілі ўзад і наперад, з прычыны чаго бясконца стаяў стук і бразганіна. У Іспалком ехалі ахвотна і сьмела, а таму кожная маленькая, зусім нязначная справа адвозілася ў яго на абгавор. Чаго-ж! Свае людзі бяз крыку, пасуседзку могуць усё абсудзіць і вырашыць. Ды ня толькі заяжджалі з простымі пытаньнямі, а, нават, так, бяз дай рацыі, заходзіла ў Іспалком што дня шмат людзей, найбольш мяшчан-вікураўцаў, якія любілі парадзіцца аб розных пытаньнях свайго куту і аб навінах у сьвеце. Іспалкомцы, хоць і камуністыя ў большасьці, але свае людзі, выгадаваныя на вачох,—чаго-ж іх сароміцца ці баяцца? Ня выжануць. І кожнага дню паміж дзелавымі заежджымі было шмат проста зайшоўшых. Іх ужо можна было адмеціць па нядбайнаму, спакойліваму выгляду твару, па шырока выказванай суседзкасьці. Многа з гэткіх праз частае наведваньне пазналіся з унутранымі распарадкамі Іспалкому і часта падавалі тую ці іншую раду незнаёмым з нічым, рэдка ці ў пяршыню прыяжджаўшым.

Сідор Браварка, адчыніўшы дзьверы, зразу трапіў на аднаго з гэткіх дарадчыкаў і запытаў:

— Скажэце, дзе тут займаецца Андрэй Камель?

— А? Гэта загадчык асьветы? Вунь у тым куту. Прайдзеце. Каля яго, здаецца, менш усяго людзей, ён вас выслухае.

Сідор Браварка павёў носам у дымным згушчаным і зьлёгка смуродным паветры, кіўнуў нездаволена галавою і павярнуў к паказанаму кутку. Гурток сялян, што перагароджваў туды дарогу, расступіўся, і ён вольна падышоў да стала, за якім сядзеў загадчык асьветы, Андрэй Камель.

— Здароў, калега!—прывітаў Сідор Браварка зьнянацку.

Андрэй Камель хутка адняў вочы ад нейкіх папераў, зьдзіўлена паглядзеў у твар Браваркі і адказаў:

— Якім гэта чынам? Вось дык не чакаў, брат, прызнацца! Калі прыехаў? Як надоўга? Што ў цябе новага чуваць? Як здароў? – засыпаў – Камель прыецеля шэрагам запытаньняў. І, не чакаючы, пакуль той пачне адказваць, абгледзіў навакол стала, мэрам-бы чаго шукаючы. Пасьля, спыніўшыся вачмі на паламаным нейкім зэдліку, праказаў да Сідора:

— Сядай і расказвай.

— Што, брат, расказваць! Ці варта гаварыць наогул?

— Чаму?

— Ды таму! Аб чым цяпер будзеш гаварыць? Уласна можна найсьці што-кольвечы цікавае...—Сідор матнуў недаверна рукою й яхідным возіркам абвёў канцылярыю Іспалкому:—Вось так, як ґэтта—усюды. Што ты будзеш казаць... Гніль, смурод, чад... Эх, ня тое, брат, аб чым мы калісьці марылі! Помніце, калега?—Сідор дастаў з кішэні сярэбраны партабак, спрытным замахам пальцаў адчыніў яго і працягнуў да Андрэя. Гэты міжвольна падаўся да партабака ўсім целам і нясьмела двума пальцамі выняў пахучую надушаную папяросу.

— Бач, яшчэ маеш... Ня тое, як мы тут... Самасейку глумім.

— Да гэтага яшчэ ня дайшло, пакуль. І думаю, ня дайдзе. Трэба меркаваць, дарагі, каб апынуцца пад абсацам вось гэтага тыпу... Вось трымаюся сяк-так. І не скажу, каб давялося цярпець, як другім.

— А цікава, бок, ты дзе цяперака ўстрэмлен?—пацікавіўся Андрэй.

— У прадкоме ў Проўску.

— Даўно ўжо?

— Да вось, амаль не паўтара гады... Ці-ж ты не атрымаў майго ліста? Я-ж паведамляў табе аб гэтым... Як выйшаў з асьветы, дык зразу й паступіў у прадком... І, знаеш, павязло: устроіўся добра. Ну, а ты тут?

— Як бачыш, усё тут. Важдаюся, брат, са шкрабамі да з мяшчанамі. Па вушы працы. і, прызнацца, цікавай працы.

— Ай кінь ужо ты з яе цікавасьцю: ведаю я яе! Перанёс на сабе й трудавыя школы й двух-ступянёўку й... беларусізацыю... Пачуў увесь смак...

— Таварыш Камель,—перабіў Браварку якісь мяшчанін, не падыходзячы блізка да стала.

— А што, дзядзька?

— Вы там, таварыш, наказвалі, каб я зайшоў да вас на-

конт майго хлопца. Вось я й прышоў. Вы, калі ласка, дазвольце мне вам усё разьясьніць...

— Нічога, дзядзька.. Я ўжо ўладзіў усё: я зазываў да сябе настаўніка й наказаў яму, каб другі раз ён без саюзу так не рабіў. Нічога, будзьце супакоены—справа залатвена.

— Дзякую, таварыш. Вельмі дзякую, а то мне столькі клопату паддаў ён, што... Андрэй матнуў рукою і селянін замоўк, схінуўся перад ім і завярнуўся ад стала.

— Вось гэта табе цікава?—пасьмяяўся Сідор.—Ня ведаю, хіба ты зьмяніўся, а як судзіць паранейшаму—то наўрад ці могуць цябе зацікаўляць гэтк'я справы... Трэба, наогул, адрачыся ад самога напалову, каб з цікавасьцю аддацца гэткім справам... Я ня ведаю, як ты, ну а я ўсё яшчэ не магу згадзіцца з усім гэтым.

— Што ты, Сідор, узапраўды? Здаецца-ж ты ня горай мяне жывеш, а...—вымавіў Андрэй і супыніўся, угледзіўшы, што ў канцылярыю ўвайшлі настаўнік і настаўніца вікурскае школы.

— Я табе скажу: гэта ня тое, каб даводзілася дрэнна з матар'яльнага боку. Не! Галоўнае...

Настаўнік з настаўніцаю, пасьмейваючыся над чымсьці, падышлі да стала й за панібрацкі павіталіся з Андрэем. Настаўнік абглядзеў навокал стала, каб найсьці на чым-колечы прысесьці й, ня ўгледзіўшы нічога, пасьмяяўся:

— Хоць на падлозе... Патурэцкаму...

Сідор пахіліўся да настаўніка й, пазнаўшы ў ім знаёмага — нават, калісьці таварыша, уставіў ад сябе:

— Цяпер не навіна: альбо пад сталом, або на стале.

Настаўнік, пакуль не зважаўшы Сідора, цяпер глянуў яму ў твар і весела-зьдзіўлена завёў:

— Га-а! А вы-ж, Сідор Гарасімчык, якім чынам да нас? —і працягнуў яму руку.

Сідор падтрымаў працягнутую яму руку й адказаў:

— А вось у госьці заехаў. Няма бацькоў—пачастуюся ў сястры. Захацелася навецаць родны кут.

— Пазнайцеся: Марыля Слой, настаўніца вікураўскага вучылішча,—паказваючы рукою на настаўніцу, запрапанаваў Сідору настаўнік.

Сідор далікатна прыўстаў з зэдля, схінуўся крыху й пацісь нуў ужо працягнутую насустрэч яму руку настаўніцы.

— Паўлюк, а ці-ж Марылі тав. Сідор ня ведае, што ты іх знаёміш?—зьдзіўлена запытаў Андрэй, паглядаючы пазьменна на кожнага з іх.

— Штосьці ня помню я,—адказаў Сідор.

Настаўніца ні то ганорна, ні то сарамяжа прапусьціла тварам лёгкую ўхмылку.

— Дзе там іх прыпомніш!—уставіў Паўлюк:—іх тут за час адсутнасьці Сідора Гарасімыча з Вікур нарасло, як грыбоў. Дзявочае семя ўрадлівае.

— Ах, каб цябе, каб цябе...—настаўніца замахнулася на настаўніка рукою, але той спрытна ўхіліўся ад яе і ў голас зарагатаў.

Яго рогат зьвярнуў на сябе ўвагу многіх прысутных у Іспалкоме, якія павярнулі галавы ў іх бок. Андрэй з прычыны гэтага нездаволена кіўнуў галавою й хутка азірнуўся ў бок „габінэту“ прадсядацеля. Сідор падмеціў асьцярожлівасьць таварыша і прамовіў:

— Чаго азіраешся?

— Нічога... Так сабе...—уверыў Андрэй і тут-жа пачаў зьбіраць свае паперы:—трэба зьбірацца да хаты. Заўтра будзе дзень. Усё роўна, сёньні ўжо ня будзе работы.

— А начальства не баішся?—пажартаваў Паўлюк.

— Трэба адважыцца на гэты раз.

— На гэты раз можа ўважыць. Ня так многа часу засталося да канца,—дадала Марыля.

— Ах, менш-бы яго яшчэ засталося,—яхідна праказаў Сідор і паглядзеў на загарак.

— Ну, пойдзем, калегі,—пазваў Андрэй.

— А куды?—запытаў Паўлюк...

— Падумаем...

Яны вышлі з Іспалкому на двор і пайшлі праз пляц кірункам да вуліцы.

— Што-ж, Андрэй, трэба будзе адмеціць прыезд Сідора Гарасімыча,—запрапанаваў Паўлюк.

— Так, добра-б было... Але дзе і як?

— Калі ласка, да нас заходзьце,—пазвала настаўніца.

— Вось добра,—сказаў Паўлюк:—згодны, Сідор Гарасімыч? У Марылі Палікараўны зацішна й добра. Мы там заўсёды зьбіраемся. Можна й пагаварыць аб усім...

— Давайце, мне цікава разьведаць, як у вас тут жывецца, што чутно, які настрой ваш,—адказаў Сідор.

Як толькі яны выйшлі на вуліцу, іх нагнаў настаўнік Плаха.

— А-а! Я дык ледзьве знайшоў вас,—выгукнуў ён, забягаючы ўсім наперад і па чарзе вітаючыся.—Мне цікава пабачыць Сідора...—Здароў, брат! як і што ў цябе? Ці надоўга да нас?

— А вось, пагляджу, як спадабаецца... Спадабаецца больш

— прабуду даўжэй, а не спадабаецца—хутка ўцяку,—адказаў Сідор.

— Гэ-э! у нас ня горай, як усюды,—падаў Плаха.

— Да горай ужо нідзе ня бывае. Усюды роўна—усюды горай. Адны парадкі—адны законы... Чаго тут шукаць лепшага!

— Пэўна! Праўду кажаш, браток,—згадзіўся Плаха, ня думаючы, да чаго кажа.

У гутарцы прыняла ўдзел уся кампанія. Але меней усіх выказваўся Андрэй. Таксама рэдка закідала словы й Марыля, якая больш слухала Сідора. Апошні, скора яна яго ўгледзіла, паказаўся ёй дужа прыемным і прыгожым, і яго словы здаваліся ёй ад пачатку да канца праўдзівымі. Калючкі і ўпінкі ў Сідоравай гутарцы, пакіраваныя на савецкі лад і яго парадкі, падабаліся Марылі яшчэ й таму, што яна, таксама, не спагадала бальшавіком... На кожны выказ Сідара Марыля адказвала ўхмылкаю і лісьлівым зазіраньнем яму ў твар. Гэта, з свайго боку, заахвочвала Сідора на большую адкрытасьць у сваёй гутарцы.

Гэтак гутарачы, яны прайшлі ў канец усю вуліцу й апынуліся за мястэчкам.

— Ну, хіба цяпер разыдземся, а пасьля сыдземся йзноў... калі не прагоняць, то ў Марылі Палікараўны,—парадзіў Сідор.

— Што вы, аброць вам на язык,—перапыніла Марыля.

— Добра, добра,—згадзіўся ад усіх Паўлюк.

Параўняўшыся з перавулкам, яны разышліся, хто куды.

## II.

Сідор Браварка прышоў да сябе на кватэру і, не заставўшы нікога ў хаце, прысеў каля стала й пачаў выяўляць і пераверваць сам-на-сам першыя ўражаньні. Выгляд мястэчка, Іспалком, яго таўкатня, спатканьне з таварышамі, іх настрой сьціслым шэрагам панясьліся перад яго ваччу адно за другім. Пранясьліся перш нясустрымна, хутка, а пасьля, мэрам бы зрабілі паўкруг ублізку ад яго, павярнулі назад і йзноў кранулі яго думкі. Мястэчка—Іспалком, Іспалком—мястэчка адыходзілі ад яго далёка ў мінулае і губіліся ў ім, а на сваё месца вытыркалі даўнейшае жыцьцё, даўнейшыя адчуваньні. Перад Сідорам усталі вобразы яго студэнцкага жыцьця, гульні з паповымі і станавога дочкамі, пачосткі, балы, вечарыны. Прамігнулі палкія лятуценьні, жаданьні і мары, якія выглядалі перад ім якімсьці раем... тады, прыпомніў Сідор,

многае што абгаварвалі яны з Андрэем і Плахаю, будавалі шмат сьмелых плянаў. Вікуры ня мелі месца ў іх жыцьці. Пецярбург—вось дзе луналі іх думкі... Яны лічылі сябе вялікімі людзьмі, перад якімі ўсіх-бы вікурцаў спадалі шапкі. „Колькі часу таму? Многа, многа! Здаецца цэлыя вякі! Ды страшнага якога часу, бо ён пераламаў усе мае пляны, усе задумы перастроіў. Якія зьмены зрабіліся! Цяжка выабразіць! На ўсім і на ўсіх, як не паглядзі“, прашаптаў Сідор сам да сябе.

Сідор прыўстаў з месца, паглядзеў у вакно, ці ня йдзе хто, каб не памяшаў соладкасьці й заўзятасьці яго думак, і йзноў адвярнуўся ад вакна, але ўжо ня прысеў, а пачаў тупаць па хаце.

„Перамена на ўсім, адно толькі я астаюся тым самым, як і быў. Я адзін краплюся і стаю на сваім. І выстаю... Ды мала таго, што выстаю, а мушу й другіх прытрымаць на тымжа месцы. Бо што з таго, калі мне аднаму давядзецца займаць сваю пазыцыю? У гэтым мала радасьці і мала карысьці... Важная карысьць—другіх утрымаць... Так, важная, але ці-ж хопіць сілы?.. Штосьці задалёка ўсе адышло... Дзіўлюся. Ці то мне здаецца, ці запраўды яно так: мэрам-бы і Андрэй зусім другім стаў. Відаць па ўсяму: патайны стаў, малагаворкі, падазрэнны... Няўжо й яго пераламала ўжо? За гэтыя два з лішнім гады ці-ж мог ён адцурацца сваіх поглядаў—гэткіх цьвёрдых, здавалася, і пераконаных?.. Цікава!.. Што ён выкажа далей? Трэба пацягнуць яго на адкрытую... Бо штосьці ня верыцца, каб ён са шчырасьці казаў, што „работа цікавая“... Забачым... А шкода будзе, калі Андрэй паламаў погляды, шкода... А гэта можа стацца, бо жыцьцё ломіць... Ломіць упарта і крэпка. Паглядзець-падзівіцца! Узяць-бы і ў мяне на службе—ліха іх ведае: кожны стаў нейкім асобным і незразумелым. І чым далей, тым невыразьнейшай становіцца кожнага душа... Але там—горад. Горад—то іншае: шум, рух, кіпятня... Дзіўней тое, што вось і ў гэткія куткі, як гэтыя, Вікуры, так шырока пралазіць усё. Чаго-б, здаецца, тут уважваць бальшавіцтва, а потым паглядзець—прывыкаюць. Повен Іспалком мужыкоў; згодна ды спакойліва гутараць... як дома, як у суседа... А Андрэй кажа, што „работа цікавая“.—Сідор не зварачаў увагі на тое, што ў хаце было цёмна; ён разьмеранымі крокамі, пакіўваючы галавою, тупаў па хаце, малюючы розныя выкрутасы: та крыжы, та петлі, та ўскосныя фігуры. З вокан супроцьлежнага дому выпадалі пукі праменьняў і прабіваліся ў хату, кладучы ясны адбітак вокан на баку печы. Вуліцаю праходзілі людзі, скрыпячы па сьнегу нага-

мі. Сідор, калі хто праходзіў, на хвілю прыпыняўся й міжвольна прыслухоўваўся, пакуль праходжы ня мінаў хаты. Пасьля йзноў пачынаў хадзіць.

Гэтак ён пратупаў каля гадзіны. Нарэшце спыніўся, падышоў да стала і намерыўся прысесьці, але ў гэты момант пачуў стук дзьвярэй.

Праз хвілін пяць у хату ўвайшла гаспадыня, яго сястра Юста.

— Ці ёсьць хто ў хаце?—запытала яна ўпацёмку.

— Я, Юста, я ў хаце!—адказаў Сідор.

— Чаму-ж ты ўпацёмку сядзіш? Уласна ня ведаеш, дзе запалкі?

— А хто іх ведае... я-ж яшчэ не агледзіўся...

Юста запаліла газьніцу.

— Ну, а дзе ты хаця сёньні быў?—пацікавілася Юста.

— Дзе... Вось у Іспалком схадзіў да Андрэя; пасядзеў трохі там, пасьля прышлі настаўнікі і мы прайшліся крыху па вуліцы... Так дзень і мінуў.

— А мой Юрка ня прыходзіў часамі?

— Як я ў хаце—то не.

— Ах, на яго ліха, бадзяецца цалюткі дзень. Няўжо ён яшчэ справункаў сваіх ня скончыў? І ведае, што госьці дома, а сам, як цюцька, лётае дзесь... пэўна, таксама, забраўся дзе ў Іспалком і сядзіць,—нездаволілася на мужа Юста.

— А ён у цябе наведвае 'Іспалком?—зьдзіўлена запытаў Сідор.

— Што-ж дзіўнага яму! Кожын дзень амаль сядзіць там. Зьбяруцца колькі мужчын, набяруць паўнюткія капшукі тытуну і проста ў Іспалком. І дурацца там да поўначы. Ушалопаў, ведаеш, і не адвучыць.

— Няўжо яму падабаецца так Іспалком?

— Ліха яго ведае! Бачыш, што так.

— І бальшавікоў ён любіць?—пацікавіўся Сідор.

— Ня кажа выразна, але, гутарачы, заўсёды іх хваліць,—адкрылася Юста:—я ўжо яму кажу: „што ты людзкае ў іх бачыш—пакінуў-бы хваліць іх“, а ён мне: „як-ні-як, а нам пры бальшавіках лепей. Сьмела сказаць усё можна, можна зямлі браць дарам, лесу дастаць можна... З усімі проста, за панібрата“.

Сідар яхідна засьмяяўся й сказаў да сястры:

— Бач, зусім нечакана і ты для сябе знайшла бальшавіка.

— Тота-ж, але! Ліха яго ведае. Некалі, як быццам-бы й ня любіў іх, а цяпер вось перамяніўся. Ды ня толькі ён адзін...

Амаль не палова нашай вуліцы так... З другіх вуліц—дык ёсьць колькі чалавек, што й слухаць ня хочуць аб саветах, а гэта—за бальшавікоў...

— Гм!—выказаў сабе пад нос Сідор і прайшоў раз уперад ды ўзад па хаце.

— Мяняецца час і мяняюцца людзі... Што-ж, бязвольныя, слабыя...—нявыразна выказаўся ён.

Юста нічога не адказала, думаючы, што брат будзе гаварыць далей. Але, пачакаўшы хвілін колькі, яна загаварыла першай.

— Мо' ты есьці хочаш, Сідор? Мо' зьбіраешся пайсьці куды, дык кажы. Павячэраем удваёх. Юркі чакаць ня будзем, горліца яго бяры.

— Так, я ўмовіўся быць у Марылі Слоевы... Там у яе зборня, ці што!

— Так, гэта-ж там зьбіраюцца ўсе вікураўскія інталігэнты, як на іх кажуць,—паясьніла Юста і тут-жа дабавіла:

— Ну, дык я табе выму вячэраць ды йдзі.

— Ня варта, не клапаціся,—паспрабваў адгаварыцца Сідор, але Юста не далася далей спрачацца, а пасьпешна прыгатавала вячэру і ўбрала стол.

— Садзіся! Навошта тыя цырымоніі!

Сідор усеўся за стол і прыняўся ў смак вячэраць.

III.

Павячэраўшы, Сідор зразу адзеўся й сабраўся йсьці з хаты.

— Ты ўжо, Юста, не засоўвай дзьвярэй, хоць я спазьнюся,—папрасіў ён сястры, выходзячы з хаты.

— Ня бойся, не астанешся начаваць на дварэ,—пажартавала Юста:—вось калі й засунуты будуць дзьвэры, дык ты працягні ў ваконца руку, абмацай вяроўку й адчыніш.

— Добра... Адно была-б вяроўка.

Юста правяла брата ў двор і паказала яму ўсю сьмякалку з засаўкаю дзьвярэй.

— Ідзі, гуляй з богам,—пажычыла яна Сідору.

Адказаўшы „дзякуй", Сідор пашоў са двара. Да Слояў дарогу ён ведаў добра, як, наогул, добра ведаў амаль ня кожную мясьціну Вікураў. Але, пусьціўшыся йсьці, ён сьпярша ня выясьняў перад сабою яскравага жаданьня ня йначай зрабіць гэта. Штосьці—ён пакуль ня цяміў—троху астудзіла яго тыя спадзевы, з якімі ён уяжджаў у роднае мястэчка. Чакалася ў ім знайсьці часовы адпачынак пасьля скрутнага, вакол варожага яму жыцьця; чакалася адкапаць памятныя старыя мо-

манты і супакоіцца на аднаўленьні іх з сваімі, як ён чакаў, незачэпленымі бегам часу, таварышамі. А тут—вось! Толькі сустрэўся з лепшымі з іх, як зразу ўбачыў, што Андрэй—ня той. Ня той Андрэй і ня той Плаха. І чаго крыўдней—гэта тое, што і ў хаце сястры, як выявілася, таксама, няжданае. Жарты, Юрка так сама абальшавічыўся!..

Пайсьці да Марылі Слоевы мела-бы рацыю для Сідора тады, каб яму сустрэць там блізкую й мілую кампанію. Але ці ўдасца гэта—брала Сідора вялікае сумненьне. Гэтае-ж сумненьне й сьцішала яго хаду, застаўляючы праз кожныя пяць крокаў прыпыняцца й азірацца назад.

Ужо прайшоўшы ў канец усю вуліцу, Сідор пры павароце ў завулак, супыніўся на месцы й пачаў канчаткова вырашаць сам сабе—ісьці ці не? У яго нутры вынікла роўнавага доказаў за патрэбу пайсьці і супроціў гэтага, і ён ажно злаваўся за гэта на сябе, неспакоячыся.

Нарэшце штосьці яго падтаўхнула на тое, каб ісьці, і Сідор маладзецкі, ганорна замахнуў уперад левую нагу, пачуўшы, мэрам-бы з яго плеч спала колькі пудоў. „Пайду і паспрабую, у выпадку чаго, пазмагацца“,—парашыў ён і прыняўся, ідучы, пасьпешна абдумваць, як і што яму трымацца. Але не пасьпеў ён якраз абдумаць і адзін манэўр, як з-заду пачуў вогук:

— Сідор Гаўрылавіч?

— Я самы!—зьдзіўлена, адгукнуўся Сідор і прыпыніўся.

— А я ўжо бегаў па вас да вашае сястры,—падыходзячы да Сідора, паясьніў Плаха (то быў ён).

— Уласна так? Ці-ж ужо позна?

— А ўжо дзесятая гадзіна. Я думаў, што вы ня трапіце да Слояў.

— Нічога, не заблуджу.

Далей яны дайшлі да Слояў моўчкі.

— Вось куды мы вас завабілі,—пажартаваў Плаха, заварочваючы ў двор.

— Праўда што завабілі!

Яны прайшлі ў хату.

Звычайная мяшчанская хата Слояў, выглядзела чыста й акуратна прыбранай. На покуце вісела блішчастая ікона, убратая белымі фіранкамі, а перад ёю лямпадка. На дваровай сьцяне вісела вялікае люстра, а на вулічнай—гадзіньнік.

У мыцельніку на лаўцы, склаўшы на прыпол рукі, сядзела Слоіха Агнэса, маці Марылі, і ўмільна пазірала на покуць, дзе наўкол стала сядзелі Андрэй, Паўлюк, Мірон—быўшы валасны пісар, а цяпер дзелавод у лясьнічастве і Габрусь—

коопэратар, а перад люстрам вярцелася Марыля з таварышкаю, таксама, настаўніцаю, Варвараю Касач.

Сідор, пераступіўшы парог, павітаўся перш нізкім уклонам з Агнэсаю, пасьля весела паціснуўся рукамі з Паўлюком і Андрэем.

— А вось мая таварышка Варвара Касач і таварышы —Мірон Бізун і Габрусь Пуга,—паказала Марыля на Варвару, Мірона й Габруся.

Марыля першаю з прыскокам працягнула Сідору руку, сарамяжа крыху ўхіліла голаў і расплылася ў адкрытую ўсьмешку. Далей Сідор пазнаўся з Міронам і Габрусём.

— Цэлая зборня тут у вас. Больш нічога й ня трэба,— падаў Сідор комплімэнт да ўсіх.

— А такі й гэтак,—пасьпяшыла згадзіцца Варвара.

— Сядайце, вось, Сідор Гаўрылавіч,—папрасіла Марыля.

Сідор прысеў пры ражку стала, выняў партабак і закурыў цыгарку.

— А ўсё-ж, скажу вам,—пускаючы рызыкоўна дым убок ад стала, пачаў казаць Сідор:—мне падабаецца вось гэткая кампанія. Сабе зьбярэшся сваёю хэўраю, пагутарыш шчыра праз што захочаш, павяселішся ўспамінамі—і часу шмат адшвырнуў. Усё менш жыць у гэтым пекле, якім цяпер стала наша жыцьцё... Ці-ж ня праўду кажу?

— Вось чыстая праўда, Сідор Гаўрылавіч,—падмацавала з мыцельніку Агнэса:—шчырая праўда, сынок. Я, таксама, часта спрачаюся і з Андрэем і з Макаром Плахаю, што цяпер куды горай ранейшага. А яны—гаварыцца не даюць.

Сідор пры апошніх словах зірнуў у бок Андрэя, і яму стала ніякавата, калі яны стрэліся сухімі сур'ёзнымі поглядамі.

— Я ня ведаю, як хто, а мне дык нудна цяпер стала жыць... І ўстроен я на добрай службе, не цярплю холаду ні голаду, маю мажлівасьць адзецца—а вось чагось не хапае. Як прыпомню старыя думкі, пляны ды жаданьні, дык сэрца дратуецца... А там, у нашым горадзе, скрозь чужыя людзі, якія з усім згадзіліся і, церпячы недастачы, у запой абараняюць сучаснае становішча. Слова аб іншым сказаць нельга. І я адным-адзін, як струц, увесь астатні час прабадзяўся. Чуць нуда не зарэзала... Страшэнна пацягнула сюды, у Вікуры, да старых таварышоў, далёка ад надаедлых мне сходаў і дэманстрацый... Мне думалася, што тут, у вашым кутку, жыцьцё не пачэпана так, як у горадзе...

Сідор сказаў гэта з нейкім запоем, гарда і ўважліва, гледзячы толькі на Агнэсу. Тая-ж з цікавасьцю, нязьмігутна

выслухала яго і мэрам-бы зачаравалася яго словамі, бо, калі ён кончыў, яна засталася сядзець моўчкі й нярухома.

Марыля з тавярышкаю, таксама, ўважліва выслухалі Сідора. Спакойна выслухалі яго і Паўлюк з Міронам.

Зусім іначай паглядзелі на яго словы Андрэй, Плаха і Габрусь. У асобку Андрэй, які ня мог сутрымацца ад сьмеху, і толькі Сідор скончыў, як ён падняўся з месца і сказаў:

— Дарэмна ты, Сідор, наракаеш на сучасны лад, зусім дарэмна. Мяне і дзівіць, чаму ты так кажаш. Паглядзець на цябе — нельга падумаць, што ты пакрыўджаны. Сам, нават, сазнаешся. У чым-жа рэч? Ня вышла так, як калісь мы разьлічвалі? Ня ходзім мы панамі, а перад намі шапак ня скідаюць? Ня блішчаць у нас на грудзях масяндзовыя гузікі? Гэтаму — праўда. Але, падумай сам, ці-ж у гэтым сэнс жыцьця? Ці гэта — устоі для яго? Мне думаецца, Сідор, што мы ашукваем сябе, калі марым аб нашых былых плянах і намерах. Запраўды — то былі толькі пустыя мары! І той, хто грунтуецца на іх, грунтуецца на пяску, на саломінцы... Памойму, пакуль вецер ня выдзьмуў канчаткова з-пад ног гэтага пяску — трэба сыйсьці з яго, каб не праваліцца ў бяздоньне...

— Паглядзі, паглядзі, Сідорка, — перабіла з нецярплівасьці Агнэса: — паглядзі, што пяе Андрэй! Ці-ж можна было падумаць на тое?

Сідор прынагнуў голаў, штосьці папісаў пальцам па стале, пасьля сказаў:

— Што-ж, усякае бывае. Ёсьць з рознаю воляю людзі... Памойму зусім іначай — малююцца здарэньні бягучага жыцьця. І я, — ён падняў голаў: — у толк сабе не вазьму, чаму людзі таго ня бачаць! Чаму яно асьляпляе іх... Проста — губляюся разумець... Не магу згадзіцца нізашто — не дапускае мяне штосьці.

— А я скажу вам, Сідор Гаўрылавіч, — уставіў Плаха: — згодзіцеся. Нельга не згадзіцца. Толькі падумаць трэ', разабрацца дасканала ўва ўсім — і тады згодзіцеся... Нас выхоўвалі на готэнтоцкай моралі — таму й атруцілі нам ясны змысл жыцьця... Запраўды — ці-ж мы не з таго дрэва, якое цяпер разраслося й пакрыла ўвесь край? Кроў у нас — кроў быўшых рабоў, але атручаная зьменаю да іх... Ведаеце, Сідор Гаўрылавіч, я нядаўна сам трымаўся вашых поглядаў, але пасьля, калі разблытаўся ў іх, разабраў іх па часьціне, дык пазнаў, што яны зусім не правідловыя погляды... І я з імі расстаўся на заўсёды. Расстаўся з імі і пачуў сябе новым, здаровым і сьвежым. Сьвежым, бо мяне асьвяжаюць тыя дзіўныя здарэньні, якія ўскалыхнулі наша цёмнае, прыгоннае

жыцьцё, зрушылі яго з мёртвае ўстойнасьці і паставілі на шлях...

— Слухай, Плаха, ты, як я бачу, таксама абмануты,— перабіў Плаху ўважліва слухаўшы іх гутарку Габрусь:—каб ужо так можна было зацягацца сучаснымі здарэньнямі, дык я не магу сказаць... Табе—ня відно... Сядзіш сабе ў школе, калупаешся ў кніжках—і толькі! Пэўна—кніга ня скажа таго, што ёсьць... Хоць і вакола кнігі ня вельмі надзейна... Але ты паспрабаваў-бы шчыльна стыкнуцца з жыцьцём—іншае запеў-бы... Ты паглядзі, што робіцца навокал! Сялянства голае і яшчэ абіраюць... інталігэнцыя загнана. Яе самотнасьць —ані што... Так і топчацца... Усе яе лятуценьні зьнішчаны... Мэрам-бы знарок пастаўлена мэта—зацямніць народ...

— Вось з гэтага боку—я цалкам з Габрусём,—уступіў у гутарку Паўлюк:—хай сабе іншае, ну з боку-ж няўвагі да інталігэнцыі, то не правідлова. Яна-ж—сок краю. А тут мэрам-бы вайну ёй абвясьцілі. Што-б яна не падала ў думках —нічога ня варта...

Хоць-бы з гэтай надаедлай школьнай справай. На табе і працоўную школу, на табе і беларускую мову, на табе і зьнішчэньне няграматнасьці... Усё разам і засап. А паспрабуй паспрачацца? Вось хоць-бы ў нас: паперка за паперкай —прыказ перайсьці да беларускае мовы... Каму й на што яна патрэбна? Які ў ёй толк? Што яна дасьць?.. Дык не! Паспрабавалі мы пратэставаць—ні ўвагі...

— Ха-ха-ха-а!—разьліліся сьмехам Марыля з Варвараю:— далася яна нам узнак—гэта беларуская мова... Папаваявалі мы супроць яе...

— А зьмірыліся-ж,—уставіў Мірон.

— Улада гэткая—гэткая і яе мова,—падала з мыцельніку Агнэса:—мужыкі... мужыкі—больш нічога... Уласана ім што далікатнае трэба?—Сідор уважліва выслухаў кожнага й відаць было, як хвіля ў хвілю мянялася міна на яго твары, робячыся то вясёлай, то няўвеpанай, то падазрэнай—адпаведна выказаным думкам. Казаў Габрусь—Сідор здаволена ўхмыляўся, загутарыў Паўлюк—ён супыніў ухмылку, а насташожана лавіў кожнае яго слова, прагна жадаючы пачуць большых скаргаў і наpаканьняў на сучасны лад.

На сьмех дзяўчат і выказ Агнэсы Сідор ізноў адказаў лёгкаю ўхмылкаю. Аднак уцалку—яго настрой падаў, брала раздум'е, ацягаў цяжар. Той дух, ад якога ён тужыўся ўцячы, вітаў вакол яго, дзе-б ён не супыніўся. Лятаў і труіў паветра. Сідору рабілася злосна; ненавісьць забірала яго. А разам з гэтым уставаў нейкі задзёр ні то ўпартасьць—настаяць

на сваім. Абураны гэтым, ён вылез з-за стала й, не перастаючы курыць, затупаў па хаце.

— Я бачу, што ў нас не хапае ўстойнасьці й мы скрозь пальцаў глядзімо на ўсё. Глумяць школу—няхай, не ўважаюць інталігэнцыі—няхай. Праз гэтыя «няхай» мы й робімся слугамі мужыкоў ды розных там... «з бору по сосенке». І, пэўна, замест настаяшчага, атрымоўваем падробленае. Замест вялікае расейскае мовы, падсоўваюць брахню нейкую... А маўчацьмем—сабакамі завыем... Запамятайце...

— Саба-акамі... Вось папаў, брат, пальцам у неба,—абураны Сідаравай размовай, падняўся з месца Андрэй:—Гаворачы так, як ты—даруй ужо мне—запраўды, раўняецца да сабачага брэху. Я так і бачу перад сабою вобраз, як быццам... ну, брэшам мы на месяц. Брэшам, каб брахаць. Няма на вошта—дык на месяц. Я вось чую тваё нездаваленьне, а скажы, што ты радзіш ад сябе? Нашы былыя мары? Балы ў станавога ды папа?.. Кончана, згніло, брат! Згніло вакол і ўсюды. І дарэмна ты думаў—калі толькі думаў!—што ў Вікурах знойдзеш ня ўзьнятую цаліну... Кончана... Адно цяпер на чарзе—гэта засеяць узьнятае і атруціць дармаедаў, каб не патравілі засеянага ..

Андрэй строма абарваў сваю гутарку і адвярнуўся ў вакно. Сідор, якога ён ня бачыў два гады і які абрадаваў яго сёньні сваім прыходам у Іспалком, цяпер выглядаў у яго ваччу зусім іншым, чужым чалавекам. Бывалашнія таварыскасьць, сумеснае плянаваньне будучыны іх жыцьця, цесная блізасьць, падзел самымі таемнымі перажыткамі—усё гэта, выбліснуўшы на момант, раптам заглухла, зьнябылася і іх месца заняло новае пачуцьцё. Гэтае новае пачуцьцё дыктавала Андрэю настойныя думкі, якія шапталі яму на вуха: „Закаранелы монархісты... непапраўны. Горай ранейшага. Не! Болей ён мне не таварыш... не магу цярпець—варочае“...

— Сідор Гаўрылавіч, вы ашукваецеся, падкрэсьліваю я,—каб згладзіць гострасьць Андрэевых слоў, мягка казаў Плаха:—Пэўна, мне ўжо вас не разуверыць, але мне здаецца, што ролю сабак насілі-бы мы тады, каб ішлі супроціў цяперашняга ладу. Нас выхоўвалі для гэтае ролі і ў гарадзкіх школах, і ў сэмінар'ях і ў інстытутах. Загналі ў нас зьвярынае пачуцьцё, і мы пад яго ўплывам знаходзімся дагэтуль. Нас пакалечылі змалку так моцна, што ажно й цяпер не апамятвацца, ня выраўняцца... Скалечылі нашу душу, зглумілі нашу самотнасьць. Ня дзіва, што кожная рэч, блізкая й зразумелая нам,—цяпер не да спадобы. Трэба лячыцца, трэба лячыцца, а то без пары загінем.

— Я адно хачу дадаць,—умяшаўся ўвесь час маўчаўшы

Мірон:—гэта з пытаньнем аб школе, якое чапаў Паўлюк. Я—не настаўнік. Я—быўшы валасны пісар, і мо' менш Паўлюка сьвядомы, ну толькі-ж, памойму, у школе нельга абыйсьціся бяз нашае, мужычае, простае мовы. Тут ніякім чынам ня выкруцішся... Я гэта ведаю са свае даўнейшае практыкі ў воласьці... Нашаму селяніну патрэбна даставаць адукацыю самым лёгкім парадкам; а гэты парадак ёсьць яго мова. Няможна пераскокваць там, дзе ёсьць магчымасьць перайсьці...

— Ну, брат, ты ўжо пакінь... Твае тэорыі нам усім вядомы... Ты, я табе скажу, просты фанатык—ня больш!—суха пераняў Мірона Паўлюк.

Пакуль ішла гэта гутарка, Марыля адыйшлася ад стала ў мыцельнік і колькі часу шапталася з мацерою. Пасьля Агнэса выбегла ў сені, пабыла там нейкі час і вярнулася ў хату з поўнымі тарэлкамі сыру й каўбасы. У гэты час Марыля штосьці бразгала пасудаю і ўвіхалася з самаварам. Хлопцы не зьвярталі на іх ніякае ўвагі і былі зьдзіўлены, калі раптам Марыля прынесла на стол тарэлку з каўбасою й бутэльку чарнаватае наліўкі.

— Годзе сварыцца—дайце гадзіцца,—жартліва падсказала яна да ўсіх.

І, бачачы, што хлопцы зарухалі з-за стала, дадала:

— Не палохайцеся, ша! Як сядзелі, так і заставайцеся сядзець.

Па чарзе—Андрэя, Плаху і Сідора, пасьпеўшых вылезьці на хату, яна вярнула за стол.

— Навошта-а гэта, цётка?—сумеўся Андрэй, калі Агнэса прынесла на стол яшчэ адну пасудзіну з закускаю.

— Вось маўчы. Я захацела пагадзіць вас тут. Навошта вам спрачацца? усе таварышы,—адказала рэзвая Агнэса.

— Го, цётачка, нас ужо цяжка пагадзіць,—нясур'ёзна завёў Мірон.

— А каб цябе халера ўзяла!.. Беларус ты заядлы... Няўжо такі ты не адкараскаешся ад свае беларушчыны няшчаснай?

— Тады, калі Сідор кіне быць яе ворагам...

Сідор пусьціў па твары лёгкую ўсьмешку і нічога не адказаў.

— Ну, расьселіся... Вось цяпер—за наша здароўе вып'ем па кілішку,—наліваючы з бутэлькі наліўку, выказала Агнэса:—Як-бы й ведала, што госьці будуць. Захавала яшчэ з восені.

— Умееце хаваць!—пажартаваў Паўлюк:—то-б то на мяне—ня выстаяла-бы столькі!

— Да ўжо ты вядомы чалавек!—уставіла Вера.

— Не чакайце-ж, не чакайце, сынкі. Вазьмеце, калі ласка,—упрашвала Агнэса.

Паўлюк першым узяў чарку, падняў яе і сказаў да ўсіх:

— Гэта-ж цяпер—золата. Гэта—Эвіна яблычка. Чаго тут пазіраць на яе?

І выпіў.

За ім апаражнілі свае чаркі і ўсе прысутныя. Агнэса, не даючы адгону, наліла па другой, а сьледам і па трэцяй. Наліўшы, яна над кожным настойвала выпіць, то ўгаварваючы, то пужаючы.

Гэткім чынам пляшка амаль без пярэдыху была апарожнена. Агнэса яе прыняла са стала й частавала госьцяў закускаю.

Наліўка падвесяліла ўсіх. Але больш другіх выглядала гэта на Сідоры. Ён раптам перайначыўся, адагнаў ад сябе задумлівасьць, сум і стаў непазнана рэзвым і храбрым.

— А ведаеце,—перабіваючы ўсіх, у голас пачаў ён казаць:—я ніколі ня думаў, што так выйдзе. Я не спадзяваўся, прызнаюся адкрыта, што ўсё так перайначылася й тут, у Вікурах... Дзіўна! Глуш, яма,—а глядзі ты! Не пазнаць... Не пазнаць нікога... нікога... Як быццам-бы я сяджу ў тым-жа Менску ці Гомлі...

Сідор адхіліўся да сьцяны і ня сьціхаючы курыў, старэнна размахваў рукамі, кажучы да Андрэя:

— Найбольш усяго, я не чакаў таго ад цябе, Андрэй. Не чакаў, што ты станеш тым, чым я цябе сустрэў сёньні... Ехаў і думаў: сустрэнуся з таварышамі й хоцькі душу адвяду... Пагутарым, успомнім мінулае, пацешымся і... адпачнем душою... Прызнацца, пераступаючы Іспалком, тое думаў... Чаму-ж не? Уласна нельга быць іспалкомцам і ненавідзець гэтую ўстанову, працу ў ёй і... усё!... Думаў, а яно—на табе... Цяпер... выбачайце, можа я кажу гэта, а заўтра, вось, Андрэй ці Плаха, ці Мірон возьмуць і прыдуць па мяне з міліцэйскім? Га? Ня можа таго стацца?... Сідор пакорна пазіраў у бок Андрэя, мэрам-бы выспрабоўваючы яго. Але Андрэй стрымна чакаў, пакуль Сідор выкажацца акурат і змоўкне. Чакаў і чуць прыкметна ўсьміхаўся, укладаючы ў гэты сьмех усё яскравей абураўшую ім халоднасьць і чэрствасьць да Сідора.

— Ды што ты, Сідор Гаўрылавіч, што ты! Гаспод з табою!—суцешвала Сідора Агнэса:—няўжо ты думаеш, што Андрэй зусім ворагам тваім зрабіўся? Што ты!

— Ворагам? Такі й ворагам!

— Зацяжна вымавіў Андрэй і колькі хвілін прамаўчаў:— ворагам!... Ня ворагам! Як-бы вам сказаць! Толькі... Сідор зусім неправідлова судзіць, скажу я вам. Сідор астаўся тым, які й восем гадоў таму назад пяяў на клірасе „Спасі, госпадзі“, а я ў станавога—«Божа, цара храні!»—і матыў гэтых пратухлых песьняў дагэтуль шуміць у яго вушшу... Ён, пэўна, думаў, што гэты матыў шуміць і над усімі Вікурамі. Дзеля таго і трапіў сюды, але абмыліўся. Мы выйшлі з-пад гэтага матыву. Нам зьвіняць новыя песьні. І паміж намі, як паміж гэтымі песьнямі, нічога агульнага няма.

Выказаўшы гэта, Андрэй змоўк. Маўчалі і ўсе. Дзяўчаты, Марыля й Вера, незьясьнёна-ўкрадчыва перакідаліся між сабою мігамі, чуючы нейкую нацягнутасьць у паветры. Агнэса перш штосьці хацела папярэчыць Андрэю, але разам загразла ў яе горле тое, што яна мелася выказаць, і яна засталася маўчаць. Сідор, як-бы ня сумеўся зразу ад калючых слоў Андрэя й толькі ў адказ на іх часьцей пачаў зацягацца цыгаркаю. Усе астатнія, таксама, ня ведалі, куды павярнуць далейшую гутарку, і хто задуманна, а хто абурана чагосьці чакалі.

Гэтак прайшло каля пяці хвілін, якія паказаліся для ўсіх чуць ня годам. Далей нельга было маўчаць, бо то-б урэшту разнэрвавала кожанга, і Плаха перарваў маўклівасьць.

— Мне здаецца, што тут ня час і ня места вясьці нашу спрэчку. Тым болей, што мы ня вырашым адразу нашага пытаньня. Я раджу перайсьці да іншай тэмы.

— Вось праўду кажа Макар,—пахваліла раптам знайшоўшая сябе Агнэса:—памойму, запяялі-бы песьню якую.

— Давайце! Запраўды, хлопцы!—рачавіта падцяла мацеры Марыля.—Вера,—зьвярнулася яна да Веры,—заводзь штокольвечы. Ну, хутчэй!

— Хай без мяне хто пачне,—аднеквалася Вера:—я ня ведаю, якую пачаць.

— За ўладу саветаў — дужа пекны напеў, — парадзіў Мірон.

— Памойму лепей „Не осенний мелкий дождичек“,—падаў ад сябе Паўлюк.

Вера сарамяжа кашлянула разы два, абацёрла хустачкаю губы й нясьмела, папярхаючыся, зацягнула «Не осенний мелкий дождичек». Ёй сталі падцінаць Агнэса, Марыля й Паўлюк. Сідор, Андрэй і іншыя сядзелі моўчкі, кожны думаючы сваё.

— А вы-ж чаго маўчыце?—пяючы, запытала Агнэса:— пасабляйце пяяць.

Сідор як-бы гэтага й чакаў, падняўся й выйшаў з-за стала. Пасьля паглядзеў праз фіранку ў вакне на вуліцу й прайшоў па хаце.

— Цікава, як позна?—абярнуўся да яго Плаха.

Сідор выняў загарак, паглядзеў і адказаў:

— Другая гадзіна.

— Го-о-о! Чуў, Андрэй? Ці не пара зьбірацца да хаты?—абярнуўся Плаха да Андрэя.

Той таксама выйшаў з-за стала на хату.

Гэты іх рух зьвярнуў на сябе ўвагу Агнэсы й дзяўчат, і тыя кінулі пяяць ды зьвярнуліся да хлопцаў.

— Куды вам сьпяшыць? Яшчэ рана. Ночы вялікія. Гуляйце! Андрэй, Макар, Сідор!

— Не, я ўжо ня магу,—запэўняў Андрэй:—трэ' яшчэ даклад напісаць сёньні. Дзякую, цётачка, за ўсё, прабачайце! Ужо ў суботу нагонім за гэта... Абрыдаем вам.

— Да чакай, не разладжвай кампаніі,—хапіла гаспадыня Андрэя за рукаў.

— Не, не, цётачка, я мушу пайсьці...—адказаўся Андрэй.

— Ну, дык хай сабе ён ідзе,—абярнулася Агнэса да ўсіх: —а вы, хлопцы, астанецеся пакуль... Яму—што-ж, як міністру асьветы, больш клопатаў, а вы...

— І я пайду,—падаў Плаха.

— І я,—далучыўся Мірон.

— Што вы? чаго гэта!?—накінулася на іх Агнэса.

— А мы, Сідор, давай астанемся яшчэ!? Цётка, хай сабе яны йдуць! Можа хопіць і нас?—пажартаваў Паўлюк.

Андрэй, Плаха й Мірон разьвіталіся з усімі за рукі, падзяквалі гаспадыню за пачостку й выйшлі з хаты.

Марыля іх правяла ажно да вешніц.

## IV.

Пасьля таго, як Андрэй, Плаха й Мірон выйшлі з хаты, усе, што засталіся, з паўгадзіны маўчалі. Сідор пахаджваў па хаце, засунуўшы рукі ў кішэні; Габрусь сьцягнуў з паліцы „Ніву“ і разглядаў у ёй малюнкі; Паўлюк штосьці запісваў у кніжачку, а Агнэса з Марыляю прыбіралі са стала; Вера-ж узіралася ў люстэрка. Ці ніхто ня меў жаднае гаворкі, ці мо кожны меў, а чамусьці ня мог ці не хацеў першым адкрываць рот—няведама. У кожным разе ўсе былі мэрам згавораны й гэту паўгадзіну маўчалі, пакуль не перарвала іх маўкліваасьці Агнэса.

— Што-ж вы бяз іх і гутаркі ня знойдзеце? Можна абыйсьціся й бяз іх. Ня вельмі яны пажаданы.

— Вось, бачыце, Сідор Гаўрылавіч, як водзіцца ў нас. Скажы што-кольвечы супроць Савецкага—дык як накінуцца... І свае лічацца, а глядзіце—ужо за бальшавікамі. Ліха ведае, што робіцца. У вачавідкі... Хоць-бы гэты, Плаха: яшчэ нядаўначка выступаў і супроціў працоўнае школы і супроціў беларускае мовы і... а гэта ўжо—цягне за Андрэем. Куды—і гаварыць не дае!—заспавядалася Марыля.

— Так, праўда, пераіначыўся Плаха крута і, галоўнае, на вачох. Мірон таксама шчыльна падыйшоў да бальшавікоў. Цягне, меле на вачох,—падмацаваў Марылін выказ Паўлюк.

— Ну, а калі гэта з Андрэем сталася?—пацікавіўся Сідор.

— Да ўжо даўно... З год таму ці болей...

— З год?! І ня мог выстаяць... цікава! А я не пасьпеў у Вікуры ўехаць, як зразу да яго!.. Вось дык штука-а-а!

На гэту-ж тэму, на тэму аб страце ў таварыскасьці ўсё большага й большага ліку іх аднадумцаў—нядаўных няпрыхільнікаў да Савецкага ладу і ўсіх яго чыннасьцяў—у хаце Слоеў яшчэ каля гадзіны йшла бойкая гутарка. Сідор не пераставаў дзівіцца з таго, як і што ён сустрэў у Вікурах, і безнадзейна стараўся пераконваць прысутных у шкадлівасьці работнічай улады, празываючы яе markednymi розными ганебнымі мянушкамі. Паўлюк і Габрусь у мякчэйшых выразах скардзіліся яму на тыя кары, якія абрынуліся з боку Савецкае ўлады на вікураўскіх жыхароў наогул і на вікураўскую інталігэнцыю ў асобку. Дзяўчаты і разам Агнэса выводзілі, што частка гэтых кар пала на іх у адплату іх ня дружнай ды не зьяднанай супярэчнасьці „бальшавіцкаму гвалту“.

— Вось глядзеце,—казала яна:—пачакалі-бы год-другі, не пайшлі-бы на службу да іх—і самі-б яны пакланіліся вам: ідзеце, вучэце. А то запрашаюць ронзымі абяцанкамі, а там толькі разладуюць, каб пасьля зьневажаць ды глуміцца паасобку над кожным...

Гэтых Агнэсіных даказаў было мала, каб паверыць у іх сілу і практычнасьць, нават, дзяўчатам, але як хлопцы, гэтак і дзяўчаты, паддаквалі ёй і згодна пакіўвалі галавамі. Ад абгавору сучаснага становішча яны перайшлі да ўспамінаў аб мінулых часох. І тут Агнэса ўдоваль нагаварылася:- чаго-чаго ня ўспомніла, колькі разоў спогадна ня ўздыхнула! Вывела напаверх розныя падрабязгі сваіх спатканьняў і знаёмстваў з высокімі асобамі, іх самавітасьць, гонар і далікатнасьць. Расказала аб знатных на ўвесь павет вечарынках

і гулянках... Поп і пападзьдзя, станавы, земскі, доктар і іх жонкі скланяліся на ўсе лады.

За Агнэсаю аднавілі свае пераджыткі Сідор, Габрусь і Паўлюк. І яны, кожны па сабе, нагаварылі памногу. Толькі Марыля й Вера, як маладзейшыя за іх і выйшаўшыя „ў людзі“ ў першыя часы рэвалюцыі, не маглі, вядома, налагодзіцца „шчаснасьцю“ старое пары і ня мелі нічым пахваліцца. Затое праз усю пору гутаркі Агнэсы й хлопцаў—яны спогадна пакіўвалі галавамі й завідвалі ім напавер.

— А потым, мне здаецца, яшчэ нельга судзіць аб усім па Андрэі й Пласе,—самасуцешна падаў Сідор, калі „ўспаміны“ надаелі.—Важнае—як мужыкі да мяшчане судзяць. Андрэй ці Плаха—то іскрачкі, выпушчаныя на вецер.

— Гой, Сідорка, на мяшчан ды мужыкоў няма чаго спадзявацца—стада, дурныя,—махнула рукою Агнэса.

— Не кажэце, цётка,—перабіў яе Паўлюк:—мужыкі—гэта патайны куток. Сярод іх мала ёсьць спагадчыкаў да ўлады.

— Вось пазаўтра маецца быць сялянская нарада, можна будзе падзівіцца,—паведаміў Габрусь.

— Пазаўтра?—хапіўся Сідор.—Цікава! Ня йначай трэба будзе пабыць ды паслухаць. А то яшчэ не даводзілася слухаць мужыкоў за гэтыя гады...

— Пойдзем, я да вас зайду, Сідор Гаўрылавіч,—запрапанавала Марыля.

— Дзякую, калі ласка! Пачакаю вас.

Пагутарыўшы яшчэ нейкі час, яны сабраліся разыходзіцца. Было чатыры гадзіны па поўначы, але Агнэса ўсё яшчэ ўгаварвала пагуляць. Толькі ў яе ўгаворах была адна далікатнасьць і зусім мала настойнасьці. Ды каб старчыла апошняга, ужо нельга было-бы далей паліць агню. У суседніх хатах—калі ўжо пакладаліся спаць, а гэта чатыры гадзіны па поўначы—і агонь жукаціць.

Хлопцы й Вера разьвіталіся з Слоевымі і пакінулі хату.

— Прыходзьце заўтра, будзем чакаць,—папрасіла Марыля, правёўшы іх да вуліцы.

## V.

Прыйшоўшы да хаты, Сідор не хацеў засьвечваць агню і цішком разьдзеўся ды ўлёгся. Але хоць канчалася пятая гадзіна, яму ня рупіла заснуць. Ды каб рупіла—наляцеўшыя ў голаў думкі аб чутым, бачаным не дазволілі-бы яму супакоіцца. Цэлым шэрагам занасіліся яны перад ім і адцягалі яго ўвагу на сябе.

Сідор ляжаў адзін, а Андрэй, Плаха, Мірон і сотні вобразаў розных камуністых і іх прыхільнікаў, з якімі даводзілася яму мець дачыненьні, гамузам вярцеліся перад яго вачмі, хоць і заплюшчанымі і захованымі пад коўдру. У вушшу гулі водрукі іх слоў, вынікалі цэлыя прамовы, чужыя, ненавісныя, але й страшныя, пагражаючыя. Сідору здавалася, што й цяпер вось поўна хата варожых яму людзей, якія вартуюць яго і мерацца накінуцца, каб задавіць.

Ззаду, на другім ложку хроп яго швагер, муж сястры, а Сідор трывожна прыслухоўваўся, баючыся, каб ён ня ўстаў і не далучыўся да другіх. З вялікім натугам стараўся Сідор адцягнуць думкі ў іншы бок, занядбаць здань—і тады, калі гэта ўдавалася яму, ён спатыкаўся з зачарованай дзядзінай варожасьці, якая, таксама, прыгнятала яго душу.

Толькі на досьвітку Сідор успакоіўся й заснуў, але сон быў трывожны і ён не адпачнуў. Ён прачнуўся а дзесятай гадзіне. Сястра ўжо паліла ў печы, а швагер дзесь увіхаўся з гавядаю. На вуліцы было хмарна і ў хаце цёмна. Гэта горшыла Сідораў настрой. Каб гэта ня ў чужой хаце—ён-бы не падняўся сёньні з пасьцелі праз цэлы дзень. Але ніякавата перад шваграм, з якім—хто яго ведае?—як яшчэ прыдзецца расстацца.

— Сідор, ты ўжо ня сьпіш?—запытала сястра з мыцельніку, убачыўшы, як Сідор паварушыўся.

— А ўжо!—адказаў ён.

— Ну, ці-ж патрапіў учора адчыніць?—задала Сідору другое пытаньне сястра.

— Чаму не, патрапіў.

— А як спалася?

— Дрэнна...

— Чаго?

— Проста так... Не ўпадабалася мне тут. Зусім ня тое, чаго чакаў. Трэба хутка пакідаць вас...

— Чаму?

— Ды так! Гэтае дабро я і ў сваім горадзе знайду.

— Ды кінь ты мудрыць... Чаго табе трэба асобнага?—разуважыла яго сястра.

— Мне трэба... Я проста думаў: спаткаю сваіх старых прыяцеляў, падзялюся з імі старымі думкамі, час весела правяду... А тут, усе былыя прыяцелі—цяпер ворагі...

— Ня думаю, каб усе,—разуважыла йзноў Юста.

Далей Сідор не казаў, бо ў сенцах бразнулі дзьверы. Ён пасьпешна саскочыў з ложка й пачаў адзявацца.

Хутка ў хату вайшоў Юрка.

— Адлега будзе на дварэ,—вымавіў ён, бяручыся за цыгарку.—Ну, а як у цябе са сьнеданьнем?—запытаў ён у жонкі.

— Вось, скора можна сьнедаць, няхай Сідор памыецца.

— Ай, чаго там мыцца, можна й так,—пажартаваў Юрка.

Сідор змаўчаў і палез у свой куфэрак за ўціральнікам, кабісьці мыцца.

---

Па сьнеданьні Сідор доўгі час аставаўся ў хаце. Сястра й швагер разыйшліся па справах, а ён адзін то тупаў, то прылягаў на ложак, то браўся за кніжку—творы Данілеўскага. Пачасту ён зазіраў у вакно і праводзіў вачыма прахожых. Ісьці нікуды не хацелася. Успамінаў аб Іспалкоме—рабілася няпрыемна, пераносіўся да Слоеў—і лічыў няздатным ісьці днём. Ды к таму—чакаў сам Марылі. Выкрадалася жаданьне, каб хто да яго прыйшоў пагуляць. З гэтых „хто“, Сідор разумеў Паўлюка ці Габруся. Але час ішоў,—а ніхто не наведваў. І каля другое гадзіны ўдзень ён сам выйшаў на вуліцу. Выйшаў, пастаяў з часіну каля двара, а пасьля пайшоў на рынак. Падбліжаючыся к рынку, мо' на паўгоні ад яго ён угледзіў выйшаўшага з-за вугла Паўлюка, які таксама йшоў на рынак. Сідор аклікнуў яго. Той стаў і насустрэч Сідору запытаў:

— У Іспалком?

— Не, чаму?

— А там сёньні нейкая нарада на-конт школ. Знарочыста выклікалі мяне,—паведаў Паўлюк.—Зайдзем, цікава! Пачуеш, як Андрэй будзе бальшавістваць.

Сідор падумаў.

— Што-ж, усё роўна няма куды йсьці—давай пойдзем, паслухаем,—згадзіўся ён.

Яны павярнулі да Іспалкому. Выйшаўшы на ўзгрудак, што пукаціў рынкавы пляц, яны здалёк убачылі, як туды-ж, у Іспалксм, пайшла Слоева Марыля.

— Цікава, што там будзе? Пэўна, інструктар які прыехаў,—дзівіўся неспакойна Паўлюк, калі яны падыходзілі да будынку Іспалкому.

— Ня бойся адно,—суцяшаў Сідор.

— Ды хто іх баяўся, толькі... прыстаюць...

У дзьверах яны змоўклі і ўвайшлі ў Іспалком моўчкі. Ці з-за адмечанай нарады, ці праз іншыя прычыны—толькі ў Іспалкоме на гэты раз сельскай публікі было шмат меней учарашняга. За тое ўсе іспалкомцы былі сабраны ў аднэй ка-

морцы, седзячы чынна каля Андрэевага стала. У іх грамадцы стаяў гоман, сярод якога выдзяляліся й пагрозныя словы.

Сідор з Паўлюком падыйшлі да грамадкі і ўгледзілі ў ёй усё вікурскае настаўніцтва, некалькі пастароньніх настаўнікаў і за сталом перад імі прадсядацеля Іспалкому ды сакратара. Ніхто не зьвярнуў на іх увагі і не адказаў на выказанае Сідорам прывітаньне. Было не да іх.

— Так быць не павінна,—начальнічым голасам казаў прадсядацель Іспалкому, малады здаровы хлопец.—Паглядзеце,—ён таркаў пальцам у газэту:—трэці раз пішуць у газэтах праз нашу вучылішчную справу. Ці-ж то добра? Вы са сваёю контр-рэвалюцыйнаю ўпартасьцю не даеце мне вольна працаваць! Думаеце, што гэта жарты! Мінула тая пара, каб жартаваць. Велена так—так і мусіце рабіць! Мала, што вам не падабаецца тое ці іншае! Можа й сама рэвалюцыя многім з вас не падабаецца, дык будзеце ўпірацца супроць яе? Гэта апасьлівая рэч, грамадзяне! Хто супроціў народу пойдзе, той гатоў голаў сабе зламаць.

— Таварыш Сьліва,—пераняў яго адзін з грамадкі: — што-ж, запраўды, вы раўняеце адно з другім; уласна, да прыкладу скажам, якая-кольвечы там беларуская мова мае што агульнае з рэвалюцыяй? Навошта палку перагінаць у вадзін бок?..

— Так, так,—адазваўся Мірон:—павашаму беларуская мова нічога ня мае агульнага з рэвалюцыяй, за тое, мабыць, родны з ёю закон божы!.. Ведама ўжо вас... Ні працоўная школа ня мае адносіны да рэвалюцыі, ні беларуская мова, ні... нават, сама рэвалюцыя...

— Ш-ша-а, таварыш Мірон,—перабіў Андрэй і зьвярнуўся да слухаючых:

— Усё, што вам падносіць Савецкая ўлада—то ёсьць ад рэвалюцыі. І супроціў яго змагацца—то змагацца супроціў працоўнага народу. Іначай судзіць нельга... Ваш ухіл ад прыказаў наркамасьветы—гэта контр-рэвалюцыя... Памятайце... Гэта наша перадапошняе напамненьне тым, хто злосна стараецца йсьці насупроціў...

Андрэй замоўк, недасказаўшы і, павярнуўшыся да прадсядацеля Іспалкому, штосьці шапнуў яму. Той падаў згоду кіўком галавы, а сам вылез з-за стала і пайшоў у свой „габінэт“.

— Я толькі дзеля гэтага й выклікаў вас,—суха падаў Андрэй і таксама выйшаў з-за стала.

Грамадка, зацішаная й расстроеная, спакойліва распаўзлася па пакоі і пачала разыходзіцца. Сідор не адступаў ад Паў-

люка і выйшаў разам з ім. Словы Андрэя, укладзеная ў іх рашучасьць не давалі Сідору сумнявацца, што Андрэй зусім парваў з мінулым, а разам і з ім, Сідорам. І ў нутры Сідора ўзьнялося з новаю сілаю варожае пачуцьцё да свайго быўшага таварыша. Абураны гэтым пачуцьцём, Сідор адначасна і злаваўся на Андрэя і баяўся яго, каб ён ня вывеў на паверх яго сутнасьці.

Выйшаўшы на вуліцу, Сідор заядла ўпікнуў сябе за тое, што ліха надало паслухаць Паўлюка й прыйсьці ў Іспалком пасьведчыць Андрэева бальшавіцтва. Крывіўся ён за гэта й на Паўлюка, хоць і бачыў, што таму таксама мулка на сэрцы.

— Бачыце, Сідор Гаўрылавіч, як тут робіцца,—азірнуўшыся назад і па баках, ці ня слухае хто іх, паскардзіўся Паўлюк, калі яны адышліся шмат ад Іспалкому:—Гаворыць, як б'е, а, думаеце, амаль ня ўсе на яго баку, бо гэта ёсьць хітрая выдумка: усе пагрозы пакіраваны толькі на некалькіх настаўнікаў, а ўсе пазваны на ўвагу... Бачыце—толькі адзін Язэп аказаўся...

— Я ня думаў гэтага, не спадзяваўся, каб так глыбока ўелася гэта бальшавіцтва вакола і ўсюды,—адказаў Сідор.—Пакуль ня прыехаў у Вікуры—ня верыў. А тота-ж, як не паглядзі—навакола, навакола... Скажэце, Павал Сымонавіч, заўтра прыдзеце на конфэрэнцыю сялян?—мэрам-бы чакаючы сабе ўцехі ў перадстаячай конфэрэнцыі сялян, з асобнай цікавасьцю зьвярнуўся Сідор да Паўлюка.

Паўлюк ізноў падазрэнна паглядзеў вакола й прыцішаным голасам адказаў:

— І сялянства такое самае... Што-б не сказала Савецкая ўлада—тое й робіць... Усе павіннасьці выпаўняе, усе прыказы слухае...—Ён яшчэ прыцішыў голас:—толькі вось летам крыху было раскалыхалася, ды то бяспуцёва... А пасьля—як пляйстрык да цела, ліпне да саветаў. Спадабала, Сідор Гаўрылавіч, спадабала гэты лад... Чаму? што?—толку не дабраць...

Сідору цяжка было далей што-кольвечы казаць. Яму не хацелася верыць тэй зьяве, якая яго аколіла й канчаткова труіла ўсе яго надзеі на скоры канец нялюбай яму ўлады. Месца службы, дзе ўдавалася яму прысебравацца да ўмоў, выцягаць мажлівасьці да самавітага жыцьця і поруч псаваць машыну працы, ці паягонаму, ужываць змаганьне з нялюбым ладам—тое месца паказалася яму страшыдлам з вушамі й вачамі, з языком, які, чаго добрага, толькі ён, Сідор, прыедзе, усё выкажа, усё выявіць. „Ці варта варочацца назад, ці мае мэту зрабіць гэта? Для чаго й на што? Якая карысьць?.. Але не вярнуцца туды—то дзе-ж дзецца? Не астацца-ж тут

вось, у Вікурах, дзе нядаўнія таварышы сталі бальшавікамі, ня хочуць з ім лічыцца, а з часам гатовы... ой... Трэ' будзе ехаць, хоць"...

— Сідор Гаўрылавіч!—перабіў Сідаравы думкі Паўлюк, калі яны падыйшлі да вуліцы, на якой стаяла хата Сідаравай сястры:—што-ж, можа вечарам прыдзеце да Марылі?

— Ня ведаю...

— Прыходзьце, сёньні «тыя» ня прыдуць. Мы адны зьбяромся й пагуляем.

— Ня ведаю.

— Ці-ж цэлую ноч сядзець дома?

— Можа й прыду.

— Прыходзьце.

На гэтым яны разыйшліся. Сідор пасьпешна, ня кідаючы думак, пайшоў праміком да сябе на кватэру і ўжо нікуды ня выходзіў.

## VI.

Назаўтра а першай гадзіне, толькі Сідор пасьпеў паабедаць, да яго прыйшла настаўніца Марыля Слой.

— Ну, пойдзем на конфэрэнцыю, Сідор Гаўрылавіч,—пазвала яна яго.

— Мо'-ж яшчэ рана?—запытаўся Юрка, Сідораў швагер.

— Не! як ішла да вас, то бачыла—мужчыны ўжо йшлі.

— А! Трэба йсьці і мне,—сказаў Юрка.

— І табе?!—зьдзівіўся Сідор:—з якое-ж ласкі табе?—запытаў ён швагра.

— Як, з якое ласкі? Наш Лагчынны райён выбраў мяне ўпаўнамоцным. Быў надоечы сход і выбраў мяне ды яшчэ двох суседзяў.

— Ого! Каб яшчэ ды ён дзе прапусьціў! Гэта-ж, на яго ліха, так ударыўся ў бальшавіцтва, што няма рады... Бяду нацягае на дом. Вось прыдуць палякі ці хто іншы, дык ліха ведама, што рабіцьме. А, думаеш, ён шманае аб чым? Каб ён так жыў... І колькі ўжо ўшчуваю яго й колькі сваруся! я яму—хоць-бы што!—размахваючы рукамі й прытоптваючы нагамі, ушчувала Юрку жонка.

А Юрка, не шманаючы на жончыну гняўлівасьць, здавольна пасьмейваўся. Калі-ж тая скончыла яго спавядаць, ён пакруціў галавою, зацягнуўся папяросаю й сказаў:

— Цудная ты, зусім цудная! Гаворыш—сама ня ведаеш што. Няўжо табе галава баліць аб тым, што я раблю? Або чым табе пашкодзіла Савецкая ўлада, што ты на яе гаўкаеш

заўсёды? Палякоў шкадуеш? Забралі сьвіньню, дык хацела-б, каб і карову ім убавіць!.. Эх, баб'ё, баб'ё! многа яшчэ вас трэба вучыць...

Выказаўшы гэта, Юрка адзеў кажух і выйшаў з хаты. Юста вожыкам паглядзела ўсьлед мужу і яшчэ не дала яму выйсьці з сянец, як пачала йзноў спавядаць яго за бальшавіцтва.

Марыля, якая маўчала пры Юрку, цяпер здаволена ўхмылялася, цешачыся гаворкаю Юсты. Хвіліна-ад-хвіліны яна пазірала й на Сідора, які, зрабіўшы злосную міну, пазіраў у вакно ўсьлед за шваграм.

— Запраўды, цётка!—не сьцярпела Марыля:—ваш дзядзька мудрэй за другіх уцягнуўся ў бальшавіцтва. Нідзе нічога іхняга не прапусьціць.

— Няхай на яго прогліца, няхай...

— Прогліца-а!—скрозь зубы вымавіў адвярнуўшыся з вакна Сідор:—гэта ўжо праклёнам нічога не пасобіш, галубка. Зьвіхнуўся чалавек—і толькі!.. Зьвіхнуўся і—ведаеш, Юста?—стаў мне праціўным! Глядзець я не магу на яго. Лічу, што ты няшчаснаю стала, сястра...

Сідор выказаў гэта з цьвёрдасьцю й са шчырасьцю. Тут ужо нельга было яму пярэчыць, каб хто й хацеў. Ні Марыля, ні Юста й ня думалі гэта рабіць: яны маўчалі. Нічога не хацеў больш казаць і Сідор. Ён моўчкі адзеўся, закурыў папяроску й зьвярнуўся да Марылі:

— Ну, пяройдзем, паслухаем, што сяляне казацьмуць на нарадзе. Як абмываць муць гэтых...

— Вы так сама ў Іспалком?—запытала іх Юста.

— Так! Пойдзем паслухаем.

Юста нічога не сказала й гасьцінна прайшла за імі да вуліцы.

Сідор з Марыляю ціхім крокам направіліся проста ў Іспалком.

Ідучы, яны вялі гутарку на балючую для Сідора тэму—аб размахе ўплыву камуністых на сялянства. Марыля мала што ведала аб гэтым і не магла нічога пэўнага паведаміць Сідору. Яна ў гэтым пытаньні не разьбіралася, а заўсёды адказвала на яго чужымі словамі брахні ды зьнявагі.

Гутарачы так, яны падыйшлі да Іспалкому. Каля будынку і ў двары стаяла шмат падводаў. У Іспалкоме чуўся гоман, па якому можна было судзіць, што там сабралася многа дэлегатаў. Тымчасам з усіх канцоў мястэчка яны яшчэ падыходзілі й пад'яжджалі.

Сідор з Марыляю спыніліся каля двара; Сідору хацелася

паслухаць, што гутараць прыежджыя й які іх настрой. Вось кожнага дэлегата ён абводзіў вачыма з ног да галавы, зазіраў яму ў твар. Сачыў і бачыў: усе яны, больш пажылыя мужчыны, выглядалі весела настроенымі і ў гутарках выказвалі зацікаўленасьць нарадаю. Адзін другому расказвалі, хто што мае казаць, як і што йдзе ў іх вёсках будаўніцтва Савецкага ладу, збор падатку, разьмеркаваньне зямлі. Ніводнае скаргі на сваё становішча Сідор не пачуў.

— Ну, пойдзем у сярэдзіну,—сказаў ён да Марылі. Яны праз некалькі часу ўвайшлі ў Іспалком. Невялікае памяшканьне было бітком набіта людзьмі. Яны займалі ўсю канцылярыю й дзьве бакавыя каморкі, высвабаджаныя ад сталоў і застаўленыя лаўкамі. У «габінэце» прадсядацеля Іспалкому, таксама адчыненым насьцеж, стаяў стол, прыгатаваны для прэзыдыуму. Вакол стала грудзілася з дзесятак чалавек, якія запісвалі свае мандаты. Было душна і пахла вёскаю, сукном і чорным хлебам. Сідор з Марыляю на момант спыніліся пры дзьвярох і абгледзілі вакол памяшканьне: нідзе ня відаць было вольнага месца. Сяк-так яны праціснуліся да задняй сьцяны й прытуліліся да вакна. Праз некалькі хвілін пачуўся званок і гоман змоўк. У Іспалкоме стала ціха, ціха. Усе настаражыліся і, як адзін, узорыліся ў „габінэт“ прадсядацеля. У „габінэце“ за сталом сядзела два чалавекі—прадсядацель Іспалкому й пісар. Яны штосьці між сабою перашэптваліся, азіраючыся на „салю“. Пасьля прадсядацель устаў і выказаў да дэлегатаў:

— Непартыйную сялянскую конфэрэнцыю я лічу адчыненай. Прапаную выбраць прэзыдыум.

На яго прапазыцыю выйшаў адзін з ліку дэлегатаў і прачытаў сьпіс прэзыдыуму, які прапанавала комуністычная фракцыя. У ліку другіх у сьпісу было прозьвішча Андрэя, якога мецілі ў таварышы прадсядацеля нарады. Прадсядацель Іспалкому прагаласаваў сьпісак. Цэлы лес рук амаль ня ўсіх дэлегатаў паднялося ўгору.

— Аднагалосна,—паведаміў прадсядацель Іспалкому, і тут-жа яго словы заглушылі моцныя воплескі.

Сідор пільна прыслухоўваўся да кожнага слова, і калі перш пачуў імя й прозьвішча Андрэя, а пасьля ўбачыў, як Андрэй разам з другімі пайшоў і сеў за сталом, ён злосна скрыгануў зубамі й адвярнуўся ў бок. Вострая злосьць на Андрэя падсказала яму кінуць Іспалком і ўцячы дадому, але гэта было-бы роўна таму, што Сідор ня выпаўніў-бы паложанай сабе задачы—і ён перамог узьняты настрой ды астаўся.

За выбарамі тут-жа пайшлі даклады. Першы рабіў даклад прадсядацель Іспалкому аб сучасным становішчы Савецкае ўлады. Сідор папераменна сачыў вачмі то за прамоўцам, то за сялянамі, якія ціхутка, з увагаю слухалі яго. Ніхто з іх не варушыўся, ніхто ня кашляў, а ўсе, як адзін, пільна сачылі вачмі ў „габінэт“, дзе сядзеў прэзыдыум. У словах дакладчыка часта зычэлі гострыя лаянкі на кулакоў, пагрозы за іх шкодную працу. Дакладчык, таксама, адмячаў клапоты Савецкай улады аб сялянстве і заклікаў яго нясьціханна працаваць па адбудаваньню краю.

Сідор на гэтых мясьцінах дакладу яшчэ ўважней насторожваўся і нясупынна абводзіў усіх прысутных. Яму ня верылася, каб ніхто з дэлегатаў ня выгукнуў якое-кольвечы лаянкі на Савецкую ўладу ці не падаў спрэчкі прамоўцу. Хвіліна-ад-хвіліны да яго падыходзіла нейкая ні то радасьць, ні то самаўцеха, што вось-вось паднімецца протэст мужыкоў і ўся нарада пойдзе ўверх дном.

Але дакладчык пераказаў усю прамову і ніхто не прараніў і слова. Калі-ж скончыў, то зычны гул воплескаў быў пасланы ў аддзяку за даклад. Пасьля дэлегаты, як пчолы, рэзва загаманілі паміж сабою, весела настроіліся і адзін за адным у голас падавалі выказы: „О, і маладзец, наш Ровень!“ „Вот, праўду сказаў!“, „Ёсьць чаго паслухаць!“. Каля дваццацёх чалавек сарваліся з месцаў і панясьліся да стала, каб узяць слова ў спрэчках.

А калі спрэчкі пачаліся, дык толькі й чуўся з вуснаў кожнага прамоўцы жывы, гарачы водгук на воклік дакладчыка. У кароткіх, нескладных прамовах цэлы шэраг сівых барадатых сялян засьведчылі сваю ўвагу, сваю спагаду да Савецкага ладу ды яго парадкаў. Атрымоўвалася ўражаньне, мэрам-бы ўся нарада сабралася ў Іспалком, каб урачыста прывітаць тую гадзіну, якая прынесла ім жаданую волю.

Гэты настрой кідаў Сідора то ў жар, то ў холад. Штосьць цягнула яго хутчэй уцякаць, а разам другая сіла прыкоўвала яго к месцу. Марыля некалькі разоў звала яго выйсьці, але ён аднекваўся і ня пускаў яе.

— Вось хай скончаць гэта пытаньне—няпраўда, прарвецца! Вось мо' хоць адзін прамоўца знойдзецца,—папрасіў Сідор Марылі, калі яна пагрозілася аднэй пайсьці.

— Ну, добра! Толькі адзін,—згадзілася яна:—усё роўна нічога новага ня скажа.

Якраз гэтым адным папаў Юрка. Сідор ня прымеціў, як той апынуўся для стала, але толькі прымеціў швагра, як моцна скалануўся ад гневу і азірнуўся на Марылю:—

— Бачылі гэта?

— Юрка!—прашаптала тая.—Пачуем, што скажа!

- Не, годзе! Ідзём!—папрасіў Сідор Марылю.

Таўхаючыся між людзей, яны пайшлі да дзьвярэй, а ўсьлед ім нясьліся гучныя словы Юркі: „Мы павінны помніць адно: што нам далі польскія паны, і што зрабілі нам бальшавікі. А памятаць паноў кожны мае завошта—з іх імем зьвязана наша няволя, зьвязана разбурэньне краю, гвалты, пажары. Толькі бальшавікі нам далі волю, толькі ад саветаў - наша свабода й сьветлая будучына“.

## VII.

На конфэрэнцыі ў Іспалкоме былі таксама Паўлюк, Габрусь ды Вера. Яны прыйшлі шмат раней Сідора з Марыляю й занялі месца ў бакавым пакоі за сьценкаю, так што іх ня было відно з канцылярыі. Стоячы там, яны не маглі сачыць за ўсімі, хто заходзіў у Іспалком, і хто з яго выходзіў. Праўда, Сідора з Марыляю яны чакалі з часу на час, пазіралі ў вакно, думаючы ўгледзець ідучымі, але прапусьцілі й ня прыме-цілі, калі Сідор з Марыляю зайшлі ў Іспалком. Вось усе ў траіх так і пастанавілі, калі распачалася конфэрэнцыя, што Рыгор, мабыць, матнуў на яе рукою й ня прыдзе паслухаць. На гэтым і спыніліся-б, каб выпадкова Паўлюк не азірнуўся ў вакно якраз у той момант, калі Сідор з Марыляю выйшлі з двара Іспалкому.

— А во, бачце! Сідор з Марыляю пайшлі! Усё-ж былі тут,—ціха падаў Габрусю й другім суседзям Паўлюк.

Тыя паглядзелі ў вакно.

— Так, так! Пэўна, што тут быў. Давайце дагонім,—запрапанавала Вера.

— Давайце, чаго далей слухаць!—згадзіўся Паўлюк. Пяцёра іх—Паўлюк, Габрусь, Вера і двое з дэлегатаў: настаўнік з вёскі Шулачі лясьнічы з Шулаўскага лясьніцтва—таўхаючыся, працiснуліся да дзьвярэй і выйшлі з Іспалкому. Сідор з Марыляю ўжо падыходзілі да ўзгрудку на рынку.

— Гукні!—падаў Габрусь Паўлюку.

Той стуліў пры губах рукі й гукнуў:

- Сі-ы-до-ор-р!!

Сідор з Марыляю абярнуліся й пасталі.

Праз пяць ці шэсьць хвілін да іх падыйшлі Паўлюк з кампаніяй.

— Ну, дзе-ж былі, Сідор Гаўрылавіч?—запытаў Паўлюк Сідора, вітаючыся з ім і знаёмячы яго з шулаўцамі.

— Дзе быў? Пэўна там, дзе й вы...

— А вы ў Іспалкоме былі?—перабіла Марыля.

— Вядома што! Вось угледзелі вас праз вакно і выйшлі... Чакалі-чакалі і думалі, што вас там ня будзе,—рэзва адмовіла Вера.

Гаворачы, яны ўсе разам кранулі йсьці.

— Куды-ж цяпер, Сідор Гаўрылавіч?—крыху прайшоўшы, запытаў Паўлюк.

— Трэба на кватэру,—адказаў Сідор.

— А вечарам ня думаеце нікуды?

— Ня ведаю...

Прайшоўшы яшчэ з гоні ўсе разам, далей яны разьбіліся на двое й пайшлі паасобку ў розныя бакі: Габрусь з цзяўчатамі, а Сідор з Паўлюком і шулаўцамі.

— Ну, як вам? Бачыце, вось якія мужыкі! Як адзін у далоні б'юць: хваляць парадкі... Во', нават, Юрка... Не казаў я?—выказаў Паўлюк.

— Так! Дзівіць мяне... Я ніколі ня думаў, што яно так, што так глыбока ўелася бальшавіцтва.. Ня думаў... А тота-ж...—Сідор нездаволена пакруціў галавою і ня мог даказаць.

— Сідор Гаўрылавіч!—а ўсё-ж яно не якраз так, як мы бачылі. Ёсьць шмат і праціўнікаў бальшавікоў. Вось каля нас стаяла з дзесятак мяшчан—дык сьмяяліся з усяе цырымоніі, толькі ім нельга выказвацца...

— Так, нельга выказвацца...—шэптам падмацавалі шулаўцы.

— Гэ! што дзесяць, калі сотні пляскаюць у далоні, сотні... Што дзесяць! Каб наадварот...—матнуў рукою Сідор.

Яны падыйшлі да хаты Сідоравай сястры; Паўлюк з шулаўцамі прыпыніліся.

— Можа вечарам яшчэ наведаем у Іспалком? Яшчэ шмат пытаньняў абгаварвацьмуць... Цікава пачуць, як будзе абгаварвацца школьная справа!—выказаў Паўлюк да Сідора.

— Не, не пайду!—суха адказаў Сідор.

— Чаму? Мы зойдзем...

— Нічога не паможам! Запраўднае гняздо бальшавікоў... Усе, усе атручаны ім..

Забыўшыся разьвітацца, Сідор пайшоў у хату. Паўлюк з другімі вярнуліся назад.

## VIII.

Вайшоўшы ў хату, Сідор застаў дома сястру. Яна мяшала гавядам цэбры, і калі Сідор прачыніў дзьверы, кінула работу й зьвярнулася да брата з запытаньнем:

— З Іспалкому прыйшоў, Сідорка?

— З Іспалкому.

- Што-ж там чулі добрага?..

Сідор нейкі час памаўчаў, пасьля сур'ёзна з прыціскам адказаў:

— Пачуеш?! Ведама ўжо, што ў Іспалкомах пачуеш!.. Твайго Юрку чуў... Дастала цацку...

— Чаму?..—зьдзіўлена запытала Юста.

— Чаму?... вунь распінаецца на ўвесь Іспалком. Такі аратар, што хоць ты...

— За бальшавікоў ці супроць?

— Супроць! Навучыла-ж ты яго супроць!

— Ай, ай! І чаго яму трэба лезьці... божа мой!.. На яго хвароба, на яго!—завяла Юста.—Дык ты-ж паверыш, Сідорка, я й сама ня ведаю, што з ім рабіць... Вось да таго ўкляпаўся ў бальшавіцтва, што жыцьця няма... Стары чалавек...

— Табе кінуць трэба яго!—адсек Сідор.

Гэта прапазыцыя азадачыла Юсту. „Кінуць!"—то ўжо пераходзіла ўсю яе злосьць на мужа й глядзела ёй у вочы чымсьці незьясьнёна-страшным. Яна разумела пасвойму шкадлівасьць таго, што Юрка ўмешваецца ў бальшавіцкія справы, але гэта шкадлівасьць не надаўміла ёй ні разу паставіць сабе рубам пытаньне аб адносінах з мужам. А тут раптам чуе гэткую раду ад брата. То, пэўна, нешта нейкае ўжо сталася з Юркам. Сідор-жа не павінен жыў-здароў яе палохаць.

— Сідорка, чаму ты так кажаш?—баязьліва запытала брата Юста.

— Таму, што бальшавікі—гэта разбойнікі й згубіцелі. І твой Юрка—таксама... Ён бальшавік—і ты не павінна, жывучы з ім, ганьбіць наша котлішча...

Сідор, выказаўшы гэта, прыстукнуў нагою, нібы павеляваючы сястры выпаўніць яго раду. Юста ня ведала, што адказваць, і моўчкі пытальным поглядам сачыла на сур'ёзна выглядаўшага брата. З яе рук выпала мешалка, стукнуўшыся аб цэбар, але Юста не заўважыла гэтага. Таксама не заўважыла яна й таго, што на двары цямнела, і ў хаце па кутках пачаў туліцца змрок. Наогул, Юста была ашаломлена братавымі словамі й ня ведала, чым на іх адказваць...

Ёй памог выйсьці з гэтага становішча Юрка, які з-прычыны перарыву нарады наведваў хату. Няпрыметна для яе й Сідора, ён прайшоў у двор і апынуўшыся на парозе, стукнуў сенечнімі дзьвярамі. Сідор хутка перамяніў устой, а Юста, нібы ачнулася, хапілася за мешалку й пачала мяшаць цэбры.

— Ты яшчэ не падала паранкі?—запытаў Юрка, увайшоўшы ў хату.

— Не падала, не пада-ла! Муштраваць толькі любіш, а сам, як той валацуга, цалюткі дзень бадзяецца бяз нічога... Да сэрца вельмі даліся табе гэтыя бальшавікі! Ня вылазіць з Іспалкому. Ці-ж то ёсьць лад?—скорамоўна, трымаючы мешалку ў руках, залепятала Юста. Пакіне ўсё ў хаце, хоць захлыніся адна, а сам у аратары ходзіць... Трэба вельмі табе людзей пасьмяшаць?!.. І так жанкі вочы дзяруць з-за цябе... Хапіла-б і без цябе бальшавікоў... Чаго табе лезьці?

Юрка, зрабіўшы сур'ёзную міну на твары, даў выгаварыцца жонцы, а пасьля спакойна, але цьвёрдым голасам адказаў:

— А цябе мо' гэтыя жанкі й вучаць брахаць вось так? Ведаю я, хто гэтыя твае жанкі! Мікуліха да Дзежыха якая. Не падабаецца ім Савецкі лад—вядома. І гонар апаў і павага мінулася. Сыны паўцякалі ў Польшчу, дык думалі прасіцьмуць іх зьвярнуцца, а тут яшчэ забаранілі... Не глядзі на іх —свой розум мей!

Юста ня ўнімалася.

— Ня трэба мне больш таго, што я маю... Хай ужо ў цябе занадты розум, каб ён табе высах! Аж брыдка робіцца... Вось праўду кажа Сідор, што ты род наш ганьбуеш сваім бальшавіцтвам? Навошта яно табе?..

— Сідор кажа-а?—раззлавана выгукнуў Юрка. Ссі-ы-дор?!. Я ведаю, што Сідор... Чуў ужо я пра твайго Сідора! Ходзяць ужо чуткі па мястэчку й за мястэчкам... Прыехаў сюды настаўніцтва бунтаваць... Вось ужо даведаліся аб ім! Толькі мне ўвага... Сідо-ор ёй кажа!

Сідор, як стаяў моўчкі, так раптам заварушыўся на месцы і ад злосьці закрычаў:

— Пляваць я хачу на ўсіх і разам н-на... Не пераарыштоўваеце ўсіх—нарвяцеся зараз... „Усе ведаюць!" Хай ведаюць! Я сам не таюся, што я кроўны вораг бальшавікоў... Ненавіджу іх, як... Гэта—барбары! Яны зглумілі ўсё багацьце краю, разьбілі душу сьвядомаму чалавеку! Яны...—ён запнуўся й зрабіў колькі крокаў па хаце:—Я лічу абразаю, што мая сястра мае мужам бальшавіка... Так! І я кажу ёй: кінь, каб не паскудзіць нашага роду...

— Так?!—Юрка разьняў рукі й наскакам падбег да Сідора:—Вон! Вон, панскі агэнт! Ты што гэта? Прыехаў бясчэсьціць маю хату й маё імя? Вон! Ягомасьць тут знайшоўся! Душу яго разьбілі!.. Голаў разьбіць мала... Вон, каб і нага твая ня была тут!

Бачачы мужа ў гэткім гнеўным настроі, Юста ня брала сабе ў глузд, што тут чаўпецца, і перш, вытарашчыўшы вочы, глядзела на абодвых, а пасьля кінулася ўцішаць Юрку, крычучы:

— Што ты робіш, вар'ят? Што ты робіш? Не сарамаці людзей! За вошта-а ты навалiўся на яго?.. Ці ты маеш розум?

А Юрка крычаў:

— Вон! Абаіх вас паганю! Мне не патрэбна вашага шляхецтва... Калом яно мне вылезла за сорак гадоў. Годзе!.. Прэч з дарогі! Я—бальшавік і ня выношу жаднага панства. Вон, вон! Ня выйду з хаты, пакуль гэты ягомасьць ня выправадзіцца...

Праходжыя вуліцаю застаноўліваліся перад хатаю... Крык і лямант цягнуўся з гадзіну. Юрка не здаваўся і гнаў Сідора з хаты. Юста абараняла брата, то ўпрашвала яго выйсьці на час да знаёмых. Сідор-жа „прынцыпова“ лаяў бальшавікоў і швагра. Але, лаючы Юрку, ён ужо ня думаў ні аб чым добрым. Гэтыя тры дні, якія ён пасьпеў пражыць у мястэчку, зрабіліся яму годам—ды годам ня простага жыцьця, а балючых мукаў разуверра, ашаломленасьці зьменамі тварышоў і страхам перад пагалоўным захопам жыхарства ненавісным яму бальшавіцтвам. Усё гэта так знэрвавала яго, так стузала, што ён увачавідкі адзначаў, як рабілася яму цяжка й нявыносна ў вікураўскіх абставінах. Звакол і зусюды глядзелі на яго тысячныя вочы атручваючага страху, тысячамі галасоў зьвінелі ў яго вушшу. Перад ім стаяў Юрка, а Сідору здавалася, што гэта—ажыўленае бальшавіцтва, якое вось-вось сьцісьне яго сваімі рукамі й задавіць. І калі ён спрачаўся й лаяўся з Юркам—то гэта толькі, каб не маўчаць. Каб не маўчаць, бо гэтаму супярэчыла ўся яго істота. Трэба было шмат здарэньняў, многа самаахвяры ды разам каменнай цярплівасьці, каб зьнізіцца да таго, што ён бачыў і чуў. Але пракідкі й дасьціпны Сідор адчуваў сябе ваўком у засадзе, якому ўсё-ж трэ'было зламаць сьмеласьць і пакінуць гордасьць.

— Шша-а! шша-а!—пакорліва суцішыў Сідор швагра, калі той ня ўступаў, а ўпарта гнаў яго вон:—я пайду! я—пайду... Я пайду, каб ня прыходзіць ужо сюды. Годзе!.. Няхай заклятай будзе тая часіна, калі я пераступіў гэты парог...

Сідор пасьпешна пачаў адзявацца. Адзяючыся, ён раз-пораз пазіраў у вакно. Ад таго, што яму кідалася ў вочы ў згушчаным змроку вакна, Сідор то ўзвышваў, то паніжваў сваю нясьціханную лаянку тае пары, якая „злучыла іх род з родам Юркі“ і тае часіны, „якая завяла яго сюды“. Юста, сьлезячыся, з мешалкаю ў руках, тупала па хаце і то кляла

мужа, то перапрашала Сідора, каб той не злаваў, каб ня слухаў „дурня Юркі“ і заставаўся.

— Куды-ж, братка, пойдзеш нанач?—казала яна Сідору: —заставайся ў нас... У хару плюнь заразе гэтай—і заставайся! Гэта хата не яго... Я больш гаравала на яе. Мой пасаг паставіў цябе на ногі,—адварочвалася Юста да Юркі.—Гаспадар знайшоўся! Вось заўсёды так, як і сёньні: валочышся, мэрам сьвят бяз вуму, цэлы дзень, а ў хаце—хоць вецер гуляй! Мая хата! скула табе ў горла, а ня хата!

Далей ізноў хапалася за Сідора, просячы:

— Не ганарыся, Сідорка! мала што гэты вар'ят крычыць! Не зважай!

Але можна было Юсьце казаць гэта, а здарэньне йшло іншым кірункам. Юрка настойна—што далей, тым адчаяньней лаяў швагра, паказваючы яму на дзьверы, а Сідор сьпяшыў злажыць у куфэрак сякія-такія свае рэчы. Калі-ж якраз ён сабраўся, то падыйшоў да Юсты, суцешыў, каб тая ня плакала і, пацалаваўшы ёй у галаў, рашуча выказаў:

— Бывай здарова, Юстынка! Прашу цябе—разыдзіся ты з гэтым вар'ятам, з бальшавіком гэтым паганым. Абераж[illegible] сябе і нашу фамілію... Бывай!—і выйшаў з хаты.

— Вон, панскі пасылач! Вон, бяляк! Каб і нагі твае тут ня было!.. Ідзі, шукай месца, дзе тваёй ганаровай душы даспадобы. Вон, вон! Так, так—ноччу, як сава, як кажан! Прыехаў тут шляхецтва сваё паказваць! Гіцаль, паскуда! Н-не, галубчык, забудзь бывалае... Ха-ха-а! Многа ўжо гэткіх, як ты, схавала ў сябе ночка... нікуды ня ўцячэ-эш-ш!

Юрка пакрыкваў так, стоячы ў вакне й задаволена слухаў, як Юста разьвітвалася з Сідорам за парогам, клянучы й лаючы бальшавіка-мужа.

## IX.

Мо' з гоні ад Юркавай хаты Сідор прабег безабдумна й безаглядна. Нейкая незьясьнёная яму, але моцная й страшная сіла гнала яго ў цем ночы, як найдальш ад голасу Юркі, які, здавалася яму, мэрам раздражнены чмель, гнаўся за ім і выў над вухам.

Пасьля штосьці супыніла Сідора; ён сыйшоў у бок са сьцежкі, прыслухаўся, ці ня бяжыць хто за ім, і запытаў сябе: „Запраўды, куды-ж мне йсьці? На двары—цёмная ноч... Ды й брыдка прасіцца дзе-колечы нанач. Што могуць падумаць!

Ах, чорт надаў мне гэтыя Вікуры наведаць!.. Ужо ня знойдзеш сухога месца, калі паводка разьлілася... Кругом бушуюць хвалі!“

Здалёку хтось гутарыў. Сідор кінуў думаць, выйшаў на сярэдзіну вуліцы й пайшоў насустрач гутарачым. Апе, прайшоўшы колькі сажняў, ён як-бы адумаўся—вярнуўся назад. Яму заздрочыла прайсьці паўз хаты сястры й пераканацца, ці толькі й было гісторыі, каб яго выправадзіць з хаты, ці крык ды лаянка далей цягнецца. «Аб табе чуткі ходзяць»—гэтыя словы Юркі глыбока запалі Сідору ў нутро, і ён у сваім расшавеленым выбражэньні маляваў розныя прыкрыя для сябе дагадкі. «Каб, адно, Юрка ня йграў перадатачнае ролі, а то...» —і за гэтым «а то» йшлі розныя мажлівасьці, якія не мілавочна глядзяць на гэткіх, як ён, Сідор, і якія пачалі малявацца яго выбражэньню...

Пазіраючы ўбакі, мэрам крадучыся, крыху падрыгваючы ад холаду, Сідор ужо падбліжаўся да швагравае хаты, як раптоўна яго пазвалі:—Сідор Гаўрылавіч!

Сідор спыніўся й, крыху сумеўшыся, абазваўся:

— Я!—і пачаў узірацца на двох падыходзячых.

— Сідор Гаўрылавіч,—цішэй загутарыла да Сідора Марыля (то была яна з Верою), падбегшы да яго:—Вы ня йдзеце дадому начаваць!... Хадзем да нас,—хапіла яна яго за руку.

— Чаму?—напалохана запытаў Сідор.

— Ведаеце, пра вас пусьцілі дрэнныя чуткі. Вас залічаюць агэнтам контр-рэвалюцыі... Вось, нават, і на нарадзе ўжо паднімалася гутарка пра вас. Мірон, расказвалі так, абгаварваючы школьную справу, нападаў на настаўніцтва за яго чорнасотніцтва і ўмяшаў туды й вас... Ды яшчэ так, што ўсіх абурыў.

— Як? Мірон?!

— Так... Кажуць, казаў, што нібы вы прыехалі й разводзіце тут супроцiўсавецкую агітацыю. Настройваеце настаўніцтва супроціў школьнае палітыкі і наогул... Вось, на кожны выпадак, ідзем да нас...

Сідор разам кінуў усе іншыя раздумы і спыніўся на тым, што паведаміла яму Марыля. Хоць у яе паведамленьні й было многа знаёмага, чаго хітры Сідор заўсёды ня спускаў з думак, але тая раптоўнасьць, з якою ўсё гэта чынілася, аглузьдзіла яго. У ваччу ажылі ўсе вакольныя рэчы, зацюкала сполахна сэрца.

— Ідзем, ідзем хутчэй!.. Паганыя, як у іх усё скора робіцца! Ці бачыш? ты..—паўшэптам выказаў ён ні то да дзяўчат, ні то сам да сябе і пасьпешна рушыў уперад, ухіляючыся блеску праменьня з вокан хат.

Дзяўчаты подбегам пагналіся за ім, перапыняючы яго ў паўголасу:

— Сідор Гаўрылавіч, вы ня туды пайшлі. Чакайце! Нам трэба на другую вуліцу!.. Чакайце!

А Сідор, не патураючы іх зову, як нацкованы воўк, бег безаглядкі.

**Цішка Гартны.**

Менск—люты—23 г.

# Спатыкаць пайду вясну...

Не... я сёньня не засну,
Спатыкаць пайду вясну...
У садочку ля маліны,
Дзе кляновыя галіны

Прытуліліся к кустам, —
Я вясну убачу там.
Між кустоў калматых бэзу
У прынадны куст залезу,

Сяду я на лаўцы там,
Што зрабіў калісь я сам.
Там растуць мае бярозкі;
З іх лісточкаў клейкіх сьлёзкі

На зямлю ляцяць расой—
Зьяюць зорнаю красой.
За смародзіны кустамі,
Што шапочуцца лістамі,

Ад бярозак крыху ўбок
Малады стаіць дубок.
Там і ліпка каля тыну,
Што схавалася ў маліну,—

Пасадзіў яе з дубком,
Як малым быў хлапчуком...
А над садам, на прасторы,
Будуць залатыя зоры

Ткаць чароўныя мне сны
І вітаць прылёт вясны.
Сёньня сад у срэбным бляску...
Скажуць лісьцікі мне казку,

Што з вятрыскам гаманяць,
Аб чым?—ночы толькі знаць,
Ды паэту, што прыходзе,
Вясны сьветлае на ўсходзе,

З мар снаваць цудоўну ніць
І з прыродай гаманіць...
Не!.. я сёньня не засну,
Спатыкаць пайду вясну!..

Я. Журба.

# Вясной.

(*Прысьвячаю Н. П.*).

Во і сонца і чароўнасьць,
Вось і песьні салаўя...
Схамяніся, мой сябар мілы,
І любі вясну, як я!

Во й пралескі ўжо зьявіліся;
Лес гамоніць над ракой...
Йзноў душа мая сьпявае,
Песьні льюцца чарадой.

Йзноў вясна лье шчодра ў душу
І чароўнасьць і спакой...
Дык пакінь-жа, сябар мілы,
Хоць вясною смутак свой!...

**Я. Журба.**

# Вясна.

Ўжо вярба разадзелася пухам каточкаў,
Накрываецца шоўкавым быльлем мяжа;
А ў садку з-за галін выглядаюць лісточкі,
Як з няпэўнае норкі галоўка вужа.

Лес разбуджаны ў далечы сініх прастораў,
Рагавістаю шапкай ўгары зашумеў,
Бо ў абшарах яго, патаемных, як мора,
Разьліваецца радасны птушыны сьпеў.

Загубіла і рэчка свой лемант змаганьня,
Бо ўжо зьнішчаны насьледкі лютай зімы;
І настала вясны маладой панаваньне,
Перамогшай кайданы нядаўняй турмы.

Гэта кажа матылік, што ўзьняўся з кляніны,
Гэта грае уранку труба пастуха,
Гэта сьпеў ўва гародзе працоўнай дзяўчыны
І бліскучая срэбрам у полі саха.

Ўжо у сьвет падыйшло для жыцьця адраджэньне,
Бо прайшла барацьба, перавага відна.
Хай ўзгадуе-ж з зямлі наша беднае зерне
Ў колас жыцьця і поўнае волі вясна!

16--IV--22 г.

**Н. Чарнушэвіч.**

# Набягаючы дзень.

Рвецца у клочча начная заслонэ;
Цемрач зьнікае, як з горана дым...
Сьпячых разбуджваюць птушак мільёны,
Дзень сустракаючых сьпевам гучным.

Гоманы жыцьця наўкруг залуналі,
Лютыя ворагі змроку і сноў.
Ўжо і праменьні вусы паказалі
І разагналі ў куткі кажаноў.

Гінуць у небе апошнія зоры;
З дрэваў ссыпаюцца кроплі расы.
Ўсё апранае надзеі уборы,
Бо падыходзяць да працы часы,—

Творчае працы, бо змроку даволі,
Згіне ўжо ночы суровая цень...
Ўперад да сонца, змаганьня і волі
Кліча усіх набягаючы дзень.

19—IV—22 г.

Н. Чарнушэвіч.

# Новы дзень.

Бліскучай іскры сьвітаю
Гарацъ
На целе цьмянае зямлі;
Вяроўкай доўгай вітаю
Ўжо рацъ
Бяжыць руччоў лубком ральлі.
З заношаных плячэй зімы
Яны
Зьдзіраюць рупліва бурнос.
І любім выйсьці раньнем мы
Ў шкляны
Зірнуць ім твар і буры нос.
Крыніцай чхаюць у бары
Зьвяры
І клічуць да жыцьця вясну.
Сітко агню глядзіць згары
Ў лагі
І будзіць ўсё ад сьпячкі-сну.

* * *

Зіма, ня плач узрыгамі!
Вясны
Жыцьцё сьмяецца рэчаньцы.
Твае руіны крыгамі,
Як сны,
Плывуць хай сіняй сьцежанькай.
Уздагон за імі новы сьвет
Трушком
З усьмешкай цёплаю бяжыць;
Трымаючы вясьнянкі цьвет,
Кружком
Зялёным рэчку беражыць.
І сенажаць зялёнай сьвітаю
Блішчыць
Па раўчавінах цёплае зямлі.
Дарожкай сьвежай вітаю
Прышчыць
Араты на загон ральлі.

26—III—23 г.

Я. Плашчынскі.

# Разводзьдзе.

Зрэбнай коўдраю шэры туман па зямлі
Разаслаўся;
Сьнег зьядаэ...
Адліга.

Раўчакі, нясучыся удаль, загулі...
Сьпеў узьняўся...
Рэчка сьпявае...

А крыга—
Нясецца зьвярына
У хвалях шумлівых,
Руйнуе усе перашкоды..
Лозы, асіны—
Ламае,
Нясе па гародах
Удаль, пагардліва...
Стогнучы гнуцца кусты...
З сьвістам, рагочучы,
Ломіць масты.
Вецер гуляе...
Гоман народу...
Страх..
Прэч думка—
Што сьвет захлынецца...
Лодка во ўжо—падплывае...
Вось! вось ужо ў лодцы...
Едуць наўсьцяж...
Крыкі разносяцца, поўныя моцныя,—
На-аш!?..
Крыга за крыгай, сьляды зімавыя,
Нясуцца
Ў туманныя далі...
Пройдзе стыхія!
Песьні пальюцца,
Лясы зазьвіняць звонам сталі!..

**А. Александровіч.**

17—III—23 г.

# Возера.

Ціхай гутаркай возера шэпча ў бары.
Гнуцца сосны ад буйнага ветру.
Сонца гасіць ліхтар свой на скалах гары,
І зьнікае ў нязнанай нам нетры.

Ветрык сьціх... Ціш нямая... змрок зямлю абвіў..
Зоркі блiснулі ў небе яскравым;
Серабрыстыя хвалі сон ночы спавіў...
Рушаць ціш—песьня страхаў—праявы...

Кусты шэпчуць ля возера штось між сабой;
На галінах іх птушка сьпявае.
Месяц ўсплыў і чароўнай сваёй яснатой
Баравое жыцьцё абліває...

**А. Александровіч.**

1922 год, Менск.

# Раніца.

Прачнуўся горад. Чуцен гуд
Заводзкіх труб, фабрычных труб.
Калёрыць змрок праменны цуд,
Як твар бялявы чырвань губ.

Прачнуўся горад. Чуцен шум,
Ён, бы пчаліны рой, гудзе,
Ён гоніць сон, сьцішае сум,
Лятае, плавае, ідзе...

Прачнуўся горад. Я іду,
Бо творчай працы жджэ душа,
Бо ночы сон суліў бяду,
А мары пудзіла ціша.

Кіпіць на вуліцах жыцьцё:
Ідзе, сьпяшыць, бяжыць народ...
Здаецца сьветлым пачуцьцё,
І сонцам цешыцца ўсход!

Прачнуўся горад. Чуцен гуд
Заводзкіх труб, фабрычных труб.
Калёрыць змрок праменны цуд,
Як твар бялявы чырвань губ.

**А. Гурло.**

2/I—23 г.

# На моры.

Упартай хваляй рвецца мора
Кудысь ў далёкія прасторы;
Паўзьняліс срэбныя грабеньні
І воляй поўна іх імкненьне.

Ім міла сонца, мілы зоры—
За гэтым вечна бурна мора;
У ім дзень і ноч адно жаданьне:
За волю буйнае змаганьне.

І я з змаганьнямі знаёмы.
Мяне ня страшаць буры, громы—
Мяне бунтуюць шчасьцем далі!..
Ляці-ж, мой чоўн, за жыцьця хваляй!

Ужо грымяць за мной пяруны,
Відаць маяк. Зьвінеце, струны!
Праз цяжкі шлях я бачу мэту—
Душа надзеяю сагрэта!

3/I—23 г.

**А. Гурло.**

# У дарозе.

Па рэйках зьмейкаю уецца,
Ў прасторы стукам аддаецца,
І рэжа даль скрозь сьнежны пух;
І дыша цягнік: уху-хух!

Зямля аж стогне, ў лесе рэха,
Над імі ўюцца іскры, дым.
Цягнік ганорны поўен сьмеху,—
Здаецца, ён ўладар над ўсім.

Калёсы робяць крок за крокам
І ўсё шпарчэй бягуць яны;
І чутны зыкі: кок-ко, кок ко,
І далі поўняць, як званы.

Мінаюць станцыі і будкі...
Ў вагонах чуцен сьмех людзей...
Гу-гу, гу-гу!—чутны пагудкі,
Лаўлю у іх я шмат надзей.

2/I—23 г.

**А. Гурло.**

# Калыханка.

Выйшлі дзьве змагацца сілы,
Ды ў апошні, здэцца, раз.
Сьпі, мой сынку, сьпі мой мілы—
Не настаў устаці час.

Я табе сяньнік набіла
Пухам з пукавіц вярбы...
Гіне ў бойцы панства сіла,—
Захлябаецца нібы.

Сіла-ж тая, што палацы
Узьняла на шмат паверх,—
Дзе твой тата,—сіла працы
Забірае ў бойцы верх...

Бачыш, сынку, сонца косы
З неба глянулі на нас.
Сьпі, мой родны, мы ня босы—
Згінуў дрэнны гэты час.

Тата твой у бойцы нейдзе
Б'ецца з самае зімы.
Сьпі, мой сын, як ён прыедзе,
Будзем весёлы і мы!

**Аркадзь Моркаўна.**

# Пазнаньне Беларусі, як навуковая і рэвалюцыйна-грамадзянская проблема.

Яшчэ ў 1904 г., выпускаючы ў сьвет першы том сваёй капітальнай працы «Бѣлорусы», акадэмік Е. Ф. Карскі зьмясьціў, як эпіграф да ўводнага разьдзелу сваёй кнігі выслоўе: «жатва многа, а делателей мало». І ў 1916 г., выпускаючы ў сьвет першую частку другога тому сваёй працы, аўтор пісаў у прадмове аб Беларусі: «какую богатую жатву для себя нашла-бы здесь университетская книга!»

Запраўдна Беларусь з навуковага погляду прадстаўляе шмат чаго цікавага. Жніво тут вельмі багатае!

У частковасьці, вельмі важнае значэньне мае беларускі фольклёр, ледзь не найбагацейшы сярод фольклёраў славянскіх народнасьцяў. У Беларусі, як краіне са слаба разьвітай фабрычнай прамысловасьцю й на палавіну сваёй тэрыторыі знаходзячайся сярод балот і лясных пушчаў, больш, чымся ў іншых мясцовасьцях, захавалася помнікаў першабытнага славянскага сьветапогляду і помнікаў чыстай народнай поэзіі. Таксама вялікую цікавасьць для філёлёга мае беларуская мова, пануючая на абшары ўсёй этнографічнай Беларусі, ад Смаленску да Брэсту й ад Вільні да Мазыру, зусім асаблівая народная мова, маючая сваю выразную фонэтыку, этымолёгію і лексыкон, падраздзяляючаяся на асобныя гутаркі-говары. Шмат чаго цікавага можа даць археолёгічна-гістарычнае абсьледваньне беларускай краіны: Беларусь—месца пасяленьня першабытных славяна-рускіх плямён і, апрача таго, месца скрыжаваньня розных народнасьцяў, скрыжаваньня й барацьбы розных культур,—месца, дзе змыкаюцца паміж сабою Ўсход і Захад Эўропы. Цікавасьць можа прадставіць таксама фізычна-геаграфічнае і экономічна-статыстычнае дасьледваньне Беларускай зямлі.

Што-колечы ў гэтых адносінах, асабліва за апошнія 40—30 гадоў, дзякуючы працы розных дасьледчаў, ужо зроблена, але й цяпер яшчэ ўсёбочнае пазнаньне Беларусі застаецца неразьвязанай навуковай проблемай.

Так, што датычна беларускага фольклёру, то ў выйшаўшых да гэтага часу працах П. В. Шэйна («Материалы по изучению быта и языка рус. населения Сев.-зап. края», т.т. I—III), M. Federowskiego (Lud Białoruski na Rusi Litewskiej, t. I, II c. I i III c I), Е. Р. Романова („Белорусский сборник", вв I—X, «Материалы по этнографии Гродненской губ., т т. I—II), В Н. Дабравольскага («Смоленский этногр. сборник»), А К Сержпутоўскага («Сказки и рассказы белоруссов-полешуков» и др.), М. Я. Нікіфароўскага і інш. сабраны багаты фольклёрны матар'ял, але вялікая скарбніца бела-

рускай народнай творчасьці яшчэ ня вычарпана поўнасьцю: яшчэ няма вычэрпваючага дасьледваньня асобных мясцовасьцяў Беларусі, дасьледваньня, каторае зможа даць шмат чаго новага. M. Federowski зрабіў дасьледваньне толькі ў ваколіцах Ваўкавыску, Слоніму і Ліды—і аднак знайшлося матар'ялу на некалькі тамоў. Спэцыяльныя дасьледваньні зачапнулі часткова Вітабшчыну (П. В. Шэйн), Магілеўшчыну й Горадзеншчыну (Е. Р. Раманаў) і Смаленшчыну (В. Н. Дабравольскі). Менш за ўсё дасьледавана Меншчына і таксама Віленшчына. У далейшым трэба весьці працу якраз ў гэтым напрамку. Магчыма заўважыць, што на гэты шлях і сталі пазьнейшыя дасьледцы беларускай этнографіі, прыкладам чаго можа служыць невялічкая па аб'ёму, але вельмі каштоўная па зьместу праца И. А. Сербава «Белоруссы-сакуны» (П. 1914 г.).

Зразумела, што да вычэрпваючага дасьледаваньня асобных мясцовасьцяў Беларусі ў фольклёрным стасунку і спробы агульнага агляду беларускага фольклёрнага матар'ялу, якая, напр., зроблена акад. Е. Ф. Карскім («Белоруссы», т. III, ч. I), могуць мець значэньне толькі *папярэдніх дасьледаў*. Апрача таго, тыя проблемы, якія пастаўлены акад. Карскім сумарна, як, напр., проблема беларускай народнай казкі, самі могуць стаць прадметам асабістага і дакладнага навуковага дасьледваньня, як толькі будуць сабраны й сыстэматызаваны суадпавядальныя матар'ялы.

Таксама абстаіць справа і ў адносінах да беларускай мовы. Аб гэтай мове маецца толькі агульнае прадстаўленьне; асобныя гаворкі амаль што зусім не дасьледаваны (толькі ў адносінах да смаленскай гаворкі маецца спецыяльны «Смоленский областной словарь» В. Н. Добравольскага). Але зразумела, што дзеля падвядзеньня навуковага грунту пад будоўлю *беларускай агульнай мовы* трэба дакладнае выяўленьне адзнакаў яе асобных гаворак.

Што тычыцца архэолёгіі, фізычнай географіі, статыстыкі і экономікі Беларусі, то ў гэтых адносінах зроблена зусім мала. Спробы дасьледаў гэтага роду налічваюцца толькі нязначнымі адзінкамі (Можна адмеціць па архэолёгіі працы: Татура «Очерк археолог. памятников на пространстве Минской г.», В. З. Завітневіча «Археолог. экскурсии в Припятское Полесье», А. В. Сапунова «Памятник древних времен в Витебской г.», апрача працы гр. Тышкевіча «Opisanie powiatu Borysowskiego» і археол. артыкулаў ў «Teka Wileńska»; па фізычнай географіі і статыстыцы: апрача працы Дамбавецкага «Опыт описания Могилевской губ», нарыс Ф. Ястрэмбскага «Краткий очерк Минской губ. в физ.-геогр. и стат.-экономическом отношении»; па географіі: апрача IX т. працы Семенова «Россия», толькі элемэнтарны падручнік А. Смоліча «Географія Беларусі»). Дзеля адсутнасьці дасканала пастаўленай архэолёгічнай працы кепска стаяла ў Беларусі ў да-рэвалюцыйныя гады і музэйная справа. Больш-менш добра абстаўлены музэй беларускіх старажытнасьцяў да рэвалюцыі істнаваў толькі ў Магілеве. У Менску—сталіцы Беларусі, толькі цяпер стала разьвівацца музэйная справа. Трэба дасьледаваць архэолёгічныя помнікі, раскіданыя ў далёка не нязначнай лічбе на абшары Беларусі, у часткова сьці ў Меншчыне, і скарыстаць іх.

Таксама адчыняецца шырокі прастор для працы і ў галіне Беларускай гісторыі. Праўда, у бягучым сталецьці проблемы гістарычнага жыцьця Беларусі зьвярнулі на сябе ўвагу з боку як расійскіх (проф. М. К. Любаўскі, Ў. І. Пічэта, А. А. Лаппо-Данілеўскі і інш.), так і польскіх гісторыкаў (St. Kutszeba, Ja. L. Labunski, L. Kolakowski і інш.), але у іх гэтыя проблемы разглядаюцца не асабіста, а толькі ў сувязі і побач з пробле-

мамі ці маскоўскай, ці польскай, ці літоўскай гісторыі. Да гэтага часу яшчэ няма выданьня спэцыяльна навукова пабудаванай гісторыі Беларусі. Не асьветлены і некаторыя вельмі цікавыя старонкі з жыцьця беларускага народу—так, у частковасьці, пытаньне аб рэлігійных сварках на абшары Беларусі, а таксама вельмі цікавае пытаньнэ аб асьвеце ў Беларусі.

Такім спосабам, як можна бачыць, пазнаньне Беларусі з чыста навуковага боку зьяўляецца вельмі абшырнай і цікавай навуковай проблемай.

Але гэтая навуковая проблема разам з тым зьяўляецца вельмі важнай культурна-рэвалюцыйнай проблемай—чарговым пытаньнем рэвалюцыйнага будаўніцтва беларускай пролетарскай культуры.

Рэвалюцыя выставіла проблему беларусазнаўства ў першую чаргу і паглыбіла яе пастаноўку.

Згодна прынцыпам рэвалюцыйнай марксыцкай ідэолёгіі пролетарскае культурнае будаўніцтва ў Беларусі толькі й можа адбывацца, што ў межах *рэальных* гістарычна-эканомічных і сацыяльных *умоў* жыцьця беларускага пролетар'яту, г. зн., у межах нацыянальнай беларускай культуры, на аснове ўсёбочнага пазнаньня Беларусі.

Усё гэта зразумела само собой, не патрабуе асаблівага давядзеньня і ня можа выклікаць якіх-небудзь спрэчак.

Зразумела само сабой і тое, што марксыцкая тэорыя і рэвалюцыйна-пролетарская практыка выстаўляюць асаблівыя запатрабаваньні ў адносінах да беларусазнаўчай проблемы.

Цяпер уся дасьледчая праца ў галіне беларусазнаўства павінна весьціся ў *марксыцкім кірунку*. Калі падыходзіць з гэтага погляду к беларусазнаўчай працы дарэвалюцыйнага пэрыяду, то прыдзецца прызнаць, што ледзь ня ўсе вопыты сыстэматычных аглядаў беларускага фольклёру і гісторыі Беларусі зьяўляюцца нездавальняючымі. Нездавальняючым для марксыцкай мэтодолёгіі аказваецца, нават, такі твор, як «Белорусы» акад. Карскага: тут мы ня знойдзем, нават, намёку на марксыцкі падход да беларусазнаўчай проблемы. Гэта—вялікі недахват сыстэматызатарскай працы Карскага. Тое самае трэба застанавіць ў адносінах да працы некаторых вучоных ужо рэвалюцыйнай эпохі. Адзіночным выключэньнем з гэтага правіла зьяўляюцца толькі працы рэктара Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту праф. У. І. Пічэты, асабліва маючая выйсьці з друку яшчэ ў гэтым годзе яго праца „Гісторыя беларускага народу". Трэба пажадаць, каб беларуска-марксыцкі кірунак працы паважанага рэктара Унівэрсытэту стаў прыкладам для ўсіх навуковых працаўнікоў Беларускай вышэйшай вучэбнай установы, а агулам кажучы, для ўсіх дасьледцаў беларускай культуры. Неабходна правясьці з няўхільнай паступовасьцю мэтад марксызму ў галіну і беларускай гісторыі, і этнографіі, і гісторыі літаратуры і інш. Пры гэтым асаблівае разьвіцьцё павінны атрымаць навукі аб матар'яльна-эканомічных умовах жыцьця беларускага народу. У свой чарод пролетарска-рэвалюцыйная самасьвядомасьць патрабуе асаблівага асьвятленьня тых навуковых пытаньняў, якія маюць беспасрэдныя адносіны да жыцьця пролетарыяту. Беларуская навука, як і ўсякая навука агулам, у пэрыяд пролетарскай дыктатуры павінна мець выразны *клясавы характар*.

Такім чынам пролетарская рэвалюцыя паглыбіла проблему дасьледаваньня Беларусі ў марсыцка-клясавым кірунку.

І як быццам якраз цяпер, у час пролетарскай рэвалюцыі наступае пара для жніва ў глебе беларусазнаўства.

Да рэвалюцыі значным прыпынкам для дасьледваньня Беларусі зьяў-

лялася адсутнасьць у асяродках Беларусі вышэйшых вучэбных і спэцыяльна-дасьледчых установ. Нельга адмаўляць таго, што ў дарэвалюцыйныя часы з вялікай увагай адносілася да беларускай народнай творчасьці Расійская Акадэмія Навук, дзякуючы якой, паміж іншым, былі даведзены да канца й выдадзены такія капітальныя працы, як „Словарь белорусского наречия“ Насовіча і «Материалы» П. В. Шэйна. Уважліва аднеслася да працы M. Fedorowskiego й Кракаўская Акадэмія Umiejętności. Але ні Расійская, ні Польская Акадэміі па абшырнасьці сваіх агульных заданьняў не маглі заступіць спэцыяльнай навуковай інстытуцыі, якая асабіста дасьледвала-бы пытаньні беларускай культуры.

Разам з тым, у дарэвалюцыйныя гады беларусазнаўчай працы перашкаджалі ў моцнай меры адсутнасьць цьвёрда і стала застаноўленых прынцыпаў беларускага правапісу і граматыкі і дасканальна апрацаванай беларускай літаратурнай мовы. Калі чытаем, напр., працы Насовіча, Шэйна, Раманава, Нікіфароўскага, Дабравольскага і інш., проста дзіву даёмся мешаніне прынцыпаў запісу. На гэты недахват у адносінах да слоўніка Насовіча паказана акад. Карскім („Белоруссы“, I т., стр. 251), але і ў самога акад. Карскага ў першых тамох яго працы, выйшаўшых да 1922 г., запіс беларускіх слоў і выразаў не дасканальны. Толькі з выхадам у сьвет граматыкі Б. Тарашкевіча (у гэтай працы прыймалі удзел акадэмікі Карскі і Шахматаў) былі палажаны сталыя асновы беларускай літаратурнай мовы, і праца ў гэтай мове з кожным часам усё разьвіваецца і пашыраецца (ў граматыцы—працы Б. Тарашкевіча і С. Некрашэвіча, у лексыцы—маючы выйсьці з друку яшчэ ў гэтым годзе расійска-беларускі слоўнік С. Некрашэвіча і М. Байкова). Беларуская літаратурная мова зьяўляецца *вельмі важным арудзьдзем працы* ў руках дасьледцаў беларускай культуры.

Магчыма чакаць, што цяпер, з адчыненьцем у Беларусі вышэйшай навукова-дасьледчай (Інстытут Беларускай Культуры) і вучэбна-асьветных установ (Менскія Унівэрсытэт і Агранамічны Інстытут) і пры існаваньні апрацаванай ужо беларускай літаратурнай мовы, беларусазнаўча-дасьледчая праца пойдзе ўпярод шырокім шляхам.

Такая праца прадстаўляе неабходны абавязак усіх навуковых працаўнікоў Беларусі, і толькі ў гэтай працы—raison d'etre і Беларускага Унівэрсытэту і Беларускага Агранамічнага Інстытуту.

Кожны навуковы спэцыялісты павінен што-колечы зрабіць у справе пазнаньня Беларусі.

Але пры пастаноўцы пытаньня аб дасьледваньні Беларусі, як навуковай і культурна-рэвалюцыйнай проблемы, паказаньнем на тую ролю, якую павінны сыграць тут навуковыя спэцыялістыя, абмяжоўвацца немагчыма.

Агулам кажучы, праца навуковых спэцыялістых,—дасьледцаў беларускай культуры прадпалагае, як сваю падставу, дапамогу-супрацоўніцтва з боку шырокіх беларускіх грамадзянскіх кругоў.

А ў час пролетарскай рэвалюцыі прыходзіцца з асабліваю катэгорычнасьцю ставіць пытаньне аб такой дапамозе—ставіць яго, што называецца, рабром. Рэвалюцыя сацыяльна-палітычная аб'яднаецца з імкненьнем у сфэры разумовыя—вырваць навуку з муроў школы і вынесьці яе ў гушчу рэвалюцыйнай масы. Пролетары павінен ня проста ўспрыймаць сваю культуру, як нешта яму невядомае, ад навуковых спэцыялістых, але і быць актыўным тварцом,—кавальём сваёй культуры.

Тут, у справе дасьледваньня Беларусі, можна асабліва падкрэсьліць ролю беларускага настаўніцтва.

І ў дарэвалюцыйныя гады беларускае настаўніцтва прыймала ўдзел у дасьледчай працы ў Беларусі, як сьведчаць прыклады вядомых дасьледцаў беларускага фольклёру. П. В. Шэйн, М. Я. Нікіфароўскі, Е. Р. Раманаў і самі былі пэдагогамі па прафэсіі і карысталіся ў значнай меры запісамі настаўнікаў. У 8 томе працы Е. Р. Раманава «Белорускій сборник» (Вільня, 1912) на 597—598 страніцах знаходзіцца пералічэньне яго „сотрудников“. З іх лічбы больш, чымся палова (23 асобы на 40), аказваюцца вясковымі настаўнікамі. Прыклад самога Е. Р. Раманава асабіста паказальны. Сукромны вясковы настаўнік, у 1876 г., будучы дваццацілетнім хлопцам, ён пачаў свае зборы фольклёрнага матар'ялу—і толькі да 1891 г. ім было выдадзена беларускіх песьняў 1210, абразцоў пагаворак 757, загадак і казак 321, закляцьцяў і загавораў 824, апокрыфаў 24, духоўных вершаў і малітваў 126, апрача выпытаў па беларускай лёксыкографіі.

Такія вынікі працы мы знаходзім у прадмове Е. Р. Раманава к 5 вып. яго «Белорусскаго сборника» (Витебск, 1891).

У гэтай прадмове, паміж іншым, Е. Р. Раманаў пісаў: „Настоящее мое обращение к читателям, весьма вероятно, будет лебединою песнью... Хотелось бы верить, что с моим инвалидством своевременно явятся продолжатели начатых мною трудов»... Пяты выпуск «Белорусского сборника» procіў чаяньняў аўтара на карысьць беларусазнаўству не зьявіўся яго апошнім творам. Пасьля таго былі выдадзены VI—X выпускі, а таксама пад яго рэдакцыяй вельмі каштоўныя «Материалы по этнографии Гродненской губ.» (1911 г.), але адозва Е. Р. Раманава аб прадаўжэньні яго працы мае значэньне для ўсіх культурных працаўнікоў Беларусі і перш за ўсё для беларускага настаўніцтва.

Пры цяперашніх умовах беларускаму настаўніцтву прыходзіцца адводзіць асаблівую ролю ў культурным жыцьці вёскі і ў культурна-асьветчай і дасьледчай працы. У розьніцу ад іншых інтэлігэнтных кругоў настаўніцтва бліжэй за ўсё стаіць да беларускага народу, цесна зьвязанага з ім, цікавіцца яго мовай і звычаямі і ня можа не падтрымаць сваім супрацоўніцтвам працы навукова-дасьледчых устаноў, утвораных пролетарскай уладай на карысьць беларусазнаўчай навукі.

Да актыўнага удзелу ў дасьледчай працы ў беларусазнаўстве настаўніцтва Беларусі выклікаецца й самым характарам сучаснай беларускай школы. Што гэта школа павінна быць беларускай і што беларусазнаўства павінна быць галоўным прадметам яе праграмы,—гэта ня можа выклікаць спрэчак. Але, як падыйсьці да проблемы беларусазнаўства настаўніку? Адзіночна правільны,—правільны з пэдагогічнага погляду,—шлях—самастойнае практычнае дасьледваньне мясцовых асаблівасьцяў прыроды, быту, мовы і інш. Каб стаць настаўнікам беларускай жыцьцёвай школы, настаўніку самому трэба павучыцца ад беларускага жыцьця. Яму патрэбна прыгледжвацца, прыслухоўвацца, заўважна адносіцца да асаблівасьцяў свайго краю й свайго народу.

І зусім магчыма, што пры гэтай самаперападгатоўцы, пры ўласнай беларусазнаўчай асьвеце настаўнік зможа зрабіць уклад і ў навукова-дасьледчую працу, датычную да Беларускай зямлі і яе жыхарства.

У роўнай частцы з беларускім настаўніцтвам павінны прыняць актыўны ўдзел у беларусазнаўча-дасьледчай працы і іншыя культурныя працаўнікі беларускай вёскі, як, напр., лекары, аграномы, тэхнікі і, канечна, студэнцтва беларускіх вышэйшых вучэбна-асьветных устаноў і сьвядомыя пролетарыі-рабочыя. Асабліва пажаданы з погляду пролетарскай працы ўдзел у гэтай справе з боку вучняў рабочых факультэтаў і слухачоў пар-

тыйных школ,—і гэта дае зьлішні повад жадаць, каб беларусазнаўчыя навукі ў рабочых факультэтах і партыйных школах стаялі на асаблівай вышыні.

Зразумела, што для больш пасьпяховай працы ў дасьледваньні Беларусі карысна мець пад рукою праграмы дасьледваньня.

У адносінах да дасьледваньня мовы ўжо істнуе «Программа для собирания особенностей белорусского наречия», апрацаваная яшчэ ў дарэвалюцыйныя гады па даручэньню „Отделения рус. яз. и словесности Императ. Академии Наук" праф. Карскім (другое выданьне—Петроград, 1916 г.).

Чарговым заданьнем навуковых спэцыялістых Беларусі—асабліва, сяброў Інстытуту Беларускай Культуры, зьяўляецца апрацоўка праграм дасьледваньня й па іншых галінах беларусазнаўчай навукі.

Неабходна таксама прыняць усе меры к як можна больш інтэнсыўнай популярызацыі ідэй беларусазнаўства сярод шырокіх кругоў беларускага рэвалюцыйнага грамадзянства.

Беларусазнаўчая асьвета рэвалюцыйнага грамадзянства ў Савецкай Беларусі зьяўляецца такім-жа самым неабходным запатрабаваньнем сучаснага моманту і істотнай прадпасылкай культурна-пролетарскага будаўніцтва, як і палітычная асьвета.

**М. Байкоў.**

Г. Менск.
1923—III—18

# Два бакі беларускага руху.

Гісторыя беларускага нацыянальнага руху цесна сплецена з гісторыяй беларускай культуры. Калі-б хто не дакрануўся апошняй, ён ня можа абыйсьці першага. Ды й гэта зразумела: у нацыі, якая доўгія вякі ня знала сябе, ня жыла для сябе, а толькі выпаўняла бесканечную павіннасьць прыгону то на адных то на другіх захопнікаў, іначай і не магло скласьціся. Гістарычны закон разьвіцьця народаў захапіў беларускую нацыю на аднакавым узроўні яе культурнага й нацыянальнага асьведамленьня. Гэтаму, пэўна, пасобіла шмат тое, што сама беларуская нацыя моцаю розных варункаў на працягу доўгіх вякоў хавала свае сокі ў адным монолітным стане—стане малазямельнага сялянства і часткаю ў стане беднага местачковага рамесьніцтва. Гэтыя дзьве катэгорыі беларускай нацыі выпаўнялі абавязкі нявольнікаў і ім ня было калі думаць аб тых ці іншых патрэбах душы. Багацьцем, як матар'яльным, гэтак і духоўным, валадалі ў Беларусі багатыя станы ды к таму яшчэ чужых народаў.

Вось, дзякуючы гэткім варункам, беларуская культура, хоць і рухалася патрошку наперад працаю рэдкіх адзінак з беларускай шляхты, але ўсё-ж яна не магла прабівацца ў народныя гушчы і, тым болей, не магла іх кратаць. Наогул—умовы прыгонна-окупацыйнага жыцьця ня толькі не дапамагалі развою беларускай, мясцовай культуры, а нават перашкаджалі разьвіцьцю культуры і тых народаў, якія пазьменна прыграбалі да сябе Беларусь, пакідаючы на яе целе плойму дармаедаў-крывасосаў з памешчыкаў, шляхты й чыноўнікаў. Да самых апошніх часоў Беларусь была захована ад усякай культуры. Беларускага селяніна й беларускага рамесьніка, ад каго залежала, трымалі ў нявылазнай цемні.

Але, калі мусіла гэта становішча падацца, каб уступіць месца новым формам сацыяльна-політычнага ўкладу жыцьця, тады яно пачалося тым, што зьвязала поступ беларускае культуры з нацыянальным рухам. Звычайна ў гісторыі іншых народаў, хоць-бы латышоў, літоўцаў ці другіх, гэту сытуацыю выкарыстоўвалі не працоўныя гушчы, а інтэлігэнцыя, дробная буржуазія ды разначынцы. У беларусаў, к нашай выгадзе, склаліся сацыяльнымі стасункамі іншыя ўмовы. Атрымалася так, што нямінучы ў гісторыі кожнай нацыі тэрмін нацыянальнага ўздыму паў *на працоўныя слаі беларускага народу*. Гэта ў свой чарод прывяло да таго, што беларускі нацыянальна-культурны рух зьліўся з соцыялістычным рухам і сумесна з ім захапіў беларускую сялянскую й рамесьніцкую інтэлігэнцыю. Рэдкія ядынкі дробна-буржуйнай беларускай інтэлігэнцыі, якія прынялі ідэю адраджэньня беларускага народу, яго культуры, ня гралі значнае ролі. У 1905—6 г.г., калі бурліў вызваленчы рух, які прайшоў па ўсёй царскай Расіі, нязначны лік беларускай дробна-буржуазнай культурніцкай інтэлігэнцыі зусім растаў

у грамадзе перадавой сялянскай і местачковай моладзі. Апошняя шырока захапілася беларускім нацыянальна-соцыялістычным рухам і паступова пачала падбіраць яго пад свой уплыў. Свае поэты, свае культурна-асьветныя гурткі, аматарска-тэатральныя таварыствы, гібель корэспандэнтаў, ясна сьведчылі за тое, што беларускі вызваленчы рух датыкае галоўным чынам самыя нізы і ў той самы час самую базу беларускага народу—сялянства й рамесьніцтва з сельскай інтэлігэнцыяй у асобе сельскага настаўніка, паштовага чыноўніка, лясьніка ды інш.

Гэткі нарыс ясна маляваў кірункі беларускага нацыянальна-культурнага руху ў бліжэйшыя часы яго разьвіцьця. Ня было чаго й да чаго заўважаць тых дробных кропелек на яго цэлі, якія накладалі сабою рэдкія „прыходжыя зьверху“, бач—дробна-буржуйныя інтэлігэнты. Тым болей нятрэ‘ было думаць аб адмежаваньні іх яшчэ й таму, што блізкая будучына для беларускага руху і яго шляхі былі дужа крохкімі й цьмянымі да часоў рэволюцыі. А па колькі ўцалку ўвесь беларускі рух меў гостра-опозыцыйны і, нават, радыкальна-соцыялістычны характар, то ён прыдаваў сабою значную сілу агульна-соцыялістычнаму руху ў Беларусі і граў у дудку працоўнага стану. Кніжкі й адозвы «Беларускай Соцыялістычнай Грамады», якая з 1906 г. абагульніла беларускі нацыянальна-соцыялістычна-культурны рух, зрабілі вялізную працу для распаўсюджваньня рэволюцыйна-соцыялістычных ідэй сярод беларускага сялянства й, нават, сярод местачковых рамесьнікаў. Ды беларуская газэта «Наша Ніва» пад выглядам культурнай газэты зьяўлялася самай радыкальнай газэтай ня толькі ў Беларусі, а і ўва ўсёй Расіі, ня лічачы соцыялістычных газэт, ужо ў 1907 годзе кончыўшых свае жыцьцё ажно да 1912 г. Літоўскія газэты й газэты украінскія, як газэта «Рада», «Діло»—тыя гуртавалі вакол сябе зусім іншага колеру людзей, чым то было з беларускаю «Нашай Нівай».

Пры гэткіх умовах беларускі нацыянальна-культурны рух, атрымаўшы моцны стымул у 90 г. г., раздымаў свае сьценкі ўсё глыбей і глыбей у бок беларускіх сялянска-рамесьніцкіх гушчаў. Якавы-б былі яго далейшыя шляхі й якую-бы афарбоўку ён атрымаў, каб не вайна й рэволюцыя—гэта загадка... ды да таго—ужо для нас—мала цікавая.

Царская вайна, а пасьля рэволюцыя—гэты два вялікія трухі ў жыцьці народаў, насяляючых Расію, перавярнулі ход разьвіцьця яе гісторыі. Гэтыя-ж гістарычныя чыннасьці зьмянілі характар і беларускага нацыянальна-культурнага руху. Царская вайна разбурыла віленскі цэнтр яго й разагнала беларускіх культурнікаў па ўсёй Расіі. Замест культурна-нацыянальна-вызваленчага руху, які меў мэтаю даць чалавечы воблік беларускаму селяніну, на палёх Беларусі йзноў загрукацелі гарматы й панёсься дым пажараў, гонячы перад сабою грамады ўцекачоў «куды вочы глядзяць». Беларуская краіна стала на бераве зьнішчэньня...

Але на выручку прыйшла рэволюцыя. Яна стукнула па вайне, стукнула па паднявольным парадку й адчыніла шырокія магчымасьці свабоднага жыцьця для працоўнага народу ўсіх нацыяў Расіі. Для беларускага нацыянальна-культурнага руху адкрыўся неабмерны сьветагляд. Да яго далучыўшыся шчыльна з рэволюцыяй. і сягнуў беларускі рух. З гэтага моманту, згодна з поступам ды пашырэньнем рэволюцыі, пайшло й яго пашырэньне... Хуткімі, сямімільнымі крокамі. Вось у гэтым яго пашырэньні, зразумела, і сталі цеснымі ранейшыя рамкі. Тым болей, што пэнт новага жыцьця не гадзіўся ні з чым старым. Гарачка разьвіцьця рэволюцыйных здарэньняў перамятусіла карты. І пад шаты беларускага нацыянальна-культурнага руху пачало ўплываць шмат чужога, варожага яму. Гэтае чужое разьлічвала нажыць на беларускім руху ня толькі імя й славу, а і ўладу над

тымі, хто выхаваў сваёю няволяю глебу для свайго руху, бач—для беларускага сялянства й працаўнікоў.

Чым далей, наўсьцяж ад сакавіка па кастрычнік, як і рух другіх народаў, насельнікаў царскае Расіі, беларускі рух раўняўся водлуг расслаеньня рэволюцыйнага разьвіцьця па ўсёй Расіі цалком. З аднаго суцэльнага ён распаўся на некалькі расслойкаў, згодна клясавай падзельнасьці захопленых і далучаных да яго кадраў. У гэтым стане якраз апынуліся гэткія «беларускія культурнікі», як абшарнік Скірмунт, княгіня Радзівіл, гэнэрал Кандратовіч і да іх падобныя. Лёзунгі беларускае незалежнасьці гладка пралазілі праз іх горла. А хітрая іх гамонка лёгка зачароўвала «прасьцецкіх» сяброў тых ці іншых беларускіх соцыялістычных кірункаў, якія перадаваліся ў лягер тых, хто з беларускага нацыянальна-вызваленчага руху меўся зрабіць рух прыгнячэньня беларускіх грамадаў.

Дзякуючы моцнаму напору з боку буржуазных незалежнікаў, у тэрмін між сакавіком і кастрычнікам 1917 г., беларускі рух перажываў крызыс сваёй рэволюцыйнасьці. Над ім вісела небясьпека падпасьці цалком пад уплыў варожых яму рэакцыйных элемэнтаў. Аднак ход разьвіцьця гісторыі Беларусі да гэтага не дапусьціў. Ужо Ўсебеларускі Зьезд у Менску ў лістападзе 1917 году яскрава адмеціў, што беларускі нацыянальна-культурны рух мае ў сябе досыць рэволюцыйна-пролетарскага духу, якому прадназначаны шлях да верхаводзтва. Невялікая, але моцная грамадка дэлегатаў зьезду з рабочых і сялянскай салдацкай масы выразна праводзіла ў сваіх выступленьнях савецкія прынцыпы; гэта грамадка мела вялікую вагу, і на працягу ўсяго зьезду ня кідала гострага кірунку на фэдэрацыю з маладою ў той час і яшчэ слабаю Савецкаю Расіяй, а таксама на згоджанасьць працы з Комуністычнай партыяй. Ня будзь-бы іншых умоў, якія скончылі беларускі зьезд, згодна вымаганьням моманту, дык нельга сумнявацца, што левае крыло таксама прывяло-бы да прыемнага з погляду Савецкай улады канчатку.

*З гэтага моманту, з моманту беларускага зьезду ў 1917 г., беларускі рух фактычна прыняў два кірункі.* З аднаго боку асталіся незалежнікі, якія прытулілі пад сваё крыльле ўсё агіднае, наноснае, чужое й варожае беларускаму працоўнаму народу, з другога—згуртаваліся пакуль маральныя, але моральна і ідэёва крэпкія беларускія савецкія элемэнты. Контынгэнт гэтага зьяднаньня выстачылі Пецярбурская беларуская соцыял-дэмократычная організацыя, зьяднаўшая сабою выключна беларусаў-рабочых, і левае крыло Беларускай Соцыялістычнай Грамады. На сходах абудвых гэтых організацый скора-ж пасьля зьезду былі прыняты рэзолюцыі, у якіх выказвалася адкрыта нязгоднасьць іх з працаю й пастановамі беларускага зьезду. Вось што кажа рэзолюцыя Пецярбурскай організацыі Беларускай Соцыялістычнай Грамады, прынятая агульным сходам 11 сакавіка 1918 г. па пытаньню аб адносінах да беларускай рады, выбранай гэтым зьездам:

«Беларуская Соцыялістычная Грамада, як партыя рэволюцыйнага соцыялізму, першая пачала працу на ніве нацыянальнага адраджэньня беларускага працоўнага народу і павяла гэту працу той пуцінай, якая не перашкодзіць клясавай барацьбе і вызваленьню ад экономічнага гнёту працоўных людзей... Пецярбурская організацыя Беларускай Соцыялістычнай Грамады, абураная політыкаю самазваных беларускіх радаў, рэзка адлучаючы іх ад сябе і абвяшчаючы ім нячшчадную барацьбу, зьвяртаецца да рэволюцыйных работнікаў і сялян Велікарасіі і ўсіх нацыяў, якія ў ёй жывуць—з агалашэньнем, што яна (Пецярбурская організацыя Беларускай Соцыялістычнай Грамады) настолькі прымае ў сваёй праграме нацыянальны рух, на колькі ён не парушае еднасьці рэволюцыйнага фронту і памагае

хутчэйшаму вызваленьню працоўнага народу ад усякага ўціску. Няхай жыве работніча-сялянскі інтэрнацыянал!»

Выразьней кажучы, гэта рэзолюцыя ахоўвала ранейшыя рэволюцыйныя традыцыі і прынцып пахілу да працоўнага народу ў беларускім руху і разам ставіла яму вехі таго кірунку, які, фактычна, адзначыўся ў політыцы Савецкай улады па нацыянальнаму пытаньню. Сэнс гэтага кірунку выкаваў гэткія думкі: «Беларускі працоўны народ—адсталы ўва ўсіх адносінах ад суседніх народаў, культурна-найцямнейшы. Віною таму—векавы заняпад яго нацыянальнай культуры, зьвязаны да апошніх часоў з вялікшым, дубальтовым прыгонам політычным, экономічным і нацыянальным. З-пад гэтага заняпаду, сілаю гістарычных умоў задоўга да рэволюцыі ён пачаў вызваляцца праз нацыянальна-культурнае адраджэньне.

У культурны рух беларускі працаўнік улажыў усю сілу протэсту супроціў усякага выгляду прыгнёту над сабою. Дзякуючы гэтаму, к часу заснаваньня Савецкай улады беларускі рух захапіў сабою шырокія гушчы беларускіх рабочых, сялян і рабоча-сялянскай інтэлігэнцыі, як у Беларусі, гэтак і па-за межамі.

Пакінуць гэту грамаду на самую сябе—то значыла даць поўную мажлівасьць беларускай радзе й беларускай незалежніцкай ідэолёгіі падабраць пад сябе пакуль няўтрывалыя кадры беларускіх працаўнікоў. Занядбаць гэта—было роўна праступку. Патрабавалася захапіць кіраўніцтва над імі тым шчыра-соцыялістычным элемэнтам, якія-б вялі гэта іх разьвіцьцё паводлуг разьвіцьця пролетарска-савецкай ідэі, паводлуг вымаганьняў комунізму.

Вось за гэтую справу і ўзяліся беларускія левыя організацыі—Соцыял-дэмократычная (бальшавікоў) і левае крыло Соцыялістычнай Грамады (інтэрнацыяналістыя). 24 лютага 1918 г. абедзьве гэтыя організацыі, згрупаваўшы сваю работу ў Беларускім Нацыяльным Комісарыяце, сталі ўзглаўляць беларускі нацыянальна-культурны рух у яго супроць-незалежніцкай, савецкай галіне.

Комісарыят разьвярнуў працу політычную й культурную. Політычная праца аддавала шмат увагі пытаньням вызваленьня Беларусі з-пад нямецкай окупацыі, і організацыі беларускай грамадзянскай савецкай думкі, якая-бы стала перашкаджаць беларускай незалежніцкай белагвардзейшчыне выступаць ад імя беларускіх працоўных грамадаў. Культурная праца налягла на тое, каб з яе дапамогай увясьці беларускі рух у рамкі савецкага культурна-пролетарскага напрамку. На працягу часу ад красавіка да жніўня 1918 году пастаўленыя комісарыятам заданьні прынясьлі багаты плён: культурная беларуская праца заняла галоўнейшае месца ў комісарыяце, а політычную яе частку ўзяла праводзіць заложаная к гэтаму часу беларуская сэкцыя маскоўскай організацыі комуністычнай партыі, якая хутка прыняла сілу і аўторытэт прадстаўніцы беларускага савецкага працоўнага грамадзянства. Гэта дало сэкцыі поўныя правы і магчымасьць выступаць ад яго ўсюды, усягды й перад усіма, паралізуючы гэтым провокацыйна-прадаўніцкую працу ў окупаванай Беларусі з боку беларускай рады й абляпіўшых яе контррэволюцыянэраў рознае афарбоўкі. Да Беларускага нацыянальнага комісарыяту, як да ўстановы, абараняючай правы беларускага працаўніка й селяніна, зварочваліся організацыі і грамады беларускага сялянства, рабочых і бежанцаў. У рэзолюцыі, прынятай 7 кветня 1918 г. на валасным сходзе, паданай у комісарыят, сяляне Чарнейскай воласьці Себежскага павету Віцебшчыны аднагалосна заяўляюць: „*Мы рашылі зьвярнуцца да Беларускага Нацыянальнага Комісарыяту і да правіцельства Вялікай Фэдэрацкай Расійскай Рэспублікі* з паведамленьнем аб тым, што мы протэ-

стуем супроціў жаданьняў нямецкіх гвалтоўнікаў, якія жадаюць праз абман і абяцанкі абярнуць нас і нашых братоў у сваіх нявольнікаў.

Мы, беларускія сяляне, ня хочам падарункаў нямецкіх кулакоў, а жадаем самі вырашаць лёс Вялікае Роднае Беларусі». *)

Бежанцы з Царыцыну зьвярталіся ў Комісарыят з гэткай заявай: «Мы, беларусы, жывучыя ў Царыцыне, заяўляем протэст супроціў нямецкага захапленьня Беларусі, бо апека немцаў вядзе да таго, каб задушыць рэволюцыю і аддаць у няволю беларускі працоўны народ.

Нашы заданьні—атрымаць самавызначэньне ў саюзе з Расійскай Фэдэратыўнай Савецкай Рэспублікай».**)

Апроч прыведзеных тут, цэлы шэраг пастаноў і рэволюцый сялянства Вітабшчыны (Дамінікаўская воласьць Невельскага павету, Старасельская воласьць Вітабскага павету, Курынская воласьць і інш.) зьвярталіся ў Беларускі Нацыянальны Комісарыят з просьбаю не дапусьціць захопу немцамі ўсёй Беларусі і абараніць яе ад самавызначэньня пад шатамі Беларускай Рады. Тое-ж пастанавіў і бежанскі зьезд у Маскве, арганізаваны нацыянальным комісарыятам. «Самавызначэньне Беларусі мажліва толькі пад Савецкай уладай і ў фэдэрацыі з Савецкай Расіяй», заключалі беларускія сяляне свае рэзолюцыі, якія пасылалі на імя Беларускага Нацыянальнага Комісарыяту. Аднак, зразумела, што праца Комісарыяту не магла не дапусьціць падграбаньня беларускага руху пад уплыў беларускіх раднікаў, прытуленых да сябе окупантамі, і іх буржуйна-рэакцыйнай ідэолёгіі, якое быў сэнс: *праз беларускую культуру да беларускай буржуйна-белагвардзейскай дзяржаўнасьці, праз незалежнасьць Беларусі да прыгону над беларускім працаўніком і селянінам.*

І дзякуючы таму, што перш нямецкія, а затым польскія окупанты бачылі ў ідэях незалежніцтва прыемны й выгадны для сябе скутак, дык ажыцьцяўленьню іх ня толькі ня ставілася ніякіх перашкодаў, а нават давалася шырокае падтрыманьне для іх распаўсюджваньня й замацаваньня. Ня дзіва, што пры гэткіх умовах росквіт незалежніцка-буржуйнай ідэолёгіі ў беларускім руху йшоў з поўным посьпехам, прыгортваючы яго да сябе і ўносячы ў яго жывыя супярэчнасьці.

Такім чынам у спадчыну Савецкай Беларусі беларускі культурна-нацыянальны рух уліўся двума джараламі—рэвалюцыйна-пролетарскім і буржуйна-незалежніцкім. Савецкая ўлада, пры сваім абсталяваньні на Беларусі, дала шырачэзныя мажлівасьці разьвіцьцю беларускае культуры, падлажыўшы пад яе дзяржаўна-прававы фундамант. Але, робячы гэта, ні япэ, ні комуністычная партыя Беларусі, з-за многіх прычын, якія наогул перашкодзілі ўдзяляць увагу культурнаму жыцьцю, не маглі разьвіцьця беларускага культурнага руху рэгуляваць паводлуг комуністычных ідэяў. Дзякуючы гэтаму (і яшчэ таму, што абмылкова беларускі культурна-нацыянальны рух лічыўся ня сур'ёзным зьявішчам), ён разьвіваўся стыхійна, маючы вакол сябе нязьменныя ўмовы варожасьці з боку сваіх няпрыяцеляў і адхіляючыся ў бок шовіністычнасьці. Чым далей, тым параўнаўча выходзіла, што буржуйна-незалежніцкі бок яго пашыраўся, паглыбляўся і, вядома, пераважваў бок пролетарска-рэволюцыйны. Прыхільнікі апошніх яго адценьняў, як і наогул усе беларускія культурнікі і іх праца, сустракалі моцную й зьяднаную опозыцыю (калі ня больш), як ад захаваных пад крыльле Савецкае ўлады розных чорнасотнікаў і контр-рэволюцыянэраў, так часта і ад зьбітых імі з панталыку многіх адпаведных і неадпаведных кіраўнікоў савецкае ўлады.

*) «Дзяньніца» № 12, 1918 г.
**) Там-жа.

У апошніх складаўся зусім абмылковы погляд на беларускі нацыянальна-культурны рух, што быццам-бы ён ідзе супроціў пролетарскай культуры й супроціў рэволюцыі. Але, маючы пад сабою гістарычна-няпрыменную падставу, беларускі культурна-нацыянальны рух ня мог спыніцца і пашыраючыся браў розныя выгляды і рухаў рознымі выхілясамі, каб абыйсьці й абмінуць сустрэчныя перашкоды.

Пэўна, гэткія ўмовы застаўлялі беларускі нацыянальна-культурны рух ухіляцца ў адзін бок, зьбірацца ў адно джарало—бач, у тое, якое лілося на млын буржуйна-незалежніцкіх элемэнтаў, у бок варожы комуністычным ідэям.

Гэткім чынам, увачавідкі перад намі, адбылося здарэньне, якое прайшло без належнага дагляду і атрымала непажаданы выгляд. Гэты непажаданы выгляд у беларускім нацыянальна-культурным руху—бязумоўна нарасьць з прычын ненормальных, неадпавядаючых яго сутнасьці—час-адчасу будзе памяншацца. Ён праз сілу рэчаў мусіць звужваць сваё ўлоньне, пераліваючыся ў джарало пролетарскай яго часткі. Але гэта звужваньне буржуйна-незалежніцкіх элемэнтаў вымагае аднаго—зьнішчэньня тых умоў, якія ўдобрываюць ім глебу... Пакуль гэтых умоў—задужа багата. І на школу, яны не зьменшваюцца, а як-бы, наадварот, замацоўваюцца, апіраючыся на рознага выгляду зьменавехаўскія ды эўразійскія ідэі і... на нядбайнасьць з боку комуністычнай партыі.

Бязумоўна, што ўсе гэтыя ўмовы зразу могуць згінуць, калі выявіцца адно—гэта чынныя адносіны да беларускага культурнага руху з боку комуністычнай партыі Беларусі. Апошняя ні ў якім чыне не павінна (ды ўжо ня можа) глядзець нядбайна ды ня лічыцца з тым зьявішчам, якое фактычна ёсьць плён гістарычнага разьвіцьця.

Апрацаваньне выразнага й цьвёрдага погляду на беларускі нацыянальна-культурны рух з боку комуністычнай партыі зробіць аддушыну ў сьпёртым вакол яго паветры і ў хуткім часе магчыме зьяднаць яго далейшае разьвіцьцё ў адным, адпаведным рэволюцыі напрамку.

Тым болей лёгка вырашыць гэта заданьне, што выяўленьне пролетарска-сялянскай сутнасьці ў ім ужо досыць насьпела і пачынае выразна прабівацца, у асобку, у важнейшай яго галіне—літаратуры.

У дзядзіне яе на вачох растуць і шырацца пролетарскія мотывы, глушачы нацыянальны сантымэнталізм і плаксівае народніцтва. Устае й гуртуецца крэпкая сямейка маладых, загартаваных песьняроў-ваяк...

Але што далей літаратуры—там яшчэ шырокія пласты іншае якасьці. І пласты дужа крэпкія. Іх і мажліва павярнуць у патрэбны бок, у бок рэволюцыйнасьці, толькі чынным удзелам у кіраўніцтве беларускім культурным рухам з боку беларускіх комуністых пры выяўленьні да яго сваіх выразных і цьвёрдых адносін з боку комуністычнай партыі Беларусі.

**З. Жылуновіч.**

# Беларуская школа, як фактар культуры беларускага пролетарыяту.

У справе сучаснага культурнага будаўніцтва ў Беларусі, будаўніцтва комуністычнай партыі й Савецкай улады вельмі важнае значэньне мае пытаньне аб беларускай школе.

Што школа наогул зьяўляецца магутным сродкам у справе пашырэньня культуры, а ў тым ліку і ў справе культуры пролетарыяту, пачынаючы з яе ніжэйшых ступеняў і канчаючы вышэйшымі,—у гэтым, нават, ня можа ўзьнікнуць сумненьня. «Вучыцца, вучыцца і вучыцца»,—вось што трэбуецца цяпер, згодна са словамі т. Троцкага, ад рабоча-сялянскай моладзі.

Яна павінна ў наступныя гады «грызьці навуку маладымі зубамі»... Няма сумненьня, што яна павінна і што будзе грызьці...

Але—якую навуку, у якой школе?

«Комунізм і спэцыялізацыя, спэцыялізацыя і комунізм»,—вось як азначае т. Бухарын воблік новай пролетарскай асьветы і мэту сучаснай пролетарскай школы.

Што пролетарская школа павінна быць прыстасаванай да прынцыпаў інтэрнацыяналізму, да прынцыпаў комуністычнага будаўніцтва і да агульнага характару пролетарскай ідэолёгіі,—гэта зразумела само сабою і не патрабуе асаблівай аргумэнтацыі.

Зразумела, таксама, што пролетарская школа павінна гатовіць добрых спэцыялістых ва ўсіх галінах тэхнікі й грамадзянскага жыцьця, выпускаць з сваіх муроў людзей працы, а не баўтуноў-схолястыкаў і быць прыстасаванай у сваёй мэтодолёгічнай аснове да мэтадаў працы,—быць «працоўнай» у шырокім сэнсе гэтага слова.

Гэтыя рысы — неабходныя ўмовы, conditiones, sine quibus non, ня толькі беларускай, але і ўсякай іншай школы, якая істнуе ў пролетарскай дзяржаве і мае сваёю мэтаю культуру пролетарыяту.

Але якой па *мове* павінна быць клясава-пролетарская школа ў Беларусі?

У 1921 г. Цэнтральны Выканаўчы Комітэт Саветаў Беларусі на лютаўскай сэсіі зрабіў пастанову, якая прадпісвае Наркомасьветы прыняць усе меры да ўзмацненьня культурна-асьветнай працы ў мове беларускай, як мове большасьці працоўнага сялянства Беларусі.

Згодна пастанове Комітэту, Народны Комісарыят Асьветы павінен выходзіць з няўхільнай пэрспэктывы плянамернага й паступовага пераходу ўстаноў, дзе вучацца й выхоўваюцца беларусы, у выкладзе навук на іх матчыную мову.

Аднак у сэсіі былі гарачыя спрэчкі ў адносінах да гэтага пытаньня.

Некаторыя таварышы (т. т. Калінін, Карэлін і Перапечын) выступілі проціў беларускай мовы і беларускай школы.

Гэтым прамоўцам тады даў добры адказ т. Жылуновіч.

Але ня мінула й году з таго часу, як пачалася сярод некаторых кругоў кампанія проціў беларускай школы.

У канцы мінулага году зьявілася «баявая» заметка на старонках „Звезды“ «Чей путь правильней» Антона Беларуса.

Тут якісь гарамыка беларускі інтэлігэнт пытае: чый шлях правільней —шлях тутэйшай інтэлігэнцыі, якая гаворыць толькі ў расійскай мове і лічыцца толькі з расійскай культурай, ці шлях «апрошчаньня», „шлях“ паступовага скарыстаньня беларускай мовы ў культурна-асьветных мэтах—інакш кажучы, шлях, прадуказаны Выканаўчым Комітэтам Саветаў Беларусі Народнаму Комісарыяту Асьветы.

Антон Беларус кажа так:

«Путь опрощения, жажда говорить непременно на языке «вески», языке Степана и Ивана, вряд-ли даст какие-либо достижения, кроме изучения народного быта и народной культуры, находящейся еще (незачем скрывать истину) на сравнительно низкой ступени развития.

Нам кажется поэтому, что преподавание всех наук на белорусском языке—сейчас преждевременно. Если мы преподносим белоруссу только его родной язык, он вправе был-бы сказать нам, что мы его духовно обкрадываем.

Не снизиться до уровня простого крестьянина, а поднять его на высоту других народов, чьи достижения выше белорусских—вот та задача, которую должна поставить себе белорусская интеллигенция.

Я знаю, меня обвинят в руссицизме. Но пусть: тот, кто желает блага своему народу, не боится кличек. И мы открыто заявляем здесь, что путь опрощения и утраты своей культурности только потому, что она приобретена в России, а не в Белоруссии, где не было даже очагов культуры (высших школ)—этот путь неправилен.

Мы лично ставим себе другую задачу—передать белорусскому народу всю ту культуру, которую мы приобрели за рубежом Белоруссии, поднять его до самих себя, а потом он сможет сам идти своей дорогой.

Белорусс - крестьянин сам знает свой белорусский язык, он не знает только своей маленькой литературы (которую ему нужно преподать—это правда), наряду с другой, великой литературой—литературой русской».

У канцы канцоў Беларус робіць уступку тым, што прызнае:

«А пока—нужно изучать два языка: и русский и белорусский. Интеллигенту Белоруссии необходимо знать эти два единственных языка—по крайней мере, до тех пор, пока не вырастет белорусская литература и наука до размеров русской литературы и науки».

Антон Беларус прызнае больш карысным у мэтах культурнага разьвіцьця беларуса «расійскі» воблік беларускай школы хоць і з беларускай мовай, як адным з прадметаў школьнай праграмы.

Але вось на старонках «Звезды», праз год апасьля артыкулу А. Беларуса ў лістападзе 1922 г. друкуецца заметка якога-та «рабочага», у якой „рабочы“ робіць выпад ужо проціў выкладу самой беларускай мовы, як прадмета. Ён лічыць больш карысным заняць тыя тры гадзіны, якія адводзяцца ў праграме на беларускую мову, лекцыямі па чужаземным, нямецкай і французскай, мовам.

І нельга замаўчаць таго факту, што рачавістасьць іншы раз адказвае

на жаданьне «рабочага»: у некаторых школах няма выкладаньня беларускай „мовы“, як прадмета, а некаторыя школы носяць досыць выразны русіфікацыйны характар.

Прыклад: г. зав. «чугуначныя» школы, каторыя прадстаўляюць якуюта асаблівую групу сярод школаў Беларусі в сваі.м „асабістым“ душком, дзе, нават, у гэтым годзе ня было ўведзена беларускай мовы, як прадмета.

Цікава адмеціць, што, калі настаўнікам чугуначных школ было прапанавана Наркомасьветы выкладаць беларускую мову, на апошнюю настаўнікі адвялі толькі адну (!) гадзіну ў тыдзень, лічачы знаёмства с расійскай мовай і літаратурай пры 5-тыднёвых гадзінах больш патрэбным для вучняў.

Заўважым, што і ў партыйных школах, якія зьяўляюцца асабліва карыснымі ў справе комуністычна-пролетарскай асьветы, выклад вядзецца выключна ў расійскай мове і хоць маецца адна жыдоўская партшкола, але ня маецца ніводнай беларускай.

А істнуючыя ў Менску рабфакі—установы, якія асабіста служаць мэце культуры рабочага? Ці яны маюць беларускі воблік? Ці загадчык гэтых рабфакаў прыхільны да беларускай культуры? Вядома, што групе студэнтаў рабфаку, беларусаў, для немагчымага становішча, патрабавалася выступіць на старонках «Савецкай Беларусі» з протэстам на няўважлівыя адносіны да беларусазнаўства.

Усё гэта—факты, і факты, зафіксаваныя друкам.

Няпрыхільныя адносіны да беларускай мовы і культуры ня зьнiклі і цяпер, пасьля чатырох год істнаваньня самастойнай Савецкай Беларусі.

Такім спосабам, ізноў прыходзіцца ставіць пытаньне аб тым, якая школа, беларуская ці расійская, зьяўляецца больш патрэбнай у інтарэсах культуры беларускіх працоўных масаў.

Пытаньне ўзьнікае якраз аб беларускай клясава-пролетарскай школе затым, што пры ўмовах дыктатуры пролетарыяту толькі і магчыма клясавапролетарская школа.

У рашэньні гэтага пытаньня трэба выхадзіць з агульнага духу марксыцкай пэдагогікі і рэальных суадносінаў фактараў матар'яльнай і інтэлектуальнай культуры: марксыцкая пэдагогіка—пэдагогіка комунізму—рэалістычна па сваёй істоце і кіруецца запраўдна даннымі, а ня выабражаемымі толькі фактамі,—дзеяньнямі, а ня ўнутранымі пачуцьцямі і іншымі забабонамі буржуазнага веку.

Заўважым перш за ўсё, што з пункту погляду марксыцкай пэдагогікі, нават, дзіўным прадстаўляецца тое, што ўзьнікае пытаньне аб тым, якая мова ў Беларусі павінна быць сродкам культуры беларускага пролетарыяту.

Гэта пэдагогіка трымаецца таго адзіночна-правільнага і адзіночна-рэалістычнага погляду, што, як гаворыцца ў рэзолюцыі аднаго зьезду па пэдагогічным пытаньням, «задачи интернационального воспитания осуществляются не путем искусственного приобщения к чужой культуре, а путем внесения в формы родного языка социалистического интернационального содержания» (Гл. рэз. I Усерас. зьезду па дашк. вых.).

Іншага погляду і прадставіць немагчыма.

Цяпер толькі адно запытаньне: якая мова зьяўляецца роднай для беларуса-пролетарыя?

Нельга адмаўляць таго, што для некаторай часткі прыродных беларусаў беларуская мова згубіла сваё значэньне роднай мовы. Гэта якраз датычна да абрусеўшага чыноўніцтва расійскай службы, прызвычаенага да расійскай мовы, і для апалячанай шляхты, якая мае права лічыць роднай для сабе польскую мову. Калі беларускія інтэлігэнты патрабуюць зяліка-

рускай школы, яны маюць на ўвазе саміх сабе, і калі яны з пагардай глядзяць на беларускую мову, як палянізаваную, яны маюць на ўвазе апалячаную шляхту. Але ў Савецкай Беларусі ставіцца пытаньне не аб інтэлігэнцка-буржуазнай, а аб рабочай і сялянскай школе.

У адносінах да большасьці беларусаў, у адносінах да беларускага пролетарыяту трэба ўстанавіць родную *для яго*, прызвычаеную *для яго* мову, як прыродную аснову яго культурнага разьвіцьця. І вось што датыча да беларускага сялянства, то ніхто ня будзе спрачацца, што гэта сялянства гаворыць на сваёй, зусім асаблівай, сваёй народнай мове, якая зьявілася скуткам цэлага шэрагу гістарычных акалічнасьцяў, вынікам доўгага гістарычнага працэсу, мове, якая зьяўляецца адбіткам усяго яго быту, настрояў і пачуцьцяў. І Антон Беларус прызнае, што «белорусс-крестьянин знает свой белорусский язык». Так, у беларускага селяніна маецца свая «сялянская», свая «мужычча», свая «хлопская» мова! У гэтым—яго гардасьць і яго моц! Гэта такая самая кражыстая, такая самая абыдзеная, але й родная беларускаму мужыку стыхія, як і самая пролетарская рэволюцыя з яе знакамі сярпа і молату, скрыжаваных паміж сабою і сымбалізуючых усе мазолі, пот, адвечную працу селяніна.

А молат—сымбал працаўніка гораду?

Беларусы-рабочыя, працуючыя ў гарадох, падпадаюць пад уплыў гарадзкой буржуазнай культуры, гавораць парасійску, але ўсе яны—выходцы з тэй самай сялянскай масы, якая гаворыць у вёсцы *толькі* пабеларуску і, значыцца, для рабочай клясы ў Беларусі роднай мовай зьяўляецца якраз беларуская мова.

Ніводзін беларускі селянін, ніводзін беларус-рабочы ня будзе, ня мае магчымасьці адракацца ад сваёй роднай стыхіі, ад роднай беларускай мовы.

А беларуская буржуазная інтэлігэнцыя?....

Хто ў цемру слаў жыцьця праменьні.
У руках трымаеце каменьні,
І нас пабілі-бы ахвотна.
А можа Чырвань Сонца Волі
Вам асьляпіла раптам вочы?
А помніце, як вы кляліся
Братом, сялянам і рабочым,
Што вы ня здрадзіце ніколі?
Пявун не прапяяў тры краты—
Вы адракліся....
Супастаты!!!

Для беларуса-селяніна і рабочага роднай мовай зьяўляецца толькі беларуская мова вёскі,—і толькі ў формах гэтай мовы можа быць данным для яго зьмест інтэрнацыяналізму.

Рэалістычная, як аснова культуры беларускіх сялян і рабочых, беларуская мова, магчыма зацьвердзіць, пераходзячы да другога тэзісу, зьяўляецца і толькі яна адна мае мажлівасьць зьявіцца рэалістычнай у сэнсе дасяганьняў культуры.

Дасяганьні культуры відавочна адзначаюцца зьяўленьнем выдатных дзеячоў мастацтва, навукі, грамадзянскага жыцьця.

Што-ж, запытаем, у гэтых адносінах кажа гісторыя культуры на Беларусі.

Калісь-то ў Беларусі красавалася культура, і гэта якраз было ў пачатку яе гістарычнага жыцьця—XV—XVI в. в.,— у тыя вякі, якія аглядае акад. Карскі ў другой частцы другога тому «Бѣлоруссов». Тады былі выдатныя беларусы пісьменьнікі і вучоныя, як Скарына, Мелеці Сматрыцкі і інш., якія выйшлі з дробнай шляхты таго часу. Але дробная тагочасная беларуская шляхта яшчэ не апалячылася і гаварыла яшчэ народнаму, беларускаму. Беларуская мова зьяўлялася культурным сродкам для Скарыны і Сматрыцкага—і дзякуючы гэтаму, яны і самі дасягнулі вялікіх посьпехаў на сваім беларуска-культурным шляху і,нават, тагочасныя беларусы зрабілі ўклад у маскоўскую культуру.

Ад канца XVII ст. у беларускай асьвеце стала панаваць польская мова, а ад канца XVIII ст. яе панаваньне зьмянілася панаваньнем мовы расійскай, якая панавала аж да канца XIX ст.

Якія дасягненьні даў гэты польска-расійскі кругабег для беларускай і суседніх культур?

Ды ніякіх дасягненьняў. Мы ня можам указаць ніводнага беларуса-пісьменьніка, ніводнага вучонага, ніводнага публіцыстага, які меў-бы сколькі-небудзь выдатнае значэньне ў межах ня толькі польска-расійскай але, нават, мясцовай, краёвай культуры.

Культурныя посьпехі беларусаў спыніліся—спыніліся дзеля таго, што чужая асьвета не магла дзць вынікаў на беларускай глебе.

І толькі ўжо, пачынаючы з таго недалёкага часу, як стала адраджацца беларуская мова, сталі прыметныя культурныя посьпехі беларусаў.

Той край магіл, той край, дзе жыў Скарына
Зноў парадзіў прарокаў і байцоў:
Ідуць-брыдуць, бы Нёман з месца рынуў,
Бы грамада узброеных касцоў.

Беларускія народніцкія поэты, як Я. Купала, Я. Колас, а таксама, сучасныя пролетарскія поэты Ц. Гартны й М. Чарот зьяўляюцца выдатнымі вялічынямі таму, што яны карыстаюцца сваёй роднай мовай, што працуюць у беларускай глебе. І працуючы ў беларускім кірунку, яны ўжо зрабілі вялікі ўклад у скарбніцу сусьветнай культуры.

І цяпер, калі пролетарыі ў Беларусі выступаюць, як актыўная культурная сіла, ад пытаньня, ці будуць яны карыстацца сваёй роднай стыхіяй, залежыць станоўчае рашэньне вельмі важнай справы.

Ці будзеце сьвяціцца ў родным творчым коле?
Ці будзеце магутны?

Значыцца, зусім ня праў А. Беларус, калі ён кажа, што „путь опрощения, жажда говорить непременно на языке вёски, языке Степана и Ивана, вряд ли даст какие либо достижения“.

Якраз такі «путь» і зьяўляецца адзіночным шляхам к утварэньню беларускай культуры, а дзеля таго, што «Степан и Иван»—усё гэта прадстаўнікі пролетарскай масы, гэты шлях ёсьць найбліжэйшы шлях да пролетарскай культуры.

Неправільным таксама прыходзіцца прызнаць і заданьне, якое выстаўляецца А. Беларусам,—спачатку перадаць беларускаму народу зарубежную культуру. Правільны шлях ідзе ў іншым напрамку: ад сваёй культуры да чужой, зарубежнай, а не наадварот.

Ці трэба пасьля ўсяго гэтага давадзіць, якім паклёпам на дзеячоў беларускай школы зьяўляецца заява А. Беларуса: «Если мы преподносим белоруссу его родной язык, он вправе был-бы сказать нам, что мы его духовно обкрадываем»?

Згодна самому сэнсу слова: «обкрадывание»—«зладзейство», зладзей бярэ тое, што прыналежыць іншай асобе, яе ўласны здабытак.

Здабыткам беларускага народу зьяўляецца яго ўласная, «мужычая» мова і вялікім зладзействам у адносінах да беларускага народу, да беларускага селяніна й рабочага, зьявіцца падмена родных яму сродкаў культурнага разьвіцьця сродкамі чужымі і для яго менш зразумелымі.

Шлях да культуры беларускага пролетарыяту, да яго комуністычна-інтэрнацыянальнай асьветы йдзе праз беларускую мову й беларускую школу.

N.

# Банкроцтва беларускай эміграндкай акцыі у Літве.

Перада мной ляжыць адзін з цікавейшых дакумэнтаў беларускай замежнай палітыкі: мэморыял-пратэст, паданы ад імя „дзяржаўных“ і грамадзкіх арганізацый беларусаў прэзыдэнту Літоўскай рэспублікі. Падпісан дакумэнт цэлаю жменяю старшын, а ласьне—«старшыня дзяржаўнай колегіі Беларускай Народнай Рэспублікі—П. Крачэўскі», «б. віцэ-старшыня Віленскага Нацыянальнага Камітэту—В. Пракулевіч», «старшыня Цэнтральнай Рады сялян-беларусаў у Літве—А. Карабач», «ад імені Прэзыдыуму Беларускай Грамады ў Коўне—Л. Заяц» і «старшыня Беларускай Нацыянальнай Сувязі—А. Галавінскі». Надрукована гэтая цікавая заява на двух мовах—беларускай і літоўскай, датована студзенем 1923 году.

«У згодзе з пастановай Нарады ад 15—17 сьнежня 1922 году, ніжэй падпісаныя маюць часьць зьвярнуцца да Вас, п. Прэзыдэнт, з заявай чароднага зьместу.

Сьвядомасьць гістарычнае беларуска-літоўскае еднасьці і солідарнасьці прымушае нас, прадстаўнікоў Беларускага Народу ў Літве, сказаць у Вашай асобе Народу Літоўскаму праўду аб нашых беларуска-літоўскіх узаемаадносінах. Абавязак сказаць гэтую праўду ляжыць ласьне на нас, бо мы зьяўляемся найбольш сьвядомымі й найбольш пераконанымі саюзьнікамі Літоўскага Народу, неаднаразовыя сьведчаньні чаму ачавісты; бо на нашую долю выпаў гонар рэпрэзэнтаваць Беларускі Народ у Літве і ў меру сіл змацняць брацкую сувязь абодвых Народаў. Праўда, якую мы прымушаны сказаць Вам, выражаецца ў тым, што, пры стварыўшыхся варунках, мы ня можам выканаць нашай нацыянальнай задачы. Варункі гэты гэткія, што ўсе спробы нашыя падыйсьці сур'ёзна й шчыра да справы ўзмацненьня беларуска-літоўскага супрацоўніцтва зьнікаюць на нішто, сустракаючы ці незразуменьне, ці неспагад з літоўскай стараны, у выніку чаго самы гонар, на нас лежачы, абяртаецца ў панадсільны цяжар. Варункі гэты гэткія, што мы ня можам гварантаваць беларуска-літоўскія ўзаемаадносіны ад магчымага ахаладжаньня, нават, у самай бліжэйшай будучыне»... так пышна і ўрачыста пачынаецца мэморыял.

Далей гаворыцца аб тым, як літоўцы наогул нэгатыўна адносіліся к беларускай проблеме да моманту вымушанага выезду літоўскага ўраду з Вільні (1920 г.), калі паўстаў пералом у літоўскай політыцы. Вынікам гэтага пералому была «дзяржаўная ўмова» паміж абедзьвюма старанамі аб «узаемным падтрыманьні» і быў накінут у агульных рысах «плян барацьбы супроць незаконнага польскага захвату».

«Беларуская старана чэсна выканала свае абавязкі згодна ўмове», кажа мэморыял і пералічае чыннасьць беларусаў на мясцох на карысьць Літвы, падкрэсьліваючы, што „дзесяткі і сотні заключонных у польскіх турмах і падлягаючых сяродвечным тартурам, за выяўленьне сымпатый да Літоўскай дзяржавы, урэшце, пралітая за тую-ж справу беларуская народная кроў— вось сьведчаньні чэсных адносін беларускай стараны да сваіх абавязкаў».

«Што-ж мы бачым за гэты час з боку Літвы?» пытаецца мэморандум і тут-жа адказвае: „Апрача нязначнай матар'яльнай дапамогі, выданай у форме тэрміновай і працэнтнай пазычкі, якое падтрыманьне амаль цалком было выдаткавана на прапаганду праў Літвы на спрэчную тэрыторыю Віленшчыны—нічога». Затым ідзе цэлы шэраг закідаў па адрасу як літоўскага ўраду, так і ўсяго грамадзянства ў асобе яго парлямэнтарыяў, за іх зьняважлівыя адносіны да беларускай проблемы і беларускага руху, які літоўцы разглядаюць «як нешта другараднае і пры тым службовае»; затое, што ў Літве няма ніводнае ўстановы, якая сьведчыла-б аб рэальным падтрыманьні беларусаў у іх барацьбе ні ў сфэры палітычнай, ні, нават, у культурнай; затое, што за ўсе 2 гады, прайшоўшыя ад дня падпісаньня беларуска-літоўскай умовы, беларуская старана толькі адзін раз была запрошана не па свайй ініцыятыве для абмеркаваньня бягучых спраў, што ўсе стрэчы адбываліся толькі па ініцыятыве беларусаў («Кіраўнікам літоўскай палітыкі за гэты доўгі тэрмін ці ня было чаго сказаць прадстаўніком беларускага руху, ці казаць гэтага яны не знаходзілі патрэбным...»); затое, што ў Літве ня цікавяцца беларускім пытаньнем, і што адносіны да беларускіх грамадзян «былі і засталіся гіранічна-толерантнымі».

„*Наперакор умове*“, атакуюць ковенскія дзеячы, „*Літва нічым не падтрымала беларускага пытаньня заграніцай, але наадварот—у асобе сваіх прадстаўнікаў замоўчвала беларускую справу і ў сваіх выданьнях, картах і інш. не переставала цьвердзіць, што на ўсход ад Літвы ляжыць ці Польшча, ці Расія, але ў кожным разе не Беларусь*“ (курсіў мой, І. Ц.).

Мала таго, па зьместу мэморандуму выходзіць, што літоўская старана, пакідаючы бяз увагі беларускую проблему ў цэлым, на мясцох таксама нічога ня робіць. Усё, што там робіцца, робіцца беларускімі рукамі, прычым літоўцы памагаюць беларусам толькі на словах, а на практыцы «*маюць месца арышты беларускіх працоўнікаў, прымушаных скрывацца ад польскага тэрору на літоўскай зямлі, маюць месца ўпартыя спробы высылкі іх пад польскую акупацыю, што праводзіцца сыстэма, пры якой фактычна беларусам адмаўляецца ў праве ўбежышча і г. п.* (курсіў мой, І. Ц.). Беларускае жыхарства Віленшчыны ведала ўсё гэта і няма нічога дзіўнага, што яно пайшло на выбары ў Варшаўскі сойм. Гэты факт павінен (па думцы ковенскіх белар. дзеячоў) раскрыць вочы літоўцам, як важна падтрымаць беларускі вызвалены рух, да якога яны ставіліся ўвесь час нэгатыўна і ня лічылі яго за рэальную сілу. „Трэба раз назаўсёды ўмовіцца,—кажа мэморандум,—як датычна прынцыпіяльнае стараны беларуска-літоўскага супрацоўніцтва, так і датычна програмы і тактыкі тае барацьбы, якая павінна весьціся сумесна ў агульных мэтах“. Гэтую програму літоўцы, як відаць з тэксту мэморандума, абяцаюць ужо даўно, але як ні дабіваюцца беларусы паглядзець на гэтую програму—літоўцы ўсё кажуць, што яна «яшчэ апрацоўваецца» і ось ужо хутка будзе гатова. Канчаецца мэморандум вымаганьнем хутчэйшай апрацоўкі памянёнай праграмы ў парадку тэрміновасьці й сумеснай нарады для аканчальнага высьненьня беларуска-літоўскага супрацоўніцтва.

«У адваротным выпадку,—грозяцца ковенскія дзеячы,—мы павінны будзем прызнаць для сябе задачу, лёсам на нас узложаную, не да выкананьня і прызнаць гэта адкрыта перад тымі ўсімі, хто з нашымі імёнамі зьвязвае нацыянальныя беларускія абавязкі».

Здавалася-б, што можна яшчэ дадаць да гэтага дакумэнту, які з галавой выдае нашых замежных політыкаў? Што яшчэ яскравей можа выкрыць усё банкроцтва, увесь безнадзейны правал беларускай проблемы ў Літве? Хто можа так высячы ковенскіх беларускіх політыкаў, як гэта зрабілі яны самі? Хто з такой бязьлітаснасьцю выявіць няўдачу тых дзеячоў, каторыя з пенаю на вуснах баранілі літоўскую орыентацыю, даводзячы, што літоўскі ўрад прыязьней усіх іншых адносіцца да беларускай проблемы й хоча дапамагчы барацьбе беларусаў з польскім імпэрыялізмам, што літоўскі ўрад, нават, каб не схацеў прыхільна адносіцца да беларусаў, то ён ня можа гэтага зрабіць, бо „мы, беларусы, як тое дзіцё ў мацеры, «пад сэрцам у літоўцаў ляжым»", бо літоўцы ня менш зацікаўлены ў беларускім руху, чымся самі беларусы і г. п.?

І калі мы пішам да гэтага мэморандуму комэнтарыі, то робім гэта з адзінаю мэтаю зрабіць ясным і дагавораным тое, што крыецца паміж радкамі дакумэнту, паказаць тым, хто незнаёмы з варункамі беларускай працы ў Літве, што абапіраць беларускую акцыю на літоўскі грунт было па меншай меры рызыкоўна, каб не сказаць мацней.

Паўстаўшы да «самаістага і незалежнага» бытаваньня пры падтрыманьні нямецкага штыха, Літоўская дзяржава з самага пачатку была нагэтулькі прыціснута Польшчай, што хапалася за малейшую магчымасьць знайсьці сабе саюзьніка—хаця-бы толькі моральнага. Гэтакім уласна моральным саюзьнікам літоўцы лічылі «ўрад Б.Н.Р.», хаця літоўскае грамадзянства ў масе нічога ня ведала аб беларускім руху, аб беларускай проблеме, аб беларускіх мэтах і г. д. і адносілася да ўсяго беларускага, як да чагосьць надзвычайна маленькага, бясьсільнага, якое шукае абароны й прытулку, нават, у слабых і малых літоўцаў. Літоўскі-ж ўрад, хаця добра ведаў, што на тэрыторыі Віленшчыны і Горадзеншчыны жыве беларусаў болей, чым усяго насяленьня ў Ковенскай Літве і ведаў, у якую сілу магчыма абярнуць гэтыя народныя масы пры адпаведнай агітацыі, усё-ж такі падтрымліваў у літоўскім грамадзянстве ігнараваньне беларускай працы і гіранічнатолерантныя адносіны да беларускага адраджэньня. Так справа цягнулася й пасьля падпісаньня *„дзяржаўнай" умовы з беларусамі, якою літоўскі ўрад фактычна зьвязаў беларускіх дзеячоў па нагам і рукам*: ось вам крыху грошы, ось вам магчымасьць вывесіць дзяржаўны сьцяг на памяшканьні місыі, ось вам магчымасьць нібы-то карыстацца экстэрыторыяльнасьцю, ось на паперы супольная актыўная барацьба з Польшчай на мясцох,—а вы сядзеце тут і пацяшайцеся, як мы будзем за вас рабіць беларуска-літоўскую політыку на міжнарадовым форуме.

На гэтым, можна сказаць, канчалася літоўская помач. Гэта афіцыяльна; а неафіцыяльна—з ведама ўраду літоўскага паліцыя штодзённа чаплялася да беларусаў, якія мелі беларускія пашпарты, не мэльдавала іх, арыштоўвала, ганяла па розных установах; політычных агітатараў і паўстанцаў, уцякаўшых ад польскага тэрору, літоўская паліцыя цягала па вастрогах і садзіла за калючы дрот, гразілася выслаць іх назад пад Польшчу; беларускім грамадзянам не даваліся візы на выезд заграніцу і звычайна прапанавалася атрымаць літоўскае пасьведчаньне, замест беларускага пашпарта,—грошы на шырокую працу не даваліся, на мясцох стварылася становішча, пры якім прадстаўнікі Віленскага Камітэту павінны былі зложыць свае паўнамоцтвы і заявіць, што «пры зложыўшыхся варунках яны лічаць

дапамогу Літвы безнадзейнай»,—заграніцай беларускую акцыю заціралі, глушылі, адсоўвалі ў цень, выкрэсьлівалі з парадку дня...

А беларускія палітыкі ўсё надзеяліся й жылі будучынай. Праўда, ня ўсе, але гэта не апраўдвае іх, але яшчэ больш засуджае, бо *тыя, хто бачылі прыкрую праўду*, тыя, хто трымалі ў сэрцы шмат горкіх слоў праўды, каб «пры выпадку сказаць у вочы літоўскім палітыкам»—тыя *павінны былі адкрыць вочы ўсім іншым і даўно гэласна сказаць усё.* Так, частка ковенскіх беларускіх дзеячоў была перакананa—і ня толькі тэорытычна—у тым, што літоўскі ўрад, угледзіўшы пашырэньне беларускага руху, спачатку кісла скрывіўся, а пасьля ўпрост залічыў яго ў шэраг небясьпечных зьявішч, шкодных літоўскай дзяржаўнай лініі, страшэнна варажых, што да Віленскай проблемы. Беларусы бачылі, як вышэйшыя колы грамадзянства, асабліва з шовіністычнай закваскай, вялі прапаганду проці беларушчыны ў Літве, абвяшчаючы яе непатрэбнай, шкоднай, супярэчнай літоўскім мэтам і, нават, паразітычнай. Беларусы бачылі, што іх ігнаруюць, з імі ня хочуць, нават, гаварыць («усе стрэчы адбываліся толькі па ініцыятыве беларускай стараны»), што ўсе іх дамаганьні вырваць ад літоўскага ўраду акрэсьленую програму супрацоўніцтва—хітра адсоўваюцца ў няведамую і імглістую будучыню, але... мірыліся на малым і чакалі, чакалі, чакалі...

Дачакаліся таго, што апошні грунт зьблізжэньня з літоўцамі выбіт з-пад ног: насяленьне Віленшчыны й Горадзеншчыны пайшло за мясцовымі дзеячамі, прапануючымі лёяльную палітыку да Польшчы і здабываньне легальным шляхам тэрыторыяльнай аўтономіі. І цяпер, калі запраўды мала што можа лучыць беларусаў з літоўцамі, першыя пачалі вясьці безнадзейныя славесныя атакі на літоўскі ўрад.

Кепскія палітыкі, якія «пасьля дракі кулакамі махаюць», якія, пасьля таго, як усё правалена, пачынаюць гаварыць праўду аб тым, як гэта крок за крокам валілася. *Увесь доўгі час бачыць, як валяць у яму вашу ідэю, вашу будову, псуюць вашыя пляны, выкрэсьліваюць вас з жыцьця, нібы вас наогул не існавала ніколі* («Літва заграніцай не пераставала цьвердзіць, што на ўсход ад Літвы ляжыць ці Польшча, ці Расія, але ў кожным разе не Беларусь»), *і ні разу не зрабіць моцнага адпору, не агаласіць шырока пратэсту проці гвалту над сабой і сваёй ідэяй, — большага маладушша і ўявіць, нават, нельга*!! А калі ўжо запозна, калі беларуская орыентацыя на Літву збанкрутавала дашчэнту, калі самі беларускія дзеячы, тварцы гэтае орыентацыі, апынуліся перад «разьбітым карытам», калі асталося чакаць моманту «шаноўнай просьбы» пакінуць тэрыторыю «братняй» Літоўскай рэспублікі—яны крычаць «ратуй!», яны прабуюць сказаць «усю праўду», але і тут не гавораць да канца.

Увесь іхны мэморандум хоча сказаць: мы ўсю нашу надзею пакладалі на Літву, верылі літоўскім палітыкам і шчыра працавалі на карысьць Літвы, думаючы, што яны адплацяць нам тым-жа, мы падымалі народ на ахвяраваньне сваёй крыві за беларуска-літоўскую справу, мы аддалі амаль усе карты ў вашыя рукі—вы-ж, літоўскі ўрад і дэпутаты сойму, хітра абыйшлі нас, усямерна выкарысталі нас, высмакталі і цяпер хочаце выкінуць нас, як непатрэбную рэч.

Але так сказаць—значыць трэба агалосіць ці разадраць папяровую ўмову і дэмонстратыўна выехаць з Коўны. А нашыя палітыкі верны сабе да канца: марку маладушша будуць трымаць да апошняга, хоць-бы яшчэ прышлося некалькі гадоў сядзець бяз чыннасьці, чакаць, пакуль літоўцы падумаюцца ўрэшце апрацаваць програму беларуска-літоўскай супольнай працы. Здаецца і на гэтую заяву прэзыдэнт не змаргнуў вокам і праўда, якую беларусы хацелі сказаць літоўскаму народу, астанецца ляжаць пад сукном

у габінэце прэзыдэнта. Гэты апошні факт зьнявагі з боку афіцыяльнай Літвы яшчэ раз паказвае бясплоднасьць надзей на буржуазна-шовіністычную дзяржаву, якая ва ўсім была, ёсьць і будзе падобна на ўсякую іншую буржуазную дзяржаву—а ўласна будзе беспардонна смактаць і эксплёатаваць слабейшых за сябе, будзе рабіць за сьпіною сваіх саюзьнікаў ім-жа шкоду, перад сільнымі будзе выхваляць толькі сябе, *а слабых замінаць* і душыць, дзе адкрыта, а дзе і ўпотайку. Нашым дзеячом за гэтулькі гадоў замежнай працы і столькіх спробаў зьвярнуць увагу Антанты на беларускую справу павінна быць ясьней за другіх, што *сьвятым абавязкам кожнае буржуазнае дзяржавы ёсьць памагаць адна аднэй не вызваляць слабейшых і паднявольных, але дапамагаць душыць і эксплёатаваць іх, як мага* інтэнсыўней. Літоўская дзяржава, асабліва ў цяперашні пэрыяд, калі яе залівае хваля зьвярынага нацыяналізму, клерыкалізму й вайсковай чорнай рэакцыі, падобна да ўсіх так званых «дэмократычных дзяржаў». Усіх нялітоўцаў сягоньня ў Літве толькі зносяць—у тым ліку й беларусаў. Толькі беларускія асьлепшыя дэмократычныя дзеячы ня бачаць, ці праўдзівей, заплюшчваюць вочы, каб ня відзець гэтага*)...

Але ўжо недалёк той час, калі лепшыя з іх абурацца, атрасуць прах дэмократычных рэспублік ад ног сваіх і цьвёрдым крокам пойдуць насустрэч беларускаму пролетарыю, беларускай вёсцы й беларускай савецкай уладзе, пасылаючы ў бок Антанты праклядьці і дакараючы ўсіх беларускіх дзеячоў, якія столькі год трымалі зарубежную беларускую думку ў задусе політычнага маладушша, выдаючы яго за асаблівую чэсьць, адвагу і «лёсам узложаны панадсільны цяжар».

**І. Цьвікевіч.**

Бэрлін, Студзень 1923 г.

*) Перад самай адпраўкай гэтай стацьці атрымаў весткі з Коўны, якія пацьвярджаюць сказанае мной. Аднакраць у цёмную ноч літоўскія патрыёты запэцкалі ні то дзёгцем ні то чорнаю фарбай некалькі тысяч вывесак у Коўне, на якіх былі надпісы ня толькі палітоўску, але яшчэ пажыдоўску ці папольску. Шовіністычная банда да таго разыйшлася, што пазамазвала, нават, вывескі на францускіх і ангельскіх розных бюро і інш. установах; таксама на ўсіх бляхах з назовамі вуліц выкасавалі фарбаю надпісы на нялітоўскай мове. Пасьля пэнзьлі з дзёгцем пайшлі гуляць па сьценах і вокнах дамоў і магазынаў, дзе гаспадарамі былі палякі ці жыды. На другі дзень а ф і ц ы я л ь н а літоўцы былі абураны і сойм, нават, асыгнаваў парадачныя грошы на адмываньне запэцканых вывесак і будынкаў. Цэлымі днямі можна было бачыць кампаніі спэцыяльна нанятых рабочых, старанна замываючых сьляды ганебнага бязглуздага патрыятызму... Праз некалькі дзён, к сораму літоўскіх політыкаў, па Коўне ўжо гуляў анэкдот, што ёсьць прыказ, па якому ўсім нялітоўцам, выходзячым на вуліцу, будуць мазаць твар дзёгцем. Што-ж, і гэта можа стацца! Пажывем—убачым!

# Антысацыялістычнае беларускае гняздо.

Ёсьць многа зьявішч і фактаў эміграндкага жыцьця, міма якіх можна прайсьці не задумляючыся, ня сумуючы, прайсьці, як кажуць, з лёгкім сэрцам. Да гэткіх зьявішч і фактаў належаць, напрыклад, бясьсільнае сьлюнявае шаматаньне амаль што выжыўшых з уму быўшых царскіх гэнэралаў, ці поўная жоўці й атруты крытыка пролетарскай улады злуючымі на ўвесь сьвет фэльетоністамі а la Яблоновскій з «Руля», ці гістарычныя выкрыкізаклікі трацячых апошнія надзеі й грошы расійскіх манархістых арганізавацца ў фашыскія банды для паходу проці красных... Гэткія зьявішчы трэба з агідаю абмінуць, як абмінаюць усё гніючае, адміраючае, сьмярдзячае трупам, хаця й напружаючае ў апошняй агоніі ўсе сілы, каб укусіць сваімі гнілымі, атрутнымі зубамі маладое, жыцьцяздольнае, рэвалюцыйнае. Ня трэба, нават, даваць сабе працы скідаць гэта ўміраючае ў бязданьне, бо ўсё роўна яно няўнікнёна ўпадзе туды. Карысьней паберагчы сілы і ўжыць іх на будову новага жыцьця.

Але бываюць зьявішчы іншага парадку, абмінаць каторыя, пакідаць бяз увагі нельга, небясьпечна, праступна. Абмінаючы іх бяз увагі, без аналізу і без адпаведнай рэакцыі на іх, без барацьбы з імі, мы гэтым самым даём магчымасьць як самім зьявішчам, так і іх вынікам, падобна заразе, увайсьці ў грамадзкі арганізм і згубна ўплываць на сучасныя й будучыя пакаленьні. К ліку такіх зьявішч, якія ня толькі небясьпечна ігнараваць, але з якімі, наадварот, трэба весьці самую ўпартую, самую жорсткую, самую бязьлітасную барацьбу, адносіцца моральная й палітычная псота эміграндкае студэнцкае моладзі.

Што тычыцца расійскіх заграмічных студэнтаў, то сярод іх ужо даўно ідзе ідэйна-палітычны раскол, які загастрыў вуглы прынцыповых пытаньняў і дапамог выявіць палітычны твар усіх групіровак расійскага студэнцтва. Тут ужо разьбіліся на прыймаючых рэвалюцыю, вітаючых пролетарскую ўладу і на ворагаў рэвалюцыі, савецкай улады і самых пролетарыяў.

Куды горэй стаіць справа ў гэтым сэнсе сярод беларускай студэнцкай моладзі, па тым ці іншым варункам вымушанай вучыцца заграніцаю. Ня гледзячы на тое, што замежная організацыя беларускіх студэнтаў існуе толькі другі год, што лік яе сяброў не перавышае 50, што галоўная яе маса складаецца з сырое ў грамадзка-палітычным сэнсе моладзежы—учарайшых гімназыстых з провінцыяльных местаў Віленшчыны й Горадзеншчыны, але, паўтараю, ня гледзячы на ўсё гэта, у ёй ужо пачынае віць сабе гняздо палітычная зараза, прынесеная некаторымі сябрамі. Апошнія пацёрліся такі па сьвеце і «вкусили» крыху палітычнае прамудрасьці, каб не зразу-

мець адразу, што тутака маецца момант і падыходзячыя варункі, каб стварыць абы з якіх элемэнтаў, што пад нацыянальным лёзунгам яшчэ часта лёгка робіцца, арганізацыю і пачаць сваю згубную дэмагогію і антысацыялістычную чорную працу.

Кажучы гэта, я маю на мэце організацыю беларускіх студэнтаў у чэскай сталіцы—Празе. У створаны там «Беларускі Студэнцкі Саюз» уваходзяць усе, хто лічыць сябе беларусам і хто вучыцца ў вышэйшай школе го раду Прагі. Пабудованы па старому і надзвычайна шкоднаму «прынцыпу беларускасьці», дзякуючы якому ў саюзе апынуліся людзі самых супярэчных політычных поглядаў, людзі розных соцыяльных клясаў, часта стоячыя на розных полюсах політычнай і грамадзкай думкі—саюз гэты, заместа таго, каб зрабіцца организацыяй духоўна яднаючай, політычна выхоўваючай, навучаючай грамадзкай солідарнасьці, зрабіўся арэнаю нясупыннай політычнай грызьні паміж верхаводамі розных політычнкх групіровак, грызьні, пераходзячай увесь час на асабісты грунт, што засьціць істоту спрэчак, перашкаджае выявіцца рознаглядам па прынцыповым політычным пытаньням. Зразумела, гэта самым дрэнным чынам уплывае на маладых студэнтаў, неспакусных у політычных пытаньнях і барацьбе, і яны ці міма волі адхіляюцца ўбок ад усякай політыкі (без якой яны будуць урэшце-рэшт адукаванымі абываталямі-інтэлігэнтамі старога тыпу) ці сьлепа йдуць за больш спрытнымі дэмагогамі, умеючымі ідэйна ўплываць на маладыя душы.

Каб трымацца да пэўнай меры об'ектыўнасьці (калі наогул магчыма об'ектыўная характарыстыка політычных і грамадзкіх организацыяў), пяройдзем да працы лідэраў пражскіх студэнтаў. Іх ідэолёгію, іх нацыянальную і політычную плятформу відаць як на далоні па артыкулам, зьмешчаным у першым нумары студэнцкай часопісі «Беларускі Студэнт». Затрымлівацца на знадворным выглядзе часопісі (зроблена на шапірографе), на яе літаратурных цэннасьцях мы ня будзем, бо па-першае, гэта не да мэты гэтага артыкулу, а па-другое, няма нічога затрымліваючага ўвагу і родзячага тыя ці іншыя думкі. Адразу пераходзім на артыкулы політычнага зьместу, якімі зоймемся можа болей, чым яны заслугоўваюць—адзіна толькі са спэцыяльнаю мэтаю—са ўсёй бязьлітаснасьцю выцягнуць на сонечнае сьвятло сьмярдзючую гангрэну, што пачала разьядаць беларускую студэнцкую організацыю.

Наперад прашу прабачэньня за крыху вялікія цытаты з памянёнай часопісі. Раблю гэта таму, што *справа йдзе аб прынцыповых політычных і нацыянальных пытаньнях, аб ідэолёгіі беларускай моладзі, аб плянах шырокай організацыі і прапаганды гэтых прынцыпаў і ідэолёгіі сярод усёй замежнай беларускай моладзі*—а гэта рэчы, да якіх нельга падыйсьці абы-як. Тут трэба адсунуць усякія магчымасьці зрабіць мне закіды ў перакручаным пераказе слоў аўтораў, у намераным падтасаваньні выхапленых кавалачкаў думак. Мала гэтага. прыводзячы доўгія цытаты з артыкулаў «Белар. Студэнта», мне хочацца паказаць той спэцыфічны дух, якім прасочаны ўсе артыкулы, спосабы дэмагагічнага падходу да псыхолёгіі сялянскіх мас і неастоіўшыхся маладых душ, ужываныя пражскімі лідэрамі, каторым пазайздросьцілі-б самі айцы-езуіты.

Пачынаецца журнал невялічкім артыкулам аб заданьнях «Беларускага Студэнта».

Першы невялічкі артыкул «Ад рэдакцыі» робіць даволі прыемнае ўражаньне сваім спакойным падходам да чытача і кароткім паясьненьнем мэт часопісі. „Духоўна лучыць раструшанае на чужыне беларускае студэнцтва, знаёміць яго з патрэбамі і імкненьнямі беларускага студэнцтва і народу, заахвоціць да сьвятое працы над адраджэньнем нашага народу, пашырыць і паглыбіць ідэю беларускага нацыянальнага адраджэньня хоць-бы паміж

невялікаю лічбаю нашага студэнцтва, адным словам,—прычыніцца да вытварэньня новых упорных рабачаў на народнай ніве,—зьяўляецца задачаю «Беларускага Студэнта». З вялікай вераю ў сьвятасьць і велічыню гэтых заданьняў мы пачынаем сваю скромную работу»...

Сьледам за намянёным артыкулам ідзе вялікая, ізноў рэдакцыйная стацьця (бяз подпісу), у якой выкладаюцца грунтоўныя погляды кіраўнікоў гэтай часопісі на пытаньні нацыянальныя і палітычныя. Называецца гэта стацьця—„Да ідэолёгіі беларускае моладзі“.

„Мы, дзеці беларускага земляробнага сялянства й аднача сна прадстаўнікі сялянскае інтэлігэнцыі, павінны арганізавацца й працаваць,—пачынае палітычны лідэр пражскіх беларусаў, „дзеля ўсестароньняга адраджэньня й арганізаваньня Беларускае Нацыі (захоўваю правапіс часопісі. І. Ц.) ды дзеля ўсестароньняга (нацыянальнага, культурнага, сацыяльнага) адраджэньня беларускага сялянства, як асобнае сацыяльнае клясы. Адраджэньне й арганізаваньне Беларускай Нацыі патрэбна наўперад дзеля таго, што *нацыя сама па сабе зьяўляецца вялізарнаю цэннасьцю, прадстаўляючы сабою найвялікшае ў сьвеце дабро й хараство**) і заключаючую ў сабе найвялікшую потэнцыю разьвіцьця усіх тых сіл, пры помачы якіх кожны чалавек, а значыцца і ўсе людзі, імкнуцца дапяць усіх найвялікшых магчымасьцяў у сьвеце, і што... мы, нацыянальныя клеткі нашага вялікага народу, ня можам не працаваць усімі сіламі дзеля захаваньня й разьвіцьця гэтага народу. З другога боку без адраджэньня Беларускае Нацыі немагчыма сацыяльнае й духоўнае адраджэньне ўсяе массы беларускага сялянства».

Гэткая нацыянальная праграма лідэраў пражскіх студэнтаў. Новага тут нічога няма: усё гэта перапевы з перадавіц ковенскага «Беларускага Сьцягу», для якога «паняцьце нацыі заключае ў сабе нейкую самаістую праўду і цэннасьць», і які «ніколі ня будзе гадзіцца ставіць клясавыя інтарэсы вышэй інтарэсаў нацыянальных» (гл. «Б. С.» № 2—3, 1922 г.). Пражскія дзеячы рашылі перавысіць ковенскіх вучыцеляў і з пляча залічылі наш народ у вялікі ды яшчэ з вялікай літары, нацыю саму па сабе (хоць бы насьбітамі нац. ідэі і афіцыяльнымі яе прадстаўнікамі былі паны, бюрократы, спэкулянты-паразіты... так можа трэба разумець гэтае «сама па сабе?») зрабілі найвялікшым у сьвеце дабром і хараством. Раз нацыя—найвялікшае ў сьвеце дабро й хараство, то ўсё іншае павінна адыгрываць служэбную ролю быць толькі сродкам для «пышнага росквіту і панаваньня гэтай апошняй і бесьпярэчнай цэннасьці». Нацыя беларуская—першая і апошняя мэта беларускай моладзі, нацыя беларуская—альфа і омэга ідэолёгіі беларускага студэнцтва!—ось лёзунгі, якімі вабяць да сябе лідэры пражскіх беларусаў, забываючы, што жыцьцё бязьлітасна і бесьсярдэчна шмат разоў разьбіла ўшчэнт усе гэтыя салодкія нацыянальныя ілюзіі. «Нацыяналізм пекны, пакуль ён прыгнечаны і, нават, тады, пакуль ён яшчэ не пазабыўся звону ланцугоў, у якія ён быў закованы, але сьвяткуючы нацыяналізм —агідзен», сказаў адзін стары сацыялісты, і гэтай ісьціны не павінны ніколі запамінаць беларускія нацыяналістыя. Залішне выхваляць яшчэ нічога вялікага ў дзедзіне культуры ня даўшую нацыю—якась не выпадае. І яшчэ болей ня трэба беларусам забываць, што нацыянальнае пытаньне гэта—моцная атрута, якою нельга насычаць народ аднача сна не агітуючы яго ў сэнсе радыкальна-рэвалюцыйным.

Беларускія нацыяналістыя праступна ставяць нацыянальную проблему незалежна ад палітычнай, бо гэта атручае народ, туманіць яго думкі. Асабліва шкодна рабіць гэтае пытаньне чымсь надклясовым, абстрактным

---

*) Курсіў паўсюды мой. І. Ц.

«сьвятым» і г. п., бо гэтым шляхам якраз мы прыдзем да злучэньня з беларускаю чорнаю сотняю а-ля Балаховіч і вымушаны будзем дзеля ахвяры на аўтар нацыянальнай справы благаслаўляць кожную авантурную справу. калі яна прыкрыецца нацыянальным лёзунгам.

Далей артыкул дэтальна разважае над пытаньнем—якім чынам магчыма і трэба організаваць беларускае сялянства, як асобную сацыяльную клясу, «бо толькі тады (як зробіцца клясаю) яно перастане быць крыўджана, эксплёатавана іншымі сацыяльнымі клясамі». Аўтор артыкулу ссылаецца на прыклады гісторыі, якая цьвердзіць, што кожная кляса сама сябе вызваляла: «гэтак вызваляліся рыцары-дваране ад фэодалаў, мяшчане ад рыцараў, і цяпер асвабаджаюцца работнікі. Кожная з гэтых клясаў, асвабаджаючыся, гукае сабе на помач іншую пакрыўджаную клясу. Гэтак мяшчане ў часе француская рэвалюцыі карысталіся помачаю работнікаў. А ле работнікам ад вызваленьня мяшчанства ня стала лягчэй. Толькі тады стала папраўляцца работніцкая доля, калі работнікі пачалі арганізавацца самі, як асобная работніцкая кляса. Таксама цяпер *работнікі на пару з надзвычайнай дэмагогіяй гукаюць сабе на падмогу сялян. Але сяляне, спагадаючы работнікам у іх барацьбе за вызваленьне, павінны памятаць, што не работнікі іх вызваляць ад усялякага ўціску*, а што толькі самі сяляне могуць вызваліцца й сыстэматычна каваць сваю долю. *Трэба яшчэ не забывацца, што паміж сялянамі-земляробамі й работнікамі ёсьць тая супярэчнасьць, якая заўсёды была, ёсьць і будзе паміж весяй і местам.* Ніхто не запярэчыць таму, што месты эксплёатуюць весі, што месты назначаюць цэны на свае тавары і на тавары земляробскія. Толькі тады сяляне-земляробы ня будуць пакрыўджаны, калі яны клясова будуць з'організаваны так добра, як з'організаваны месты. *Нічога не магло-б быць горшага за тое, каб сяляне аддаваліся пад каманду мескіх работніцкіх лідэраў; яны тады былі-б тымі чужымі рукамі, якімі мескія работнікі выгарталі-б сабе жар*».

Самыя часьнейшыя і перакананыя сацыялістыя ўсіх краёў напружаюць усе высілкі, каб злучыць пролетарыят з бяднейшым сялянствам, растлумачыць і работнікам і сялянам, што доля і мэты ў іх аднальковыя і супольныя, што прыгнечаньне адных няўнікнёна цягне за сабой прыгнечаньне другіх, што вызваленьне адных дае магчымасьць вызваліць другіх. Істнуючы контраст паміж вёскаю й горадам трэба зьніштажаць, зьмягчаць, бо барацьба супроць агульнага ворага—капіталістага, ці то пана-абшарніка, ці то ўладара фабрыкаў, ці то банкіра, вымагае бязумоўна падтрымку пролетарыяту гарадзкога пролетарыятам сельскім і—наадварот. Мы ведаем,—што ў Расіі пролетарыят перамог толькі таму, што вясковы работнік—земляроб шоў нага ў ногу з работнікам фабрычным, таму што яны стварылі адзіны пролетарскі фронт і ў сваім яднаньні чарпалі сваю моц. У Нямеччыне, калі пасьля рэвалюцыі старая рэакцыя спробавала вярнуць сабе былую ўладу і прыгон над пролетарыятам, калі войскі Каппа ўвайшлі ў Бэрлін,—гарадзкі пролетарыят клікнуў кліч да вясковага пролетарыяту прыйсьці на помач у барацьбе з монархістычнымі бандамі. Бязумоўна, што падмога сельскіх работнікаў, якія акуратна дастаўлялі ў гарады прадукты і прысылалі свае рэвалюцыйныя вясковыя баявыя атрады, дала магчымасьць нямецкім рабочым у надзвычайна кароткі тэрмін зьліквідаваць Каппаўскую авантуру.

Тут-жа мы бачым новага апостала ад „сацыялізму навыварат", які ўмацоўвае ідэолёгію беларускай моладзі на падставе лёзунга: divide et impera (разьдзяляй і тады камандуй), які падсоўваючы клясавую (?) організаванасьць местаў, як прыклад, хоча пераканаць усіх, што трэба белару-

скае сялянства арганізаваць, як асобную клясу, бо йначай прыходзяць месьція работніцкія лідэры і забіраюць той «жар», які сяляне выграбаюць сваімі мазолістымі рукамі. Беларуская моладзь павінна так нацкаваць сялян на гарадзкіх работнікаў (а яны-ж фактычна—тыя-ж самыя сяляне, працуючыя ў горадзе), каб ніводзін рабочы й ня думаў паказацца ў вёску. Беларуская моладзь мецімe вучыць беларускіх сялян, што гарадзкі пролетарыят выцягае апошнія сокі з вёсак, бязьлітасна эксплёатуе мазолістую працу земляробаў. Адным словам, вёска павінна ляпей арганізавацца, каб спрытней ваяваць з горадам.

Мала гэтага. Далей гаворыцца, якою менавіта павінна быць гэтая сялянская арганізацыя, з каго яна будзе складацца: «усё беларускае земляробнае сялянства павінна арганізавацца ў адзін клясавы сялянска-земляробны саюз. *Да гэтага саюзу павінны належыць усе бедныя, сярэднія й багатыя сяляне земляробы-гаспадары, батракі, дворныя парабкі, дробная засьцянковая шляхта і, як мазгі усяго, сялянская інтэлігэнцыя, хоць-бы яна сама не займалася земляробствам*".

Твар пішучага больш-менш высьняецца, а заразам мы бачым, чым пахне гэтая агітацыя за «сялянскі клясавы саюз».

Па думцы аўтора, адзіным ратункам для сялян зьяўляецца ўтварэньне кулацка-шляхоцкага земляробскага саюзу, куды ўваходзіла-б таксама ўся вясковая бедната—парабкі, батракі, малазямельныя сяляне. Ці гэта запраўды політычная наіўнасьць і безграматнасьць, ці гэта замаскіраваная дэмагогія вясковага кулачка? Нам здаецца, што—апошняе. Ініцыятар студэнцкай беларускай арганізацыі і тварэц «новай» ідэолёгіі, лічачы сябе правадыром сялянскае інтэлігэнцыі, мазгом сялянскага саюзу (зразумела, праэктуемага толькі), ня можа быць нагэтулькі нясьведучым чалавекам, каб ня ведаць усяго таго, што дакладна ведае—і ня з кніжак, а з жыцьця—кожын батрак, кожын вясковы работнік. Як алей нельга зьмяшаць з вадой—алей заўсёгды напаверх выйдзе,—так ня злучыць, не аб'яднаць, не памірыць дворнага парабка з кулаком, багацеем, ці, нават, проста батрака з гаспадаром, на якога батрак працуе: заўсёды багатыя сяляне-кулачкі і дробная шляхта будуць імкнуцца зажаць увесь саюз у сваю лапу і пакіруюць свае справы так, як захочуць. Гэтую політычную азбуку на вёсцы ведаюць спрадвеку, калі яшчэ пражскія гора-сацыялістыя былі не нарадзіўшыся.

Агітацыя за такі саюз вядзецца з адзіным разрахункам на цемнату і несьвядомасьць вясковай бяднейшай масы, каб заўчас прыбраць к рукам вясковы пролетарыят, а пасьля дыктаваць яму сваю волю ў момант сацыяльных рэвалюцый, якраз проці падмогі пролетарыяту, бо ён кліча сялян толькі на пару, каб пасьля пакінуць яго і надалей у быдлячым, задушаным становішчы. Гэткі саюз бязумоўна быў-бы моцнаю цытадэльлю проці соцыяльнага руху сярод беларускага сялянства. А таму мы цяпер, зараз-жа, убачыўшы, як хочуць закласьці першыя цэглы ў фундамант гэтай цытадэлі, лічым сваім абавязкам голасна крычаць аб гэтым, голасна заклікаць беларускі пролетарыят гарадоў і весяў не паддавацца згубнай дэмагогіі, якая ўласна падапхне гарадзкіх і вясковых работнікаў пад ногі паноў-абшарнікаў і прамысловых капіталістых.

Далей аўтар, каб крыху згладзіць факт нацкоўваньня сялянства на рабочых, пачынае плясьці аб будучым узросьце паміж сялянамі і работніцтвам пачуцьця ўзаемнай блізасьці, аб зьменшэньні між імі нязгод і звад, калі сялянства будзе мець сваю клясавую арганізацыю, зусім асобную ад арганізацый работніцкіх. Супольныя-ж работніцка-сялянскія арганізацыі толькі павялічваюць звады й нязгоды.

Коратка і дрэнна вытлумачыўшы далей, чаму стварыліся ў работнікаў сацыялістычныя партыі, аўтор ізноў пачынае сваю антысацыялістычную агітацыю:

„Накідаючы свае погляды, свае способы барацьбы і свае мэты земляробнаму сялянству, *работніцкія социялістычныя партыі хочуць земляробаў абеззямеліць, спролетаръзаваць, зрабіць іх усіх парабкамі ў панскіх дварох, тады адабраць двары ад паноў, зрабіць з іх камуны, на якіх працавалі-б усе земляробы, як працуюць работнікі на фабрыках.* На гэткіх дворных камунах кіраваді-б усёю працаю выбраныя социялістычнымі партыямі камісары. *Гэта былі-б тыя-ж ненавіджаныя ў нас сябрыхі, і толькі што мелі-б яшчэ сваіх камісараў. Кожнаму ясна, што гэтакімі камісарамі заўсёды былі-б прыезджыя з места работнікі. Мусіць нідзе гэтулькі не праявілася няўвагі, нялюдзкае жорсткасьці, колькі ў гэтым работніцкім праэкце ашчасьліўленьня сялян-земляробаў».*

Паезуіцку абмінаючы пытаньне, аб якіх уласна сацыялістычных партыях ідзе размова, аўтор гэтым самым забівае «двух зайцаў»: на пратэсты кожнай сацыялістычнай партыі, што яе програма гэтага зусім ня кажа—можа адмовіцца тым, што ён казаў аб іншай партыі; па-другое, такім чынам ён засуджае наогул у вачох сялян усякую сацыялістычную партыю, нават, самую назву «сацыялістычны», выстаўляючы ўсе сацыялістычныя програмы, як нешта надзвычай нялюдзкае па сваёй жорсткасьці й няўвагі да чалавечых патрэб, у васобнасьці да патрэб сялянства, г. зн. ганячы самую істоту сацыялістычнай доктрыны... Але чытайма далей!

*«Ці-ж знойдзецца хто з сялян-гаспадароў, што хацелі-б збыцца свае зямлі, стаць парабкамі ў дварэ з тым, каб пасьля доўгае барацьбы стаць, наканец, параокам у социялістычным дворным „раі»-Хто згодзіцца з думкаю, што мусіць растацца з сваёю гаспадаркаю, перанесьці нясчысьлёныя ўніжэньні, зьдзекі, галіту дзеля такога далёкага й няпэўнага камуністычнага шчасьця.* Апрача гэтага гэткі *работніцкі праэкт ідзе проці ўсяе цывілізацыі,* усяе індывідуальнае гаспадаркі Эўропы; *ён мусіў-бы зьмяць, сьцерці сялянства ў нейкую бясформую масу, адабраць ад яго ўсё прыроднае харство, усе яго здаровыя погляды й этычнасьць, усю энергію й радасьць жыцьця* і толькі з гэнае масы выпякаць штучных вясковых работнікаў.

*Для сялянства,* народу культурна-адсталага, з рэдкім вясковым насяленьнем, *социялістычныя тэорыі яшчэ и тым небясьпечны, што яны,* як зьявіўшыяся ў работніцтва народаў з вышэйшай культурай... *апраўдаюць перасяленьне земляробаў з зямлі гусьцей населенае на зямлю радзей населеную».*

Кіпіць душа, і трасецца рука ад абурэньня і гневу, і ад аднаго таго, што даводзіцца выпісваць лішні раз на паперу гэтыя подлыя, правакатарскія думкі... Але нічога ня зробіш: трэба яшчэ калупацца ў іх, расшыфроўваць тое, што крыецца па за імі, сьмела рэзаць гнойную балячку, каб у свой час паралізаваць заразу ў самым пачатку. Ці можна прыдумаць болей злосны і ганебны спосаб запуджваць сялян, з мэтаю страхам перад стратаю апошняга кавалка зямлі, перад галотаю, зьдзекам паноў над імі, быўшымі самастойнымі гаспадарамі, перад бесканечнаю барацьбой за няведамае, няпэўнае й адсунутае ў цёмную будучыну шчасьце—прымусіць сялянства з ненавісьцю адкаснуцца ад усяго, што хоць траха пахне сацыялізмам, ад усяго, што йдзе з гораду, ад фабрычных працаўнікоў?!. І ці зьявіцца пасьля гэткага ганебнейшага ў гісторыі беларускага адраджэньня выступленьня які-небудзь, нават, прымітыўна-чэсны беларускі грамадзянін, які асьмеліцца высоўваць і падтрымліваць лёзунг «яднаньня па прынцыпу беларускасьці», лёзунг злучэньня

*ўсякіх* сіл пад беларускім сьцягам. Час ужо пакончыць з гэтым лёзунгам і схаваць той *беларускі* сьцяг, пад якім хавалася ня мала розных авантурнікаў і пагромшчыкаў накшталт «бацькі» Балаховіча.

Далейшы тэкст артыкулу стаіць пад загалоўкам— «Зямельная праблема». Тут аўтор, падаючы невялічкі аналіз, адкуль увялася надзвычайная любасьць у земляроба да свае зямліцы й бацькаўшчыны, пераходзіць да выкладаньня зямельнай рэформы, акая „мусі быць зроблена так, што, пакінуўшы старым валадаром зямлі ўстаноўлены ‚яе мінімум, прыкладам, 50дзес., рэшту падзяліць паміж малазямельнымі й безьзямельнымі беларускімі земляробамі... Пры надзеле зямлі павінна давацца патрабуючым падмога ў форме доўгасрочнае гаспадарственнае пазыкі, ды так, каб і найбяднейшы земляроб змог завесьці сваю гаспадарку. Старым валадаром за зямлю ня плаціцца».

Канчаецца артыкул «Нашымі палітычнымі мэтамі». Як гэта ня вяжацца з усім характарам артыкулу! Лідэры пражскага студэнцтва «імкнуцца да незалежнага Беларускага Гаспадарства і ўсякую іншую форму палітычнага быцьця нашага народу, як аўтаномія і г. п., разглядаюць толькі, як форму пераходную пры немагчымасьці ў той ці іншы момант здабыць незалежнасьць», а ў формах праўленьня, зразумела, ня йдуць далей «Беларускай Народнай Рэспублікі», з соймам і прэзыдэнтам, выбіраным соймам, на чале». Адным словам, палітычныя імкненьні нашых пражскіх палітыкаў ня йдуць далей старых струхлеўшых буржуазна-інтэлігэнцкіх спосабаў вырашэньня палітычнай проблемы Беларусі.

Увесь далейшы зьмест, выключаючы артыкул Я. Станкевіча «Нацыянальны назоў Беларусі», напісан у pendant да першай палітычнай стацьці. Амаль усе яны напісаны нейкім Брачыславам Скарынічам. Зьвяртае ўвагу артыкул «Рупмася аб сабе», у якім Скарыніч іранізіруе над быўшай газэтай «Наша Ніва», якая гаварыла бясконца аб Беларусі, як аб краі з 5-ма нацыямі да што мы, беларусы, адносімся да ўсіх „народаў“ бясканешна добра, ня будзем ніколі нікога крыўдзіць і г. п. Па глыбокаму пераконаньню аўтора на Беларусі днём з агнём ня знойдзеш ніводнага паляка і ніводнага расійца (гутарка йдзе аб даваенных часах). Аб гэтым ведалі і супрацоўнікі «Нашае Нівы», але пісалі таму, каб прыцягнуць на свой бок «спагадных перакінчыкаў у польскі ці маскоўскі бок», якія фактычна былі рэнэгатамі свайго народу й ненавідзелі ўсё беларускае. Мы пакідаем гэты закід поўнасьцю на сумленьні аўтора, але мусім дадаць, што агітацыя «Нашай Нівы» сярод беларусаў у стасунку да іншых народаў, жывучых на нашай зямлі, была далёка часьней і больш рэвалюцыйнай, чымся гапебная вузка-нацыяналістычная й нацкоўваючая беларусаў на ўсіх не беларусаў «Беларускага Студэнта». За прыкладам нам недалёка хадзіць: у гэтым-жа артыкуле Скарыніч высьмявае віленскіх студэнтаў-беларусаў за тое, што яны ў сваёй часопісі «Наш шлях» «уважаюць сваімі заданьнямі узгадаваць людзей, якія будуць дбаць аб шчасьці тых народаў, якіх будзе абыймаць сваімі крыламі нашая маці-Беларусь». Наадварот, Скарыніч лічыць сваім абавязкам узгадаваць беларусаў-пагромшчыкаў. „Жыды, кажа ён“, не такія дурныя, каб спадзявацца, што беларусы здабудуць ім шчасьце.... жыды ў адносінах да нас кіруюцца заўсягды сваімі патрэбамі, а ня нашым добрым сэрцам. *Вякі цэлыя Беларусы да Жыдоў добра адносіліся, аднак гэтыя-ж Жыды і дагэтуль памагаюць Маскалём маскаліць, а палякам палячыць Беларусь*, бо не пачулі яшчэ ў Беларусох той сілы, з якой ім *трэба* лічыцца».

«Здаровае нацыянальнае пачуцьцё», аб якім увесь час так заняты Скарыніч, вядзе яго да ідэолёгіі ісьцінна-расійскіх людзей, і я баюся, што яно да-

вядзе яго ў стан балахоўскіх «сынкоў», якія ведаюць толькі адзін лёзунг: „бей жыдоў—ратуй Беларусь“.

Беларускія студэнты ў Праве, як відаць з часопісі, вельмі набажныя, бо страшэнна цікавяцца становішчам праваслаўнай царквы й вельмі ўсьцешаны тым, што мітрапаліт Юры адведвае беларускую гімназыю, дзе «мітрапаліта стрэла пэдагагічная рада, дырэктар гімназыі п. Трэпка сказаў прывітальную прамову, пры ўваходзе мітрапаліта ўзалю пяяў вучаніцкі хор». Гэта-ж так па сэрцу хрыстовым дэмократам! Яны ня ўтрымаліся і ўПраве, каб не тварыць якоесь «Т-ва Адраджэньня Беларускага Студэнцтва». Ужо абраны тры сябры-арганізатары—Янка Ермачэнка, Янка Гэніўш і Ўладыслаў Грыневіч. Таварыства будзе працаваць паміж беларускага студэнцтва й грамадзянства, „кіруючыся хрыстовымі ідэаламі». Па-за гэнаю тройцаю, трэба думаць, стаіць кіруючая правіца Янкі Станкевіча, які даў увесь палітычны напрамак разьбіраемай намі часопісі.

Але якімі-бы «хрыстовымі ідэаламі» не прыкрываліся пражскія лідэры беларускіх студэнтаў, кожны адразу прызнае іх антысацыяльную істоту, прачытаўшы ўважліва іх часопісь. Нават у хроніцы ня стрымаліся, каб не ўляпіць: «асабліва трэба цешыцца, што нашае віленскае студэнцтва ня дзяржыцца вузкае партыйнасьці і не займаецца сацыялістычным сэктанцтвам, якое губіць творскую працу». Засеўшы ў Праве некалькім беларускім інтэлігэнтам з кулацка-шляхоцкай і анты-сацыяльнай ідэолёгіяй здаецца, што яны створаць заграніцаю такую організацыю, якая павядзе за сабой усё беларускае студэнцтва й беларускае сялянства праз узгадованых імі палітычных дзеячоў. Нам-жа думаецца, што беларускі работнік і беларускі селянін ужо палітычна перарос сваіх будучых «правадыроў» і канешна з агідаю адапхне ад сябе тых, якія праспалі вялікую пролетарскую рэвалюцыю, жывуць «хрыстовымі ідэаламі» у эпоху крывавай схваткі рабочых з капіталам, і якія сацыялізм лічаць шкодным і небясьпечным.

Люты 1923 г.
Бэрлін.

**І. Цьвікевіч.**

# Экономічнае становішча Беларусі.

Наўрад ці знойдзецца якая іншая краіна ў Савецкіх Рэспубліках, што перажывала-б столькі палітычнага й экономічнага штурху за апошнія гады, як Беларусь. Жорсткая барацьба, перш паміж царскаю Расіяй і імпэрыялістычнай Гэрманіяй, а потым паміж працоўным народам і панскаю Польшчай, увесь час адбывалася на беларускай зямлі. Дзякуючы войнам, зьменшаўся лік жыхароў, якія гіблі ад вайсковых дзеяў ці ўцякалі ў іншыя, больш супакойныя месцы, разбураліся вёскі й гарады, зямля прыходзіла ў запусьценьне, прамысловасьць і гандаль зусім заміралі. Толькі ў апошнія два гады, як скончылася вайна, Беларусь пачала акрыяць, гаспадарка пакрысе нарыхтоўваецца і можна спадзявацца што гады праз два-тры мы даможамся наладзіць экономічнае жыцьцё так, як яно было да пачатку сусьветнай вайны. Дайшоўшы да гэтай мяжы, мы хутка пераступім праз яе і разам са ўсімі савецкімі рэспублікамі крапемся ўперад па дарозе вялікіх экономічных заваёваў, перад вынікамі якіх стускнеюць усе дамаганьні быўшага капіталістычнага ладу. Такая надзея закладаецца на тых зьявішчах экономічнага жыцьця, сучасьнікамі якога мы зьяўляемся. Падмацаваць гэтую надзею я й маю мэтаю свайго артыкулу, у якім буду карыстацца апошнімі статыстычнымі падлікамі, якія яшчэ ня бачылі друку.

Закладзінаю экономічнага дабрабыту Беларусі была й застанецца *сельская гаспадарка*. Праўда, зямлю нашу нельга лічыць праўдзіваю: у нас надта шмат балотаў, пяскоў, ад якіх няма ніякай карысьці; потым і добры грунт часта бывае папсаваны значным дадаткам пяску ці каменьня. Але, ня гледзячы на гэта, усё прыходзіцца сельскую гаспадарку лічыць важнейшым экономічным фактарам, бо іншае багацьце ў нас зусім мізэрнае. Дзеля гэтага першую ўвагу мы павінны зьвяртаць на становішча сельскай гаспадаркі, на яе магутнасьць.

Перш усяго даведаемся аб ліку жыхароў Беларусі, як першым экономічным фактары. Да вайны, у 1913 годзе, сучасная нам Беларусь налічвала 1.520.895 сельскіх і 203.125 гарадзкіх жыхароў—усяго 1.724.020 чал. К канцу-ж 1922 году налічвалася 1.303.000 сельскіх і 184.206 гарадзкіх—усяго 1.487.206 жыхароў. Такім чынам, агульны лік жыхароў паменшыўся на 14 проц. супроць даваенных часаў. Вядома, што найбольш значную частку гэтых 14 проц. састаўляюць бежанцы й эмігранты, якія ўцякалі ў часы вайны ці на ўсход ці на захад у стасунку са сваімі палітычнымі жаданьнямі й прыемнасьцямі. Што гэта так—сьведчаць вынікі перапісу 1917 году, калі было налічана на сучаснай Беларусі 1.615.696 жыхароў. Ясна, што не ад сьмерці згібла 128.490 чал., а гэта проста ўцёкшыя ці ў Савецкую Расію ці, наадварот, у Польшчу. Вынікі вайны адгукнуліся й на прыплодзе народу: калі на 1000 душ у 1913 годзе раджалася 37 дзяцей, то ў 1922 г.

толькі 34; на той-жа лік жыхароў умірала: у 1913 годзе—18, а ў 1922 г.—19 чал. Значыць, прыплод паменшыўся, а сьмяртэльнасьць павялічылася. Агульны прыбытак народу ад натуральнага прыплоду ў адносінах да ліку жыхароў вось які:

| У сёлах | | У гарадох | | Па ўсёй Беларусі | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1913 г. | 1922 г. | 1913 г. | 1922 г. | 1913 г. | 1922 г. |
| + 1,9% | + 1,6% | + 1,3% | + 0,2% | + 1,8% | + 1,5% |

Зварочваючыся да сельскага жыхарства, якое мае вялікую значнасьць у эканомічных справах, мы павінны адзначыць адну надта прыемную зьяву, як пасабляючую разьвіцьцю сельскай гаспадаркі. У той час, як у 1917 г. з агульнага ліку жыхароў у сёлах і вёсках з 1.330.644 чал. было адсутных 164.854, у 1922 г. з 1.303.000 чал. было на баку толькі 19.774 чал.; такім чынам, хоць у 1917 г. лічылася і больш народу на Беларусі, але запраўды было: у 1917 г.—1.165.790 чал., а ў 1922 г.—1.283.226 чал. Калі ў 1917 г. з вёсак было адсутных 156.612 мужчынаў, то ў 1922 г. такіх было толькі 18.847. Значыць, сельская гаспадарка атрымала сабе шмат рабочае сілы, якая да 1922 г. была адцягнута ад карыснай працы па розным прычынам і перш усяго—у армію.

Сялянская гаспадарка да 1917 году ў разьвіцьці сваёй магутнасьці йшла па двум напрамкам. З аднаго боку яна ўсё болей і болей драбнела—, так сказаць, пролетарызавалася, з другога боку—складаліся моцныя гаспадаркі, якія зьбіралі зямлю бяднейшых сялян, кідаўшых гаспадарку і ехаўшых шукаць новага жыцьця ці ў горадзе ці на другой старане. З пачатку-ж рэвалюцыі пачынаецца скасаваньне як дробных, так і моцных гаспадарак—робіцца нівэліроўка іх. Разам з гэтым шырыцца й самы лік гаспадарак: калі ў 1917 г. налічвалася на Беларусі 212.050 сялянскіх гаспадарак, то ў 1922 г. іх было ужо 241.710, ці на 14 проц. больш. Дзякуючы павялічэньню ліку гаспадарак, а таксама й ліку сельскага жыхарства, мы маем паменшаньне зямлі (палявое і сенажатнае) на кожную гаспадарку й на жыхара. Возьмем, напрыклад, 1906 і 1922 гады.

| Гады | Прыходзілася дзесяцін | | |
|---|---|---|---|
| | На аднаго жыхара | На аднаго рабочага мужчыну й кабету | На адну гаспадарку |
| 1906 г. | 1 | 2,8 | 8,3 |
| 1922 г. | 0,8 | 1,9 | 5,4 |

Разам з тым, як драбнела гаспадарка, меншыўся й лік скаціны ў кожнага селяніна. Але вайна ў адносінах да гэтага зрабіла такую вялікую згу-

бу, што чуць не нашчэнт разбурыла сялянскую гаспадарку. І запраўды, калі мы зьвернемся да лічбаў, то пабачым, што ў 1906 годзе на адну гаспадарку прыходзілася: рабочае скаціны 2,1 шт., кароваў 2,6, дробнай скаціны й сьвіней 5,6; у 1922-жа годзе толькі 0,9 рабочае скаціны, 1,8 кароваў і 2,4 дробнай скаціны й сьвіней.

Ня гледзячы на тыя дрэнныя варункі, у якія была пастаўлена Беларусь, дзякуючы вайне, адраджэньне сельскай гаспадаркі пачалося зразу, як скончылася вайна, і йдзе ўперад хуткімі крокамі. Скарачэньне абшару абраблянай зямлі прыметна па ўсёй Савецкай Фэдэрацыі; ня дзіва, што яно было і ў нас. Але за прайшоўшы год наш селянін паказаў, што ён вакінуў і запусьціў сваю зямельку толькі дзякуючы сваім ворагам, якія процьма лезьлі, каб закаваць яго ў кайданы. Цяпер-жа ён з новым гартам зьвярнуўся да зямлі й пройдзе ў гэтую вясну там, дзе даўно ўжо пазарасталі травою баразёнкі. Гэта ня толькі надзея, але ясная вочавіднасьць, якая вынікае з тых лічбаў, што даюцца вось у якой таблічцы:

| Гады | Засеяна дзесяцін | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Зімовага хлеба | Ярыны | Картоплі | Лёну і канапель | Кармовых зёлак | Усяго |
| 1916 | 338.256 | 346.018 | 74.309 | 23.411 | 27.914 | 809.908 |
| 1921 | 285.527 | 280.839 | 56.256 | 20.552 | 11.732 | 654.906 |
| 1922 | 306.753 | 293.399 | 73.507 | 21.332 | 22.242 | 717.233 |
| % 1922 г. к 1916 г. | 90,7 | 84,8 | 98,9 | 91,1 | 79,7 | 88,6 |
| + ці — | —9,3 | —15,2 | —1,1 | —8,9 | —20,3 | —11,4 |
| % 1922 г. к 1921 г. | 107,4 | 104,5 | 130,7 | 103,8 | 189,6 | 109,5 |
| + ці — | +7,4 | +4,5 | +30,7 | +3,8 | +89,6 | +9,5 |

З прыведзенай таблічкі відаць, што каля дзесятае часткі зямлі супроць 1916 году пустуе. Але такое зьявішча цяпер усюды; ёсьць, нават, такія краі, дзе ня толькі дзесятая, але чацьвёртая—а то й больш—частка недасеву. Калі-ж мы враўняем 1922 год з 1921, то пабачым, што за адзін год наш пасеўны абшар павялічыўся траха не на 10 проц. Значыцца, калі 1923 год дасьць такое-ж павялічэньне засеву, як і мінулы, то ў гэтым годзе мы будзем мець толькі засеянага, як і ў 1916 годзе.

Запушчаная зямля заўсёды дае шмат меншую ўрадлівасьць, чымся тая што належна кутьтывіруецца. Праз гэта агульная ўрадлівасьць нашых палёў шмат паменшылася, нават, з ваеннымі гадамі; так, напрыклад, адна дзесяціна давала пудоў:

| Гады | Жыта, пшаніцы зімовае і яравое | Аўсу | Ячменю | Картоплі |
|---|---|---|---|---|
| 1916 | 55,8 | 56,0 | 59,2 | 482 |
| 1917 | 36,7 | 46,1 | 39,8 | 520 |
| 1921 | 41,4 | 40,6 | 36,9 | 567 |
| 1922 | 41,0 | 38,0 | 37,0 | 563 |

Але хоць ураджлівасьць і паменшылася, а ў 1921 і 1922 гадох была траха не аднальковаю, усё-ж такі агульны здабытак прадавольства й корму шмат павялічыўся ў 1922 годзе супроць ня толькі 1921, але, нават, і 1917 г. Калі, напрыкад, жыта й пшаніцы было здабыта ў 1916 годзе 19792,9 тыс. пуд., то ў 1917 г.—10081,9 тыс. пуд., 1921 г.—12914,4 тыс. пудоў, 1922 г. —13768,8 тыс. пудоў; картоплі ў 1916 г. 35817,4 тыс. пуд., 1917 г. — 29451,2 тыс. п., 1921 г.—31899,4 тыс. пуд. і ў 1922 г.—41385,0 тыс. пуд. Агульны здабытак усяго хлеба й корму, калі перавясьці ўсё на жыта, а таксама і забясьпека хлебам сельскіх жыхароў відаць вось з якіх лічбаў:

| Гады | Пераве́ўшы на жыта | | | На 1-го сельскага жыхара | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Хлеба ў 1000 пуд. | Корму ў 1000 п. | Усяго | Хлеба | Корму | Усяго |
| | | | | Пудоў у пераводзе на жыта | | |
| 1916 | 30912,4 | 11985,0 | 42897,4 | 26,4 | 10,2 | 36,6 |
| 1917 | 19572,1 | 7433,0 | 27005,1 | 16,7 | 6,3 | 23,0 |
| 1921 | 22426,9 | 6246,1 | 28673,0 | 17,5 | 4,9 | 22,4 |
| 1922 | 25863,5 | 6258,9 | 32122,4 | 20,1 | 4,9 | 25,0 |

З гэтае табліцы мы бачым, што пасьля 1916 г. агульны здабытак хлеба й корму зразу надта падае і за 5 гадоў, з 1917 па 1921, павялічваецца толькі на 6,18 проц. супроць 1917 году; затое ён у 1922 годзе павялічваецца на 19 проц. супроць 1917 г., на 12 проц. супроць 1921 году і зьяўляецца роўным 75 проц. агульнага здабытку 1916 г. Таксама і забясьпека жыхара хлебам з 36,6 пуда ў 1916 годзе даходзіць да 22,4 пуда ў 1921; толькі ў мінулым годзе селянін атрымаў больш хлеба, і яго дабрабыт стаў паляпшацца: састаўляючы 68,3 проц. супроць 1916 г., ён на 11,6 проц. вышэй, чымся ў 1921 і ранейшых гадох.

У нашай сялянскай гаспадарцы, якая й да апошніх часаў мае характар натуральнай гаспадаркі, надта вялікую значнасьць мае наліčча скаці-

ны. Скаціна перш за ўсё патрэбна, як рабочая сіла, без якое немагчыма абрабіць зямлю, а потым яна дае пакуль што адзінае ў нас угнаеньне. Тое паніжэньне ўрадлівасьці зямлі, што мы бачылі ўперад, і залежыць ад недастачы скаціны ў сялянскай гаспадарцы. За часы вайны шмат коняў было забрана войскам, засталіся толькі такія ламакі, якія ўжо нікому ня былі патрэбны. Таксама і рагатая і дробная скаціна: яна рэквізавалася, дзякуючы блізкасьці фронту, бяз усякага пляну, а проста пагалоўна забіралася на мяса. Агульны ўпадак гаспадаркі, потым недастача харчу ня толькі скаціне, але і самым людзям, вялі далей скасаваньне жывёлы. Толькі мінулы год ня толькі затрымаў паменшаньне ліку скаціны, але ўжо мы бачым нейкі прыбытак, нават, вельмі значны ў параўнаньні з 1921 годам. Прывядзем апошнюю таблічку з нашай сялянскай гаспадаркі, і гэтая таблічка ўясьніць нам, як мы падымаліся хутка з таго дрэннага становішча, у якім апынулася наша гаспадарка, дзякуючы вайне; вось колькі было скаціны ў нашых сялянскіх гаспадарках.

| Гады | Коняў | | | | Рагатай скаціны | | | | | Авец | Сьвіней | Усяе скаціны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Рабочых | Ад 1 году да рабоч. пары | Жарабят да 1 году | Усяго | Валоў і быкоў | Кароў | Маладняку | Цялят да 1 году | Усяго | | | |
| 1915 | 244412 | 35895 | 23140 | 303447 | 55841 | 508898 | 219205 | 117977 | 901921 | 591569 | 456656 | 2253502 |
| 1917 | 223603 | 17361 | 22407 | 263371 | 29891 | 310605 | 108800 | 124430 | 573726 | 336197 | 416779 | 1590073 |
| 1921 | 223558 | 29098 | 26442 | 279098 | 62113 | 381306 | 131175 | 122194 | 696788 | 484423 | 379130 | 1839439 |
| 1922 | 241676 | 34205 | 30804 | 306685 | 64013 | 406241 | 161436 | 141544 | 773234 | 522851 | 371655 | 1974425 |
| %1922 г. к 1915 г. | 98.9 | 95,3 | 133,1 | 101,1 | 114,6 | 79,8 | 73,6 | 120,0 | 85,7 | 88,4 | 81,4 | 87,6 |
| + ці — | —1,1 | —4,7 | + 33,1 | +1,1 | — 14,6 | — 20,2 | — 26,4 | +20,0 | — 14,3 | — 11,6 | — 18,6 | —12,4 |
| %1922 г. к 1921 г. | 108,1 | 117,6 | 116,5 | 109,9 | 103.1 | 106,5 | 123,1 | 115,8 | 111,0 | 107,9 | 98,0 | 107,3 |
| + ці — | +8,1 | + 17,6 | + 16,5 | +9,9 | +3,1 | +6,5 | +23,1 | + 15,8 | + 11,0 | +7,9 | —2,0 | +7,3 |

Адгэтуль мы бачым, што найболей з 1915 па 1922 год патрачана кароў і маладняку, а таксама й дробнае скаціны—авец і сьвіней. Больш утрымалася рабочая скаціна—сталыя коні, валы й быкі; апошніх, нават, ёсьць значны прыбытак у 14,6 проц. Гэта й зразумела, бо кожны гаспадар перш

усяго дамагаецца ўтрымаць тую жывёлу, на якой ён мог узараць сваё поле. Зраўнаваўшы 1921 і 1922 гады, мы бачым, што ўсякае скаціны прыбавілася надта значны лік, апроч сьвіней, якіх паменшылася на 2 проц. Мне здаецца, што прычыну памяншэньня сьвіней трэба шукаць у значным продажу іх, бо ў 1922 годзе на вёску наложаны грашавыя падаткі, для выплаты якіх продаж сьвіней найбольш карысны.

Цяпер нам застаецца разглядзець нашыя савецкія гаспадаркі. Яны ўзьніклі ў бышых панскіх маёнтках, якія за часы вайны й рэволюцыі былі надта папсаваны. З пачаткам Савецкага ладу на Беларусі ня было бадай што ніводнага маёнтку, дзе ў цэласьці засталіся будоўля, гаспадарчыя прылады й скаціна. Праз гэта ў 1921 годзе савецкія гаспадаркі былі настолькі нямоцнымі, што ня мелі ніякае вагі ў экономічным жыцьці рэспублікі. Найбольш кволыя з савецкіх гаспадарак былі ліквідаваны, зямля іх была падзелена між суседнімі сялянамі. Другія з гэтых гаспадарак былі перададзены ці ў арэнду іншым дзяржаўным і грамадзянскім установам, ці назаўсёды ўстановам сацыяльнай забясьпекі і судовага нагляду для карыстаньня апякаемых грамадзян і для выкананьня працоўнага прынцыпу сярод зарыштованых. Такім чынам у руках Народнага Камісарыяту Земляробства ў 1922 годзе засталося толькі 130 савецкіх гаспадарак з агульным абшарам ворнай зямлі ў 25982 дзесяціны. З гэтага ліку зямлі было засеена ў прошлым годзе 23483 дзесяціны, ці 88,8 проц. Але ня ўся гэтая зямля засявалася самымі савецкімі гаспадаркамі: 6279 дзесяцін ці 22,6 проц. было засеена сялянамі; самымі—ж савецкімі гаспадаркамі—17204 дзес. ці 66,2 проц. Найменш усяго зямлі было скарыстана ў Бабруйскім і Мазырскім паветах. Зрабіўшы падлік засеенай зямлі ў савецкіх гаспадарках па аддзельных паветах, мы бачым, што былі вось якія адносіны засеенага абшару к агульнаму ліку зямлі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| у Слуцкім павеце | —99 проц. | у Барысаўскім павеце | —91 проц. |
| « Менскім « | 97 « | « Бэбруйскім « | 77 « |
| « Ігуменскім « | 93 « | « Мазырскім « | 52,7 « |

Кухціцкі гурток—90 проц. і Сьмілавічы—100 проц.

Шмат неаброблёнай зямлі ў Бабруйскім і Мазырскім паветах тлумачыцца крайняй недастачай там коняў. Але й па другіх мясцох іх нямнога. Калі мы зьвернемся да скаціны, то пабачым, што савецкія гаспадаркі маюць яе далёка ня ў тым ліку, як то было-б патрэбна для належнай пастановы гаспадарскай справы. І запраўды, на ўсе гаспадаркі прыходзілася ў прошлым годзе 1551 коняў і 198 валоў, якіх разам можна лічыць за 1700 коняў. Гэты лік складае толькі 65 проц. патрэбы (2598 галоў). Рагатай скаціны было толькі 2262 штукі ці 35 проц. патрэбы (у 6484 шт.). Вядома, што такая недастача скаціны дрэнна адчувалася на ўсіх гаспадарскіх справах. Але ўсё-ж, ня гледзячы на дрэннае становішча, нашыя савецкія гаспадаркі ў мінулым годзе зрабілі шмат больш, чымся ў 1921 г. Цікава будзе даць некаторыя лічбы. Было:

| | 1921 г. | 1922 г. |
|---|---|---|
| Савецкіх гаспадарак | 157 | 130 |
| Ворнае зямлі | 36000 дзес. | 25982 дзес. |
| Скарыстана зямлі | 11800 дзес. (33 %) | 23483 дзес. (88,8%) |
| Коняў | 1728 шт. | 1700 шт. |
| Заводнай скаціны | 267 шт. | 797 шт. |

Такім чынам, савецкія гаспадаркі за адзін год павялічылі сваю працу больш, як у два разы. Калі ў 1921 годзе яны былі так нямоцны, што патрабавалі падтрыманьня, то ў 1922 годзе з іх ужо зьбіраўся харчовы падатак. Такое разьвіцьцё савецкіх гаспадарак за мінулы год дае магчымасьць спадзявацца, што ў недалёкім часе яны выканаюць тыя надзеі, якія на іх ускладаюцца—зробяцца ня толькі «фабрыкамі хлеба», але стануць месцамі агракультурнай дапамогі селяніну й наогул фактарамі культурнага разьвіцьця нашай вёскі. Трэба толькі напэўна праводзіць палітыку вытрыманьня іх, трэба наладзіць рацыянальна гаспадарчыя справы, і тады „саўхов“ ня будзе мець селяніна недавяркам к сабе, ня будзе лічыцца ім, як непатрэбная рэч. Аграстанцыі Камісарыяту Земляробства павінны быць пры савецкіх гаспадарках і, нарыхтоўваючы апошнія, служыць прыкладам селяніну. У гэтым культурна-экономічная місія савецкіх гаспадарак.

Пасьля сельскай гаспадаркі найбольш значнейшым экономічным фактарам Беларусі зьяўляецца лес. Па свайму багацьцю лесам Беларусь яшчэ і да гэтых часаў займае адно з першых месц у Савецкай фэдэрацыі. Аднак, як і ў адносінах да ўсіх бакоў экономічнага жыцьця, за апошніх 8 гадоў нашы лясы ператрывалі нябывалае марнаваньне й згубу. Асабліва моцна папсаваны лясы вакол гарадоў, паабапал чугунак і рэчак, коратка—у тых мясцох, дзе найлягчэй было падвязьці дровы ці матар'ял. Лясны абшар надта значна паменшыўся. Калі ў 1912 годзе лясны абшар у межах сучаснай Беларусі быў роўным 1.974.243 дзесяцін., то цяпер ён налічвае толькі 1.808.489 дзесяцін. Значыць, за 10 гадоў лясны абшар паменшыўся на 165.754 дзесяціны ці на 8,4 проц. З усяго ляснога абшару ў 1912 годзе пад самым лесам было 1.559.624 дзесяціны, а ў 1922 г. толькі 1 292.232 дзесяціны. Вось з гэтага і вынікае, што лік пакрытага дрэвам ляснога абшару паменшыўся на 267.392 дзесяціны ці, проста кажучы, было высечана нашчэнт і неаблесена пасьля вырубу 17,15 проц. усяго лесу. Калі мы будзем лічыць сьпеласьць лесу ў 100 гадоў і кругаварот лесасекаў таксама ў 100 гадоў, то цяпер у нас ужо высечана лесу на 18—20 гадоў уперад. Захацеўшы нагнаць гэтую страту лесу, мы павінны былі-б 20 гадоў ня высячы ніводнага палена дроў, ніводнага калка. Лясістасьць Беларусі, ці адносіны пакрытага лесам абшару да ўсяго абшару Рэспублікі, у 1922 годзе была 27 проц., тады як ў 1912 годзе той самы кавалак Беларусі меў лясістасьць у 33 проц. Найбольш ўсяго лесу высечана ў Бабруйскім, Ігуменскім і Менскім паветах. У Бабруйскім лясістасьць панізілася на 13 пр., у Ігуменскім—на 10 проц. і Менскім—на 9 проц. У Мазырскім і Слуцкім паветах гэтае паніжэньне дае толькі 2 проц.; лясістасьць Барысаўскага павету не паменшылася, а, нават, крыху павялічылася ад дадатку частак б. Віленскага павету.

Бяда ў лясной гаспадарцы ня толькі ў тым, што высечана шмат лясоў, але яшчэ й другое ліха, што лес завалены карчамі, суччом, нават, вяршыльнікам. Усе гэтыя астаткі гніюць і даюць прытулак лясным паразітам, а летам пры засушы памагаюць пажарам. Адсутнасьць сродкаў прымушае таксама ўстрымацца ад дасьледчае працы. Калі ў 1912 годзе было ў належным даглядзе й распляноўпы 696 316 дзес. (27,5 проц. усяго лесу), то ў 1922 годзе лесаўстрой быў праведзены толькі на 50 000 дзес. (ці 2,7 проц. лесу). Высечаны лес трэба йзноў засяваць, каб лесу ня меншылася. Аднак за ўсе апошнія гады гэтага засеву не раблася; напрыклад, перад вайною на разьвядзеньне лесу штогодна трацілася 62.215 руб., у мінулым жа годзе было патрачана толькі 372 руб. па даваенным цэнам.

Такое становішча з лесам, вядома, ня можа цягнуцца далей. Трэба далажыць усю стараннасьць, каб знайсьці сродкі для належнага нарыхта-

ваньня ляснога гаспадаркі, трэба пачаць і цьвёрда трымацца экономіі ў карыстаньні лесам на дровы й будоўлю, трэба знайсьці такі матар'ял, які даў-бы магчымасьць замяніць дровы. У нас доўга шукаць такі матар'ял ня трэба, бо яго ўсюды колькі хочаш. Гэтым матар'ялам зьяўляецца торп. Па сваёй гэолёгічнай будове Беларусь мае шырокую магчымасьць к разьвіцьцю тарпяное-прамысловасьці. Досыць будзе ўспамянуць такія балоты, як Цянскае, Талькаўскае, Міханавіцкае і Залесьеўскае, з абшарам у 7200 дзесяцінаў торпу глыбінёю пласту ад 1 да 2 сажняў, каб сказаць, што нам ня трэба доўга думаць, чым замяніць дровы. Ужо ў мінулым годзе было здабыта на адным Цянскім балоце 4.551 куб. саж. рознага торпу, які дастаўляецца ў Менск і ўжываецца першым чынам на электрычнай станцыі. Але гэта толькі пачатак. Здабытак торпу павінен быць пашыраны. На гэтую справу трэба зьвярнуць больш увагі, трэба распрацаваць тэхнічна-вырабны плян, дастаць машыны. Напрыклад, Міханавіцкае балота, па прыблізным падлікам, валадае такім пластом торпу, што яго хапіла-б на 200 гадоў для функцыянаваньня электрычнай станцыі, магутнасьцю ў 15000 кілаўат. Мне здаецца, што ў недалёкай будучыне Беларусь будзе мець вакол кожнага балота, якія дагэтуль пустуюць і на якіх нічога, апроч куп'я да лазы, няма, цэлыя фабрычна-заводзкія пасады, жыцьцё і рухавасьць якім будзе даваць «чорная зямля». Наша-ж зялёнае царства—лес—павінен акрыяць, вырасьці і сваёю вільгацьцю паіць нашу небагатую зямлю й рэчкі.

Прамысловасьць Беларусі ніколі ня мела значнасьці, як самавітая, закончаная. Важнейшыя часткі нашай прамысловасьці выраблялі толькі паўфабрыкат і мелі самы сьціслы зьвязак з сельскай гаспадаркай і эксплёатацыяй лесу; такімі часткамі прамысловасьці былі: браварная, дражджавая, скураная, лясная, сьпічачная і шкляная. Усе іншыя прамысловасьці мелі дробны харэктар. За часы вайны прамысловасьць на Беларусі зусім разбурылася: бравары, быўшыя пры маёнтках, траха ня ўсе пераламаны і папалены; у іншых прадпрыемствах таксама папсаваны машыны, нават шмат дзе вывернуты былі катлы. Многа найбольш здатнейшых заводаў і машын былі вывезены ў іншыя месцы і там засталіся назаўсёды. З пачаткам Савецкай улады на Беларусі прышлося з вялікім напружаньнем адраджаць усю прамысловасьць. Найбольш вартоўныя і затрыманыя цэлымі прадпрыемствы былі апавешчаны дзяржаўнымі, а драбнейшыя з пачаткам НЭП'у перададзены прыватным асобам. Першых усяго 178, апошніх каля 4900. Усе прадпрыемствы, перададзеныя прыватным асобам, ня больш ня менш, як кустарныя майстэрні; абыходзяцца, нават, без нанятых рабочых. Гэтыя прадпрыемствы ніякай значнасьці ў экономічным сэнсе ня маюць, апроч таго, што яны даюць нейкі заработак 7000 чалавек. Мы гэтых прадпрыемстваў разглядаць і ня будзем. Зьвернемся да дзяржаўных прадпрыемстваў. З іх 38 здадзены ў арэнду, 7 перададзены ў карыстаньне розным установам, 26 назначаны к здачы ў арэнду. З астатніх 109 гурток у 18 нічога ня варты з тэхнічнага боку, а 91 карыстаюцца, пры гэтым 45 працавалі ў мінулым годзе, а 46 сталі і пакрысе правяцца, каб потым пусьціць іх у ход.

Вядома, што ўрадам былі затрыманы за дзяржаваю тыя прадпрыемствы, прамысловасьць якіх зьяўляецца асноўнаю для Беларусі. У скураной прамысловасьці мы маем 5 прадпрыемстваў, у шкляной—4, у сьпічачнай—1, абрабляючых мэтал—2, браварна-дражджавых—4, маслабойных—2, піваварань—1, крахмальных—1, шваленъ—1, папяровых і кардонавых—2, друкарань—8, лесапілак—9, фанерных—1, калодачных—3 і мяшаных (лесапілка і фанерна-стружкава-бачарных)—1. На ўсіх заводах і фабрыках налічва-

еццa да 2415 рабочых. Праца ўсіх заводаў у мінулым годзе йшла шмат здатней, чымся ў 1921 г. Памагло гэтаму тое, што летась шмат з якіх заводаў былі належна папраўлены, на што было патрачана каля 100.000 рублёў золатам. Але ўсё-ж работа была маруднаю з-за частага прыпынку заводаў, што выклікалася ці недастачаю дроў, ці надта вялікаю зношанасьцю машын і іншых прыладаў. Каб бачыць, на колькі ў прамысловасьці мы пайшлі ўперад за мінулы год, прывядзём вось якія лічбы:

| | 1920—1921 год. | 1921—1922 год. |
|---|---|---|
| Лясная прамысловасьць: | | |
| Расьпілована | 255.000 куб. фут. | 2.544.951 куб. фут. |
| Выраблена фанэры | — | 816 куб. мэтраў |
| Зроблена калодак | 16.000 пар | 49.535 пар |
| Ужыўная прамысловасьць: | | |
| Выгнана сьпірытусу | 197.602 град. | 433.809 град. |
| » дражджэй | 50.542 фунты | 646.400 фунт. |
| » піва | 1.688 вёдзер | 16.155 вёдзер |
| » фрукт. вады | — | 1.800 » |
| Перароб. ільнян. семя | 300 пуд. | 109.803 пуд. |
| Выраб скур | няма ўстаноўленых лічбаў | 59.593 скуры |
| Выраб запалак | 14.618 скрынак | 48.306 скрынак |
| Выраб шкла: | | |
| Ваконнага | 2.227 скрынак | 9.155 скрын. |
| Круглякоў | — | 165.067 шт. |
| Усякае пасуды | 304.780 шт. | 992.326 шт. |
| Выраб паперы і кардону: | | |
| Паперы | 2.589 пуд. | 13.467 пуд. |
| Кардону | 2.442 пуд. | 7.410 пуд. |

Калі ўзяць агульны выраб да вайны па тым самым прадпрыемствам і паставіць побач з вырабам 1922 году, то мы пабачым, што сьпірытусу выгнана 11 проц. супроць 1913 году, дражджэй—27 проц., піва—толькі 5 проц., ваконнага шкла выраблена 25 проц., шклянак—6 проц., аптэкарскай пасуды—40 проц., запалак—51 проц., кардону—21 проц., паперы—21 проц., Але-ж як мы ўгледзімся ў лічбы 1920—1921 г. і 1921—1922 г., то мы пабачым ясна, як пашырылася наша прамысловасьць: па расьпілоўцы лесу ў мінулым годзе зроблена траха ня ў 10 разоў больш, як у 1921, калодак выраблена ў 3 разы больш, фанэры ў 1921 годзе зусім не рабілі, дражджэй

выгнана ў 12 раз больш, сьпірытусу—у 2,5 разы, піва—у 10 разоў, масла ільнянога—у 330 разоў, запалак—у 3,25, ваконнага шкла—у 4,1, шкляное пасуды—у 3,2 разы, паперы—у 5 разоў, кардону—у 3 разы й г. д.

Павышэньне агульнага вырабу на нашых прадпрыемствах у мінулым годзе залежала ад тэхнічнага палепшаньня самых прадпрыемстваў, а таксама і ад павышэньня вартасьці працы рабочага. Так, напрыклад, на гарбарнях мы мелі ў верасьні 1921 г. 20,8 вырабляных скур на аднаго рабочага, а ў жніўні 1922 г. ўжо 27,4 скуры (больш на 32 проц.); кардону выраблялася на аднаго рабочага ў лютым 1922 году 22,5 пуд., а ў лістападзе— ужо 45 пуд., ці ў 2 разы больш: у верасьні 1921 году дражджэй выходзіла на 1 рабочага 140 фунт., а праз год—ужо 1065: выхад павялічыўся ў 7,6 разоў, таксама і на лесапілках: у 1921 годзе мы мелі сярэдні выхад пілаванага матар'ялу 15 куб. фут. на чалавека ў дзень, а ў 1922 г. ужо 31 куб фут.—карыснасьць працы павялічылася ў два з лішкай разы. Зразумела, калі мы возьмем сярэдні гадавы выраб на аднаго рабочага ў даваенныя часы, і ў мінулым годзе, то яшчэ вывад будзе трохі не здавальняючы: мы яшчэ не дасягнулі да вывікаў працы тых часоў. Так, выраб сярэдні за 1922 г. аднаго рабочага ў адносінах да такога самага вырабу 1913 году мае: па дражджох 47 проц., па сьпірытусу 18 проц., па піву 10 проц., па ваконнаму шклу 67 проц., па шклянкам 15 проц., па аптэчнай пасудзе 100 проц., па запалкам 57 проц., па кардону 28 проц., па паперы 21 проц.. Гэтыя лічбы не павінны быць крыўднымі ні для кога, бо калі ўспомніць, у якіх варунках працавалі нашы заводы, то мы пазнаем, што наш рабочы лепей працуе цяпер, як пры царскім урадзе. У даваенныя часы завод, звычайна, быў на хаду з дня-ўдзень; нашы-ж заводы ў мінулым годзе добра калі працавалі праз 2 дні ў трэці. Гуты ўсё правіліся з-за няладу ў печах, бровар часта спыняўся з-за нязбыту сьпірытусу, запалачная фабрыка таксама доўга правілася, папяровая фабрыка прыпынена ў ліпні 1922 г. і пушчана толькі некалькі дзён таму назад. Цяпер становіцца зразумелым, што сярэдні гадавы выраб рабочага ня можа яшчэ зраўняцца з вырабам даваенных часоў.

Разам з пашырэньнем вырабу нашых прадпрыемстваў, ідзе й палепшаньне вартасьці тавараў. Дзякуючы апошняму, заводы й фабрыкі маюць заўсёды патрэбы і заявы з боку гандлю, а праз гэта і мерка нагрузкі іх работаю высокая: гарбарні маюць нагрузку на 90 проц. свае вырабное магчымасьці, швальня 80 проц., гуты 90 проц., друкарні 100 проц., ужыўная прамысловасьць 85 проц., абрабляючая мэтал 75 проц., запалачная 100 проц., кардонная 90 проц., дрывяная 100 проц.. Выраб нашых прадпрыемстваў ня можа быць спажыты ўвесь на Беларусі, і значная частка яго йдзе ў іншыя месцы й, нават, заграніцу. Так, нашы лясныя матар'ялы вывозяцца на Украіну і заграніцу; дражджэй у нас за 1922 г. было выгнана 25 проц. усяго ліку дражджэй, здабытых па ўсёй Сав. Фэдэрацыі; дзеля гэтага нашы дрожджы вывозяцца ўсюды, першым чынам ў Цэнтральную Расію. Усякага шкла выраблена ў нас досыць, каб здаволіць мясцовыя патрэбы, і значная доля яго была вывезена на Ніжагародзкі, Кіеўскі й Харкаўскі кірмашы. Тавар наш на столькі добры, што мае вялікую прыёмнасьць на Украіне, адкуль прыяжджаюць у Менск купляць яго. Запалак таксама ў нас выраблянецца больш, як трэба на мясцовых рынках: 51 проц. іх у 1922 годзе быў вывезены з Беларусі.

Коратка кажучы, наша прамысловасьць мае добрую будучыну, і тая напружанасьць, з якою зьбірала Беларусь разбураныя машыны, папраўляла, нават самыя сьцены заводаў, забясьпечвала іх неабробленымі матар'ямі, дарэмна не прападзе. Новы 1923 год наша прамысловасьць сустрэла не

такою хмураю, як 1922 год. Ужо 5 месяцаў прайшло з пачатку працоўнага году (з 1 кастрычніка), і віякіх прыпынкаў і перашкодаў не здаралася ў працы заводаў. Гэта сьведчыць аб тым, што работа йдзе ладна.

Цяпер некалькі слоў аб нашым гандлі. Новая экономічная палітыка, ажыцьцёвіла старыя гандлёвыя прадпрыемствы прыватных асобаў. На Беларусі ў дарэвалюцыйныя часы гандаль, асабліва дробны, быў надта спрытным і рухавым. Кожнае самае невялічкае мястэчка налічвала столькі крамак, што іх было занадта шмат для здавальненьня патрэбаў жыхарства. Праз гэта гандлёвыя прадпрыемствы, ня маючы значнага размаху, так і заставаліся дробнымі. Яны ня ведалі ні бухгальтэрыі, ні належнага кругавароту тавару. Гэта былі проста агэнты некалькіх больш ці менш моцных грашаўнікоў. Рэвалюцыя выкінула такіх грашаўнікоў; тыя-ж асобы, якія былі іх агэнтамі і якія нічога не патрацілі ад нацыяналізацыі гандлю, затрымаліся і па колішняй звычайцы да гандлю цяпер ізноў адчынілі свае крамы. Але ўсе іх гандлёвыя опэрацыі ёсьць ня што іншае, як перапрадажа тавараў нашых дзяржаўных трэстаў. Значыцца, прыватныя гандляры зьяўляюцца таксама як-бы агэнтамі дзяржаўнага гандлю. Праўда, іх гандаль калі-ні-калі мае характар спэкуляцыйны, але-ж гэта прыпыніць зусім пакуль што нельга. К канцу першай паловы 1922 году прыватнымі гандлярамі было выбрана гандлёвых патэнтаў: I разраду—634, II разраду—3197 і трэцяга—3027, усяго—6858. Устанавіць іх абароты можна будзе праз нейкі час, як выявіцца дзейнасьць камісіяў пры Кам. Грашовых Спраў па выкананьню падаходна-маетнага падатку.

Асаблівую значнасьць мае пры Савецкім ладзе коопэрацыя. У сучасны момант яна павінна прадстаўляць з сябе барацьбіта супроць прыватнага гандлю. Аднак, да апошніх часаў яна са сваёю задачай спраўляецца ня зусім удала. Будучы прыцягнута да выкананьня дзяржаўных заданьняў, коопэрацыя не змагла зразу абгарнуць жыхарства, уцягнуць яго ў сваю працу, зацікавіць яго тымі выгоднымі варункамі, якія яна-б павінна даваць сваім сябром. Наадварот, коопэрацыя да апошніх часаў трымалася погляду «накапленьня сродкаў», што не прыцягала, а адварочвала ад яе патрабіцеля, якому прыватны рынак даваў ня меншыя ільготы. Асабліва гэта датыча да патрабіцельскай коопэрацыі. Вядома, што тут самую коопэрацыю надта вінаваціць ня прыходзіцца, бо яна ня мела сродкаў, каб шырока нарыхтаваць коопэраваньне жыхарства. У нас маецца тры веткі коопэрацыі: патрабіцельская (Цэнтрабелсаюз), рабочая (Мінсорабкоп) і сельска-гаспадарчая (Белсельпромсоюз). Першая мае 311 патраб. вобчастваў, другая—6 гандлёвых прадпрыемстваў, і апошняя 92 сельска-гаспадарчых таварыствы. Найбольш шырокую дзейнасьць мае Цэнтрабелсаюз, гандлёвыя і іншыя абароты якога за 1922 год былі каля 36 трыльёнаў рублёў ці 36.000.000 р. па ліку гэтага году. Рабочая коопэрацыя мела абароту ў 1922 годзе на 3.054.000 руб. у лічбах гэтага году. Што-ж належыць да сельска-гаспадарскай коопэрацыі, то я пакуль што ўстрымаюся гаварыць аб яе гандлёвых справах.

Наша палажэньне пры граніцы надта лагодзіць разьвіцьцю іназемнага гандлю. І за паўтара апошніх гады гэты гандаль зрабіўся досыць значным. У 1921 годзе вывезена заграніцу рознае сырызны на 254.738 руб., а ў 1922 г.—на 635.904 руб. зол.; увесь вываз зроблены на 889.904 р. зол. У Беларусь з-заграніцы прывезена розных тавараў у 1921 г. на 327.580 р., а ў 1922 г. на 234.567 руб. зол.; усяго за абодвы годы на 562.097 р. зол. Значыцца вывезена на 327.867 зал. руб. больш, як прывезена: экспорт перавышае імпорт у $1^{1}/_{2}$ раз. Вывозілася больш усяго сырызна ад скаціны

(на 470.727 руб. зол. у 1922 г.), а прывозілася, першым чынам, мэтал і начыньне з яго (на 89.956 руб. у 1922 г.) і хімічныя матар'ялы й прадукты (на 61 015 р.). У будучыне наш экспорт павінен надта пашырыцца і перш усяго лесам, смалою, скіпідарам і лёнам. Асабліва шырокія пэрспэктывы маюць продукты хімічнага перагону дрэва.

Канчаючы свой кароткі агляд, мы павінны сказаць, што народная гаспадарка Беларусі ўжо пературывала сваё ліха; яна папраўляецца хутка ва ўсіх кутках у кожнай праяве. Сельская гаспадарка й прамысловасьць пашыраліся за мінулы год і шырокім крокам ідуць па пуціне ліквідаваньня пэражытых штурхаў. Лясная гаспадарка патрабуе яшчэ вялікай да сябе ўвагі і экономнасьці ў патраце лесу. Коопэрацыйны гандаль павінен пашырацца, больш залесьці ў гушчыню жыхарства, паставіўшы сабе першай мэтай коопэратыўнае аб'яднаньне жыхарства. Голад і гострую недастачу мы ўжо пературывалі, і цяпер пакрысе выходзім на вольны шлях шырокага будаўніцтва нашай працоўнай Рэспублікі. Мінулы год пацьвердзіў нам, што мы здолеем на полі працы, як здолелі на полі вайны.

**Я. Пятровіч.**

# Успаміны з рэвалюцыі 1905—1906 г.

Аб нашым беларусе ходзяць гоманкі, што між усіх славянскіх нацый ён ёсьць найпакорнейшы мала, здольны да барацьбы, што ён, схіліўшы шыю, заўсёды нёс пакорна свой крыж.

Гісторыя рэвалюцыйнага руху кажа, што гэта—няпраўда.

Я ня буду застанаўлівацца на апошніх пяці гадох рэвалюцыі, у якой наш беларус-працаўнік у часы акупацыі нямецкай і польскай паказаў, што ён ня ёсьць тым, якім яго прызвычаіліся лічыць. За гэта таворыць гісторыя чырвонага партызанскага руху па ўсіх абшарах акупаванай Беларусі, аб гэтым гавораць і тыя паўстаньні ў польска-беларускіх крэсах (Горадзеншчына, Піншчына), весткі аб якіх глуха даносяцца сюды з заграніцы.

Я тут хачу прыпомніць аб тым рэвалюцыйным і аграрным руху, які распачаўся на Беларусі ў першую рэвалюцыю 1905—1906 г.,—руху, у якім мне самому прышлося браць чынны ўдзел.

Аграрны рух у тыя часы найбольш разьвярнуўся ў Навагрудзкім і Менскім паветах. Першая аграрная забастоўка распачалася ў маёнтку графа Т. ў Шчорсах. Ня вышлі на працу батракі, не пайшлі й сяляне. Пан угаварваў, грэзіў—нічога не памагала. Каб зламаць забастоўку, у сяло пастанавілі прыслаць эскадрон драгунаў. Драгуны стаялі цэлае лета, аб'ядалі гаспадароў, але ні адна рука не паднялася, каб узяць серп ці касу.

На чале забастоўкі стаялі настаўнікі. Працаваў там у гэтыя часы і нябожчык Бурбіс.

Гэтая забастоўка, як агонь у час пажару, перакінулася на другія фальваркі й маёнткі Навагрудзкага й Менскага паветаў. У маёнтках Радзівіла, Сьветаполка-Мірскага (у м. Міры) стаяла збожжа на полі, ня блішчала каса на сенажаці. У адным фальварку пан хацеў замяніць рукі парабкоў і сялян машынаю. Але-ж хтось здолеў убіць зялезны кол паміж збожжа і машына зламалася. Сьвятаполк-Мірскі нагнаў у свой маёнтак казакаў-чачэнцаў.

Там, дзе сярод жыхарства знаходзіліся штрэйкбрэхэры, то іх здымалі сілаю альбо грозьбаю спаліць іх гаспадарку.

Актыўны ўдзел у гэтым руху прымала найбольш сьвядомая частка вясковых настаўнікаў. Так, настаўнікі Сьвержанскай воласьці друкавалі на гэктографе пракламацыі й распаўсюджвалі іх паміж вясковага жыхарства.

К восені 1905 г. аграрны рух прыняў такія разьмеры, што паны схамянуліся й, нават, склікалі супольны зьезд памешчыкаў і прадстаўнікоў

сялян ад кожнай вёскі Менскага павету. Гэты зьезд адбыўся 10 сьнежня 1905 г. у Менску ў салі Дваранскага Сабраньня (цяпер клюб Карла Маркса). На гэты зьезд папаў і я прадстаўніком ад сяла Мікалаеўшчыны Сьвержанскай валасьці.

Яшчэ ў сваёй валасьці я правёў рэзалюцыю аб тым, што працоўны сялянскі люд датуль не застановіць сваёй барацьбы, пакуль не даб'ецца праў на ўсю зямлю. К гэтай дэклярацыі па дарозе прыхілілася Стоўпецкая, Засульская і яшчэ пара дэлегацый з другіх валасьцей.

Зьезд адчыніў прадвадзіцель дваранства. Сярод памешчыкаў на зьезьдзе былі такія тузы, як Наркевіч-Іодко, Рымша й др. У час зьезду пачалася вядомая Маскоўская ж. д. забастоўка, і ў горадзе было абвешчана ваеннае палажэньне.

Паны ў доўгіх прамовах стараліся ўгаварыць сялян згадзіцца на «адрэзкі» і вынесьці рэзалюцыю аб згоднай працы паноў і сялянскага жыхарства. Ад імені сялян я хацеў агаласіць сваю дэкляраццыю. Але-ж гэтага паны не дазволілі. У салю навялі паліцыю. Тады наша дэлегацыя дэманстрацыйна аставіла зьезд, а за намі разышліся й прадстаўнікі другіх валасьцей. Такім чынам паном не ўдалося абдурніць «мужыка», і зьезд кончыўся нічым.

Як я ўжо сказаў, беларускае сьвядомае настаўніцтва ня толькі брала ўдзел у аграрным руху, але яно адначасна вяло палітычную і прафэсыянальную барацьбу.

Першы прафэсыянальны саюз настаўнікаў быў арганізаваны ўлетку 1906 г. Ідэя саюзу зарадзілася сярод настаўнікаў вёскі Мікалаеўшчыны. 9-га чэрвеня быў скліканы зьезд. На зьезд зьявілася ня больш 30 чалавек. У гэты час ужо панавала рэакцыя—9 чэрвеня была разагнана Дзяржаўная Дума.

У мэтах конспірацыі зьезд адбыўся за ляском, у урочышчы Лядзінае, дзе цяпер якраз праходзіць польска-беларуская граніца. Паміж дубоў на беразе Нёмну былі апрацованы констытуцыя і пастанова Саюзу.

Пункт чацьвёрты гэтай пастановы гаварыў, што Саюз ставіць сваёй мэтаю барацьбу з царскаю ўладаю, бо толькі ў дэмократычнай дзяржаве ёсьць можнасьць правесьці ідэю дэмократызацыі школы. Старшынёю зьезду, а потым сэкратаром зьезду быў аўтар гэтых успамінаў. Вечарам, калі ўсе сябры зьезду сабраліся ў школе, наехалі стражнікі, зрабілі вобыск, канфіскавалі рэзалюцыі, але-ж арыштаваць нікога не арыштавалі... Як відаць было, баяліся варожа настроенага сялянства.

Другі, ужо нелегальны, зьезд адбыўся ў Менку, на Кэмароўцы. На гэтым зьезьдзе паміж другіх бралі чынны ўдзел Скандракоў—сябар Беларускай грамады, Уласаў і народаволец Бонч-Асмалоўскі.

Саюз настаўнікаў увайшоў у сувязь з другімі рэвалюцыйнымі арганізацыямі Беларусі. Сувязь з прадстаўнікамі сацыял-дэмократычнай партыі была ў сяброў саюзу і да гэтага зьезду нехта тав. Саша прыяжджаў к нам на вёску, прывозіў нелегальную літаратуру, рабіў даклады. Адначасна была сувязь і з партыяй сац.-рэвалюцыянэраў.

Саюз спэцыфічнай палітычнай акраскі ня меў.

Сярод сялянства ў гэты час вялі рэвалюцыйную працу тры арганізацыі—партыя сац.-демакр., сац.-рэвалюц. і беларуская сацыялістычная грамада.

Здаралася, што на адну вёску прыяжджалі ў адзін час прадстаўнікі ад дзьвюх, а то й трох арганізацый. Пачыналіся спрэчкі. Сялянства іх не разумела і наогул гэта надта шкодзіла працы.

Для каардынацыі працы на вёсцы ў Менску было арганізавана міжпартыйнае бюро. У гэтае бюро ўвайшлі партыі: сац.-дэмакратаў, сац.-рэвалюц., Беларуская Грамада і Саюз Настаўнікаў. Сэкратаром бюро быў абраны я.

Бюро істнавала нядоўга. Распачалася чорная рэакцыя, пачаліся арышты.

Пры дапамозе арганізацыі, мне і сябром Янкоўскім удалося ўцячы заграніцу. Над сябрамі Саюзу Настаўнікаў быў суд у Віленскай Судовай Палаце. Двое сяброў—Костусь Міцкевіч (Якуб Колас) і Ўладзімір Міцкевіч былі прысуджаны к тром гадом крэпасьці, якую кару яны і адбылі ў Менскім турэмным замку,

Вось той аграрны й рэвалюцыйны рух, які мне прышлося перажыць у гады першай рэвалюцыі.

Было-б добра, каб другія ўчасьнікі руху тых гадоў далі свае ўспаміны, а гэта-б дало мажлівасьць саставіць гісторыю аграрнага рэвалюцыйнага руху на абшарах Беларусі.

**Алесь Сянкевіч.**

9—II—23.

# Літаратура.

## Пясьняр сноў і чараў (М. Багдановіч).

Надзвычайна радуе вока від дагледжанага саду, поўнага яблык, ігруш і чырвона-крывавага вішаньня. Нас супакойваюць гэтыя салодка-карысныя вынікі чалавечай пільнай працы—культуры. Але, ці ня болей узрадуецца вока, убачыўшы сярод такога саду газоны ружовых пялёсткаў, сінькаляровых віолаў і вострых пахам гваздочкаў... Як пягнемся мы да гэтых кветак усёй сваёй істотай і адпачываем адразу... Так, тут добра, тут ужо заможнасьць тых, хто гаспадарыць—бо тут ужо зарадзілася пекната!...

Такой поўнай клюмбай квяцістага згуртаваньня азначаецца поэзія М. Багдановіча сярод працавітага саду нашае літаратуры.

Ён прайшоў сваё кароткае жыцьцё ў «зачар ваным» царстве ідэалізаванай ім бацькаўшчыны, з нізкай жамчужын-вершаў, якія, нібы пацеркі, перабіраў, зьвяртаючыся ў песьнях-модлах да бога хараства.

Ён мала ведаў рэальную бацькаўшчыну працы й змаганьняў. Замест галасоў стогну й барацьбы, яму чуўся сумны, маркотны лясун—гэты прабраз вечнай прыроды,—які йграў на нацягнутых струнах тонкаствольных хвоек...

Калі йграе лясун - прырода, тады ўсё засыпае: і рака, і каласы ў палёх, і няведама, што дрыжыць на ліцьсях лазьняку—

«Кроплі сьлёз, ці халоднай расы»...

Гарачыя сьлёзы чалавечых вачэй і халодныя росы прыроды аднолькава блізкі гэтаму чуламу ўспрыяльніку.

Прырода жыла перад ім мо' болей, як перад іншым песьняром, бо ён насяляў яе ня толькі сваім перажытым, але і ўсім глыбока мінулым народнае творчае фантазыі.

Вось чаму возера сярод бору—гэта люстра, пакінутае лясуном - прыродай, каб поэта мог агледзіць у ім увесь сьвет, усю тую дрыжачую, прамяністую матэрыю, якая, як русалка, блутае свае косы ў сеці-думкі... А белы месяц-фантазія ловіць у гэтыя сеці русалку.. І ноч шапоча ім: «засьнеце!»

І сьпіць усё ў яго зачараваным царстве: і асока, і лаза зялёная, і хваля, што ціха коціцца... усё навакол.

Толькі сам пясьняр, «заварожаны вячэрняй цішынёй», зьліўшыся пачуцьцём з прыродай, чуе, як «дрыжаць ад ветра зоркі»... Крыштальнадзяцінная душа! Каб чуць гэта, трэба ня мець гневу ні проці каго. Ды на каго злаваць грамадзяніну «зачараванага царства?» Хто захоча пакрыўдзіць яго? Хіба «сінявокая» ноч, што ціха, па мяккай траве праходзіць... а за ёю

туман «быццам дым сіняваты з кадзіла.» Ніхто яго ня скрыўдзіць, бо ён усім скажа: «добрай ночы!» І сумна паплыве маладзік у небе вячэрнім, зялёным, як лёд». Бледа-сіні месяц сярод зялёнага, як лёд, неба! Хто бачыць такія колеры, колеры мудрасьці й спакою, той мае права

«Кінуць думкі аб долі гаротнай,
Хоць-бы на момант спачыці душой».

О, як любілі хворыя грудзі жыцьцё! Вядома, сваё жыцьцё,—пекнаты і харавтва! Жыцьцё на волі, дзе над галавой—

Дубоў павець.
Віднеюць неба, горы, поле
Праз ліcьцяў сець.
Тут, у яго жыцьці, усё добра:
«І блеск і цень,
«Той дзень, што мае нарадзіцца
І зьнікшы дзень».

М. Багдановіч—зачараваны месяцам «сомнамбул».

Выплыў месяц над змрочнай, заснуўшай зямлёй
І павёў яго ў цёмную даль за сабой
І прывабіў да мглістай, халоднай вады.
Сэрца білася рыбкай у сеці тады.
Але месяц правёў праз ракі сьветлы шлях,
І разьвеяўся з сэрца дрыжачага жах.
Зіхацела яна, серабра пуціна,
Увадзіла ў той край, дзе пануе вясна.
Доўга, доўга цябе ён чакаў і шукаў,
Але вось час жаданы нарэшце настаў...
І пайшоў ён па шляху, пайшоў аж да дна:
Агарнула яго цішына, глыбіна!..

Уся поэзія поэты-«сомнамбула» у гэтым вершы. Месяц—гэта яго поэтычнае натхненьне. Яно вывела яго да мглістай вады жыцьця. І забілася рыбкай сэрца песьняра перад гэтым бягучым жыцьцём-рэчкай, дзе столькі віроў барацьбы й няпраўды. Ён знайшоў дно, але ня звычайнае тваністае дно абывательства... яго дно—цішыня пазнаваньня, у якім зараджаюцца зерні нямінучай будучыны.

Поэта не дажыў да пары рэальна далучыцца да закладаньня цаглін будучыны—вось чаму з такой парыўнасьцю ён зацікавіўся «Старой Беларусьсю». У цішы гэтай мінуўшчыны, ён хацеў знайсьці той пластычны матар'ял, з якога іншыя маглі-б ляпіць сучасныя соцыяльныя формы. Гісторыя паглыбляе сучаснае. Яна дае пэрспэктыву ціхіх, як прысады, вякоў. Ён любіў уяднацца ў гэтыя прысады, каб разабрацца ў гаманлівым, але яшчэ ня выразным у яго часы, жыцьці. Зацікавіўшыся каранямі, ён тым самым як бы прапанаваў зірнуць і ў другі бок народнае культуры, у ствол і галіны, дзе пачынаюць покацца адросткі маладых пролетарскага характару патрэб.

Мінулае ў Багдановіча ня толькі апісваецца: яно жыве, праўда, без спарахнелых ужо костак... яно жыве, бо пясьняр аджывіў у ім пекнату.

«Так, рупная пчала ўмее мёд сабраць і з горкіх кветак».

Праз вякі прайшлі запісы й творы... І чаму-ж ня можа паўстаць з глыбокага гістарычнага сну і дзейнік усяго гэтага—чалавек!

«Парой ён спыніцца, каб лепей завастрыць пяро гусінае і гляне... Сьветла сонца стаўпамі падзе праз вузкае ваконца, і круціцца ў іх прыгожы, лёгкі пыл; рой хмарачак плыве; шырокімі кругамі ў небе ластаўкі шыбаюць над крыжамі. А тут, каля вакна, малінаўка пяе і стукае жаўна»...

Калі так моцна жыве мінулае, то і тое, чым мы напаўняемся сёньня, таксама пранясецца праз вякі—вось думка, выплываючая з вершаў Багдановіча.

Правадыр «зачараванага царства» быў надзвычайна вострым эстэтам. Усё пекнае, выразнае і плястычнае вабіла яго: глыбокая думка, музычны твор, золак майскай раніцы, яскрыстае віно!

«Мудрай прамовы мёд залацісты поўныя соты»—яму былі «да спадобы»—«але ня меней сэрцу панадны мёд сваім хмелем, сьветлым і тонкім».

Гэта старажытны грэк у беларускай вопратцы... Толькі грэкі ўмелі так разумець і любіць жыцьцё. Недарма наш беларусін-грэк любіў песьняра Анакрэона:

«Бледны, хілы усё-ж люблю я
Твой і мудры, і кіпучы верш, Анакрэон—
Верш такі, як дар прыроды—
Вінаграднае, густое, цёмнае віно:
Дні ідуць, праходзяць годы
Але ўсё крапчэй, хмяльнее робіцца яно!»

Сам пясьняр, як ні жадаў,—ня мог сьціць поўную чару жыцьцёвага хмелю... Апрача хваробы, пяшчотнасьць, нейкая дзявочая сарамлівасьць і глыбокі сум, што агартаў яго, калі ён выходзіў з свайго зачараванага краю ў край праўдзівы,—зрабілі тое, што й самае жывучае з пачуцьцёў—каханьне—ператварылася ў вобразы глыбока драматычныя. «Дзьве хмары—грымотная і празрыстая—жадалі зьліцца... ужо чырванелі ад жару... Але далёка іх вецер разьнёс, наляцеўшы нячутна. Дробным дажджом над зямлёй, як сьлязамі, адна пралілася... Гулкім раскатам грымотаў другая ў адказ адзвалася... І паасобку загінулі хмары бяздольныя тыя, чуючы ў небе, як вецер над сьмерцю іх радасна вые»...

* * *

Што мы, рэальныя працаўнікі, штодзённыя цагляры зможам знайсьці ў поэзіі «сноў і чараў?»

Мы знойдзем багата чаго карыснага. Надзвычайна выяўлены індывідуалісты і эстэт, Багдановіч не замкнуўся ў сваёй асобе. Творачы хараство, ён добра ведаў, што гэтым хараством ня кожны можа і мае права карыстацца. Што трэба яшчэ шмат зрабіць... Каб толькі хапіла сілы змагацца з «грамадзкім горам».

Але ён ужо й тагды ведаў, што пад шэрым попелам няяснасьці тагачасных палітычных адносін, «чырвоны жар гарыць».

Мы, пролетары, якія ўжо навучыліся любіць і разумець хараство, павінны берагчы і пільнаваць зярняткі яго, каб перадаць іх тым, што яшчэ толькі праціраюць вочы свае запатнелай далоньню.

**Міхайла Грамыка.**

17-IV 23 г. Менск

## Вечар твораў Цішкі Гартнага.

5 сакавіка ў Доме Працаўнікоў Асьветы адбыўся першы вечар твораў песьняра працы і змаганьня Цішкі Гартнага. Дзяцьмі працы была напоўнена заля дому, і шырокаю й доўгаю градою галоў яна выглядала. Відаць было, што беларуская літаратура, у прыватнасьці поэзія Цішкі Гартнага, глыбока пусьціла карэньні ў працоўныя гушчы.

З аглядамі матываў лірыкі Цішкі Гартнага выступае прафэсар Ігнатоўскі. Ён падрабязна адцінае ўсе моманты ў творчасьці Цішкі Гартнага. Ён падрабязна супыняецца на гэроях яго песень. Ён іх «пяе».—Два галоўныя моманты,—гаворыць т. Ігнатоўскі,—наскрозь пранізваюць лірыку Цішкі Гартнага. Яны вялікімі літарамі азагалоўваюць і зборнік песень Гартнага, выданы ў Бэрліне. Гэта—праца і змаганьне-барацьба. Яны, абняўшыся, праходзяць праз усю лірыку Цішкі Гартнага.—Гаворачы пра гэрояў песень, Ігнатоўскі падкрэсьлівае, што першым кідаецца ў вочы—гэта рыцар працы, вясковы працаўнік, вясковы пролетары, у якога няма ўласнасьці, які прымушан шукаць працы, прымушан для пражыцьця зарабляць. Поэта і пяе ня толькі аб працы селяніна-сяўца, касьбіта, жняі, а пяе пра працу работнікаў тых дробных прадпрыемстваў, якія рассыпаны па ўсёй Беларусі, пяе пра гарбара, грабара, каваля і ткачыху. Шчыра й праўдзіва ў песьнях пра гэтых апошніх адбівае пясьняр настроі, якія не падобны да настрояў жняі, што працуе хоць на вузкай, але на ўласнай ніўцы. Асабліва т. Ігнатоўскі вызначае «Песьню Грабара», які цэлы век свой капае зямлю. шукаючы там свае долі, а зямля ў адплату «з калючковых расьлінаў сплятае вяночак». Далей Ігнатоўскі супыняецца на песьнях, у якіх чуецца голас пролетарыя гарадзкога.—Пясьняр падмячае, што вёска кожны год нараджае пролетарыяў. Іх вёска выкідае з свайго кола, а горад усё шырэй расчыняе свае вароты. У «Калыснай Песьні» пясьняр пералятае ў новыя абставіны таксама цяжкай працы—«на завод, дзе машына енчыць, стогне», дзе «рамнёў піскі». Тут ужо і пачынаецца песьня гарадзкога пролетарыя, які знае, хто ён такі, знае, што жыцьцё не заб'е яго сілы, што праца ня згубіць яго, і ён верыць, што будзе барацьба і настане лепшая будучына. Гэтыя асноўныя матывы—праца й змаганьне—пранізваюць і індывідуальныя вершы пра каханьне. Шмат мейсца ў лірыцы Цішкі Гартнага займае краіна і прырода. Але ў гэтай апошняй ён любіць ня ціхую, спакойную, а любіць бурную, любіць буры і маланкі. Пяе Гартны й пра хатку, але такую, якая ня скажа, што яна з краю. Бура, якую любіць пясьняр, выліваецца ў рэвалюцыі, што прышла ад сох і станкоў. У ёй віхрыць і сам поэта і новага гэроя апявае. Гэта—камунар, што повен адвагі і «ад слоў яго ідзе агонь». Ва ўсіх матывах, якія пранізаны галоўнымі момантамі—працаю й змаганьнем—аддае рашучасьць і бадзёрасьць. Гэтым повен і сам пясьняр. Ён і жыве таму, што мае надзею на лепшую будучыну, якая настане з перамогаю працы.

Цішка Гартны—пясьняр рубежу. Ён увёў у беларускую поэзію новыя матывы. Ён—пролетары і пяе пролетарскія песьні,—закончыў т. Ігнатоўскі.

І з дакладам аб поэзіі Гартнага выступіў беларускі прафэсар Пятуховіч. Ён разглядае творы Цішкі Гартнага, як поэзію пролетарскую. Літаратура мае сацыяльную базу. З гісторыі мы бачым, што сацыяльныя адносіны адбіваюцца ў літаратуры, і гэта Пятуховіч вызначае як у заходня-эўрапэйскай літаратуры, так і ў літаратуры расійскай. У наш-жа час выходзіць новая кляса, вынікае й яе літаратура—пролетарская поэзія, на якой і адбіваецца пануючае становішча пролетарыяту, і якая захапляе ўсё шырэйшыя й шырэйшыя колы. Пролетарская поэзія вызначаецца з боку формы шукань-

нем гэтай апошняй, а з боку зьместу—новым, поўным веры ў будучыну оптымістычным зьместам. У сьветлую будучыну вядуць два шляхі: праца й змаганьне, што й займае галоўнае месца ў пролетарскай поэзіі. Праз горад, праз колектыўную працу да будучыны. Гэта аснова пролетарскіх поглядаў. Філёзофскаю-ж падкладкаю для пролетарскіх поэтаў ёсьць рацыяналізм. Яны ставяць і проблемы культуры, якія вызначаюцца ў трох напрамках. Пасьля такога ўступу Пятуховіч пераходзіць да поэзіі Цішкі Гартнага. На Беларусі няма глебы для разьвіцьця пролетарскай поэзіі. Але дзеля таго, што тут ёсьць многа дробных прадпрыемстваў, новыя матывы ўваходзяць і ў беларускую поэзію. Першым правадыром іх ёсьць Цішка Гартны—поэта-рэалісты. Жыцьцё, якое бурна навокал кіпіць—вось асноўная тэма песьняў Гартнага. Матывы працы й змаганьня—галоўнае ў яго поэзіі. Знаходзім у ёй і біографічныя рысы. Поэта рысуе моманты, якія сам перажыў; вось чаму вершы яго рэальны, шчырыя й беспасярэднія. Песьням гарбара мастацкае формы дадае сапастаўленьне брыдкіх умоў працы з харастве́м прыроды. Гэта зьбліжае Цішку Гартнага з расійскім поэтам Казіным. Наш поэта яшчэ зьвязан з вёскаю. Яго творы даюць нам поэтызацыю сялянскай працы. Гэта водгук народнай творчасьці, але ён у поэты стаіць асабняком. Больш за ўсё ў Цішкі Гартнага апісаньняў працы работніка, каторы яшчэ ня ведае працы арганізаванае. Гэта адзіночка -рамесьнік, якому цяжка за працаю, а яшчэ цяжэй без яе. І беспрацоўе цяжка ня толькі з матар'яльнага, цяжка яно й з маральнага боку. У вершах Гартны і расчыняе псыхолёгію працаўніка.—Разгледзіўшы й вызначыўшы песьні працы, Пятуховіч пераходзіць да песень змаганьня й зазначае, што агульная рыса гэтых апошніх—гэта рэвалюцыйны пафос. Тут і яскравыя алегорычныя вобразы поэзіі Гартнага: «полымя», «будова новай хаты», «чырвоны мак». Усе вершы Цішкі Гартнага бадзёрыя й оптымістычныя. І хоць у творах яго адбіліся ня ўсе матывы пролетарскай поэзіі, але Гартны здужаў даць мастацкую абрысоўку працы рамесьніка, здужаў даць дынаміку рэвалюцыі і гэтым укладае багаты скарб у беларускую літаратуру,—закончыў свой даклад праф. Пятуховіч.

Пасьля гэтага пад гром воплескаў выходзіць сам пясьняр Цішка Гартны і чытае главу з другое часткі раману «Сокі Цаліны»—«Касавіца ў Сілцох». Яскравыя малюнкі й вобразы перабеглі, здаецца, прад вачыма й перанесьлі туды, на касавіцу. А вось у вершы «Беларускі народ», прысьвечаным т. Ігнатоўскаму, праходзіць перад намі народ. Нарэшце верш «Я іду да ўсходу»—і вырысоўваецца, сьцелецца, здаецца, прад табою і сьцежка, тая вузкая дарожка, па якой ідзе поэта, а за ім імкнешся й сам.

Пасьля Гартнага вітае поэту Галубок, які ўспамінае той час, калі Цішка Гартны ад сяла да сяла з клумкам ішоў у Вільню і церабіў шлях да сонца.

Выступае і т. Дыла. Ён зазначае, што Цішка Гартны большасьць сваіх твораў прысьвячае апошняму пяцігодзьдзю рэвалюцыйнага жыцьця.—І тут мы бачым,—гаворыць т. Дыла,—як поэта зьвязан з рэвалюцыяй. Яго ідэал—Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка, якой Гартны й прысьвячае верш «Б.С.С.Р.». Пад гэтым сьцягам Цішка Гартны йшоў і йдзе далей наперад. Але самым лепшым творам, самым моцным вершам зьяўляецца маніфэст часовага рабоча-сялянскага правіцельства Беларусі. Я помню, як гарэў і палаў Гартны, калі пісаў гэты маніфэст, як прыйшоў час стварэньня Б.С.С.Р. Аб гэтым нельга забыцца ніколі. Цішка Гартны павінен нам рысавацца, як чалавек, які йдзе крок у крок з працоўнымі. Ён першы палажыў падмурак для новага жыцьця.

І першая частка вечару закончваецца, аж зьяўляецца т. Маразоўскі з нечарговаю заяваю аб пабудаваньні аэропляна «Савецкая Беларусь», які будзе абслугоўваць культурныя патрэбы Беларусі й будзе сымболем злучэньня Заходняй Беларусі з Беларусьсю Савецкаю, і кліча дапамагчы ў гэтым працоўных ахвярамі.

Гучныя воплескі стрэлі гэтую думку, і ў час перарыву вядзецца падпіска.

Пасьля перарыву артысты Б. Д. Тэатру гожа адыгралі адзін акт п'есы Ц. Гартнага «Сацыялістка».

Артыста Цэрах прадэклямаваў верш Гартнага «Паўстаньне», а Галубчанка—«Мне хочацца жыць».

Мілагучна паліліся песьні Гартнага, пераложаныя на музыку Равенскім і прасьпяваныя хорам.

А вось самавучка цымбалісты спрытна забегаў палачкамі па звонкіх струнах цымбалаў. Паліліся гукі лявоніхі, беларускага казачка, полечкі, кадрылі й шмат інш. І нарэшце гукі Беларускай марсэльезы ўзьнялі ўсю залю.

Скончыўся вечар сьпевам хору «Ад веку мы спалі...». І доўга вітала працоўная гушча, гушча працаўнікоў, вучнёўскай і студэнцкай моладзі й чырвонаармейцаў пролетарскага паэту Цішку Гартнага. Глыбака да сэрца іх дайшоў пясьняр працы і змаганьня. Ён першы пролетарскі беларускі поэта, ён першы залажыў падмурак для будовы новага жыцьця, і невыпадкова на яго вечары зьявілася, з яго творамі злучылася першая думка: падняцца, узьляцець працоўным Беларусі пад агульна сусьветны дах новай пролетарскай будовы. Гэта сымболь вялікай і сьветлай будучыны як працоўных Беларусі, так і іх беларускай літаратуры.

**А. Б—ка.**

## Ядвігін Ш. (А. Лявіцкі).

(*З прычыны гадавіны яго сьмерці 26 лютага 1922 г.*).

Год таму назад, 26 лютага 1922 г., памёр у Вільні вядомы беларускі пісьменьнік Ядвігін Ш. (Антось Лявіцкі).

Ядвігіна Ш. добра ведае кожны больш-менш знаёмы з беларускай літаратурай па яго вельмі выдатных апавяданьнях, якія зараз можна спаткаць амаль не ва ўсіх беларускіх хрэстаматыях і надрукованых асобным выданьнем.

Ядвігін Ш. радзіўся ў 1870 годзе ў двары Карпілаўцы, недалёка ад Радашковіч. Сярэднюю школу ён скончыў у Менску, а вышэйшую адукацыю атрымаў у Маскоўскім унівэрсытэце.

Будучы яшчэ студэнтам, ён выступіў на ніве беларускай літаратуры, як перакладчык лепшых твораў тагочасных выдатных расійскіх пісьменьнікаў, як, напрыклад, «Сыгнал» Гаршына.

Яшчэ за некалькі гадоў да таго часу, калі дазволена было выпускаць у сьвет першыя беларускія часопісі, Ядвігін Ш. напісаў драму «Злодзей», якая ня раз ставілася на сцэне, але, на жаль, дагэтуль яшчэ нідзе не друкавалася.

Пасьля першай расійскай рэвалюцыі у 1905 г. ён пачаў працаваць у Вільні, спачатку ў рэдакцыі „Нашай Долі“, а потым, калі гэтая газэта была зачынена ўрадам, у рэдакцыі «Нашай Нівы».

З 1909 году ён быў кіраўніком літаратурнага аддзелу «Нашае Нівы», у якой шмат зьмяшчаў сваіх твораў. У Вільні-ж Ядвігін Ш. выдаваў некалькі гадоў і самастойную беларускую часопісь «Беларус».

Далей праца Ядвігіна Ш. цягнецца ў Менску, дзе ён таксама прымаў гарачы ўдзел ва ўсіх беларускіх пэрыядычных выданьнях і нейкі час быў кіраўніком сялянска-гаспадарчага журналу ў беларускай мове «Саха».

У часе нямецкай вайны Ядвігін Ш. з вялікім посьпехам працаваў у шмат якіх менскіх беларускіх арганізацыях.

У апошнія гады літаратурная і грамадзянская праца Ядвігіна Ш. спынілася з прычыны яго хворасьці.

Ядвігін Ш. належыць да пакаленьня культ. белар. працаўнікоў 80-х і 90-х гадоў мінулага сталецьця.

Літаратурная праца яго пачалася, як ужо адзначана вышэй, яшчэ ў часы яго студэнцтва.

Ядвігін Ш. мае вялізарную значнасьць для беларускай літаратуры, як гумарысты, як аўтор казак-легэнд, сатырыстычных алегорый, а таксама і як аўтор сур'ёзных псыхолёгічных апавяданьняў, у якіх адбілася яго глыбокая і трагічная душа.

Як гумарысты, Ядвігін Ш. займае адно з першых месц у беларускай літаратуры. У яго творах мы бачым праўдзівы беларускі гумар. Часамі ён асьмейвае і селяніна (напр., у апавяданьні «З маленькім білецікам»), але ва ўсіх апавяданьнях яскрава праглядвае яго шчырае спагаданьне і вялікая любоў да яго.

Гумар вельмі часта сустракаецца ў яго творах і надта аздабляе іх.

Як аўтор казак-легэнд і сатырыстычных алегорый, Ядвігін Ш. таксама мае вялікую вартасьць. Жывасьць ёмкай беларускай мовы, прыказкі і вострыя слоўцы—усё гэта надта павялічвае каштоўнасьць гэтых яго твораў.

Але ўсе апавяданьні адзначанага зьместу трэба аднесьці да твораў для масы. Найвялікшую-ж вартасьць для беларускай літаратуры маюць тыя творы Ядвігіна Ш., у якіх чуваць крык яго ўласнай душы, у якіх выказаны думкі, вырваўшыяся інстынктыўна з яго сэрца.

Да такіх яго твораў належаць апавяданьні: «З бальнічнага жыцьця», «Зарабляюць», „Дуб-дзядуля“, вершы ў прозе—«Раны» і «Васількі» і інш..

На жаль, твораў адзначанага зьместу ў Ядвігіна Ш. мала.

Наогул, трэба сказаць, што ўсё, напісанае Ядвігіным Ш., вельмі ўзбагаціла беларускую літаратуру і прыдбала нябожчыку пачэснае месца ў шэрагу беларускіх пісьменьнікаў і песьняроў.

**Я. Журба.**

# Кнігапіс.

**„На зачарованых гонях"** *зборнік апавяданьняў* **Зьмітрака Бядулі.** *Выданьне Беларускага Коопэрацыйна-Выдавецкага Т-ва „Савецкая Беларусь". Менск, 1923 г.*; стр. 142 in 1/8.

**Зьмітрок Бядуля** раней стаў вядомым у беларускай літаратуры, чымся другі псэўдонім С. Плаўніка—**Ясакар.** Яго мастацкая проза ў форме кароткіх апавяданьняў адразу зьвярнула на сябе пільную ўвагу, больш таго—адразу патрапіла выбіцца на ўзровень таго, што было найлепшага ў беларускай літаратуры Нашаніўскае пары. А затым, раскіданая ў аграмадным ліку бадай-што па ўсіх беларускіх часопісах, літаратурных зборніках і іншых выданьнях, яна на працягу 10 з лішнім год бязупынна мільгае перад нашымі вачыма, паказваючы ў рознаколерным асьвятленьні ўсё новыя і новыя свае мастацкія асаблівасьці. Але, паўтараю, толькі мільгае. Бо, дзякуючы такой сваёй распыленасьці, яна не пакідала па сабе поўнага, так ці йначай аформленага ўражаньня, не дазваляла ў стасунку да сябе рабіць якіх колечы больш-менш трывалых абагульненьняў, не давала магчымасьці намаляваць нам больш-менш выразны і праўдзівы вобліз З. Бядулі, як мастака-прозаіка. Гэтым належыць і тлумачыць тыя няясныя, блядыя характарыстыкі яго прозы, якія мы сям-там спатыкаем у нашай літаратурнай крытыцы. *)

*) Гл. «Вялікодная пісанка» за 1913 г. Антон Навіна—„Нашы песьняры". Акад. Карскі—«Бѣлоруссы» т. III, выпуск III, стр. 365.

Найбольш конкрэтна, хаця не заўсёды правідлова, характарызуе яго прозу М. Гарэцкі ў сваёй «Гісторыі белар. літаратуры», і гэтая конкрэтнасьць зьявілася рэзультатам таго, што М. Гарэцкі, як гісторык літаратуры, прымушан быў сабраць у вадно месца прынамсі значную частку апавяданьняў З. Бядулі, каб абняць іх агульным аналітыка-сынтэтычным поглядам.

І толькі цяпер мы бачым частку яго мастацкай прозы, сабраную й выданую ў першым яго зборніку *«На зачарованых гонях.* *) Зьмешчаныя тут апавяданьні ўсе ўжо бачылі друк, пачынаючы з «Нашай Нівы» і канчаючы «Савецкай Беларусьсю». Але, нягледзячы на гэта, зборнік перачытваецца з вялікай цікавасьцю, бо толькі цяпер мы можам заўважыць тое, што раней было для нас скрыта, толькі цяпер мы можам пабудаваць тую ці іншую схэму, у рамках якой найбольш поўна і яскрава выяўляецца перад намі творчасьць З. Бядулі, як мастака-прозаіка. Ня месца тут спыняцца на аглядзе гэтай творчасьці, часткова выяўленай у разгляданым зборніку. Але мы ня можам адмовіцца ад таго, каб не падзяліцца хаця-б з некаторымі ўражаньнямі. На З. Бядулю ўстанавіўся погляд, як на *бытавіка*, які, малюючы скрайнюю і безнадзейную беднасьць беларускага селяніна, мае

*) Зборнік «Abrazki», выданы ў 1914 г. у Пецярбурзе бліжэй стаіць да вершаванай поэзіі, чымся да прозаічных апавяданьняў З. Бядулі.

на ўвазе падкрэсьліць социяльнае зло і нароўнасьць. *)

Нам здаецца, што такі погляд ня зусім правідловы. Быт у творчасьці Бядулі не займае першага й галоўнага месца. Кожны пісьменьнік-бытавік, адбіваючы быт тае ці іншае эпохі, краіны, народу, малюе самае *тыповае* ці то ў прыродзе, ці ў стасунку да народу. Але тыповае ў стасунку да прыроды ўласьціва ня толькі пісьменьніку-бытавіку. Прырода-апісальная лірыка кожнага наогул поэты і пісьменьніка мае ў сабе ў большай або меншай меры гэтае тыповае. Значыць, бытавіка-пісьменьніка характарызуе тыповае ў стасунку да быту чалавека, людзей, народу.

А дзе-ж гэтыя тыпы ў апавяданьнях З. Бядулі? Ні Ігналя з апав. «Сярод ночы», ні дзед Лявон з апав. «Дванаццацігоднікі», ні «Бондар», ні Янка з апав. «Дзе канец зямлі», ні Сьцяпанка з апав. «Вялікодныя яйкі», ні Ліканор з апав. «Злодзей» *)—а гэта адны з найлепшых яго апавяданьняў—не зьяўляюцца тыпамі. Усе яны надзелены ня тыповымі, а глыбока індывідуальнымі якасьцямі, усё гэта людзі, якія бадай-што ня маюць сабе двайнікоў. Праўда, галерэя гэтых індывідуальнасьцяў разьвінута на бытавым фоне, але ня быт зьяўляецца мэтай паэта. Псыхолёгія чалавека ў самых рознастайных момантах і абставінах, яго душэўныя перажываньні—вось галоўная рыса ў гэтых апавяданьнях. З. Бядуля настолькі любіць гэты псыхолёгічны аналіз, настолькі пагружаецца ў яго, што ўсё іншае мае характар проста дэкорацыйны. Быт беларускай вёскі, які даволі добра ёсьць знаёмы нашаму пісьменьніку, такім чынам зьяўляецца толькі дэкорацыяй. З другога боку вельмі характэрным для З. Бядулі зьяўляецца тое, што ён не прыдае ў сваіх апавяданьнях вялікага значэньня фабуле, сюжэту. Яно й зразумела: пагружаны ў сьвет псыхолёгічных перажываньняў, пісьменьнік запамінае аб чыста падворнай цікавасьці фабулы. Але гэта ня шкодзіць яго апавяданьням, а толькі яшчэ больш падкрэсьлівае перавагу гэтага псыхолёгічнага элемэнту.

Цяпер аб стылю. З гэтага боку проза З. Бядулі можа быць названа дасканалай. Лёгкасьць мовы, яскравасьць малюнкаў, трапнасьць параўнаньняў проста захапляюць нас. Асаблівай віртуознасьці ў гэтым сэнсе дасягае ён у апісаньнях прыроды.

Разгляданы зборнік пачынаецца апавяданьнямі, напісанымі ў канцы 1922 г. і ў сёлетнім годзе. Гэта—«Панскі дух», «На балоце», «Аднаго разу ў нядзелю». Усё, што мы вышэй казалі аб мастацкай прозе З. Бядулі, не датычча гэтых апавяданьняў. Тут З. Бядуля прабуе нейкімі рысамі адбіць ужо з надворнага боку сучаснасьць, прабуе адбіць быт рэвалюцыйнай эпохі; на апошнім пляне апынуўся тут псыхолёгічны элемэнт. І трэба сказаць, што пастаўленая пісьменьнікам мэта не ўдалася. Штучнасьць і ненатуральнасьць саміх сюжэтаў («Аднаго разу ў нядзелю»), блядасьць і прозаічнасьць малюнку, шорсткасьць і неапрацованасьць стылю, а найгорш—гэта белымі ніткамі шытая тэндэнцыя —вось як можна ахарактарызаваць пералічаныя апавяданьні.

Незразумелым для нас зьяўляецца, чаму аўтор надаў зборніку назову першага апавяданьня. «На зачараваных гонях» куды лепш падыходзіла-б да яго фантастыка-містычнай лірычнай прозы («Русалка», «Лясун», «Містэрыі» і інш.), чымся да зьмешчаных у зборніку апавяданьняў з рэалістычнай асновай.

Наогул-жа зборнік «На зачараваных гонях» зьяўляецца значным укладам у беларускае пісьменства, і застаецца толькі пажадаць, каб і іншыя апавяданьні З. Бядулі, якія ў гэтым зборніку не знайшлі сабе месца, пабачылі ў найхутчэйшым часе сьвет у далейшых зборніках.

**Аглядальнік.**

---

*) Гл. «Гісторыя беларускай літаратуры» М. Гарэцкага, стр. 183, 4 і 5.

*) Гл. «На зачарованых гонях».

**Уладзімер Дубоўка.** *Строма.* Нізка вершаў. 30 стар. Выданьне «Наша Будучына», Вільня. 1923 г.

У разьвіцьці беларускае літаратуры выпадалі цяжкія часы застою, калі, здавалася, яна спынілася на старых сваіх прадстаўнікох і ня мела надзей на прыход новых сілаў. Гэткія часы зьвязаны выразьней усяго з гадамі царскае вайны і нямецкай ды польскай акупацыяў Беларусі. Цяжкі прыгнёт, які вісеў над краінаю, давіў беларускі працоўны народ і фізычна і духоўна, засьцілаючы перад ім яго будучыну. Сум і жуда тупалі па спустошаных палёх горацешнага зруйнаванага краю і цьмілі сабою жадныя праявы надзеяў і жаданьняў. Куды было ў гэтыя часы заварушыцца думцы, каб ствараць песьні, калі вытыркала на першы плян пытаньне аб жыцьці, аб вызваленьні з цесна заціснутага ярма. І ня толькі ня мелася глебы для ўзросту новых лернікаў, а, нават, заціхалі пяяць ужо сталыя, загартаваныя ў гэтым, песьняры. Толькі час-ад-часу прыходзіла да іх муза й выціскала на іх лерах ці сумныя, ці фальшыва-бадзёрыя напевы.

Трэба было зьявіцца рэволюцыйнаму наступу з усходу, каб памеж са зьнішчэньнем акупацыйнага прыгнёту, расшавяліць духоўныя сілы беларускага працаўніка і даць ім магчымасьць да выяўленьня. І вось, калі Беларусь стала вольнай, калі беларускі працаўнік зрабіўся гаспадаром свае зямлі— тады зразу адчынілася вышэйшае яго духоўнай творчасьці.

Пачалася праца адбудовы звольненага краю. І гэта праца ўжо не магла праходзіць у спакойлівых умовах, без спраеоджаньня рэволюцыйным натхненьнем і сьвятошняю ўрачыстасьцю. Вольная Беларусь павінна адбудоўвацца пры бадзёрых песьнях маладых, перажываўшых вялікую сутнасьць глыбокіх здарэньняў гістарычнага пераваротy песьнярoў. Гэтыя песьняры і пачалі вынікаць на паверх новага жыцьця адзін за другім. Цэлы шэраг іх увабраў сабою беларускую пісьменнасьць апошніх гадоў... Адным з гэтага шэрагу ёсьць і Уладзімер Дубоўка.

Уладзімер Дубоўка—песьняр маладое Беларусі, яе адраджэньня. Ён цалкам прачут урачыстасьцю яе ўсходу на шлях вольнага, культурнага жыцьця. Не здарма-ж ён біўся ў радох чырвонае арміі за незалежнасьць Савецкай фэдэрацыі! І абараніўшы—трэба адраджаць...

З ветрам, яснай бліскавіцай у небе палящім,
Думкі, сэрца, кроў у жылах—ўсё мы адрадзім.
Толькі крыльле мне патрэбна, крыльле мне хутчэй! [1])

Уладзімер Дубоўка ня бачыць і смутнае плямінкі на целе Беларусі. Яна для яго—як паненка-маладухна, якую праводзяць да шлюбу пры песьнях і музыцы. У яго

Гудуць бары,
Віхрыцца дух і родзіць лятуценьні... [2])

У гэткім маладым, жыцьцёрадым настроі поэта «моліцца на Беларусь» і верыць, што

Тваім шляхом—прыйду ў шырокі сьвет,
Паміж людзей, народаў разальюся,
Бы вецер-зух у жыце, у аусе...

Поэта наўдзіў захоплен кіпеньнем жыцьця і песень, повен жаданьняў, сяганьняў, зыркіх надзеяў. Яму жыцьцё падарыла многа пэнту, сілаў многа, многа пазыву да нясупыннага руху. Яго асалода ў шуканьнях, у прагавітасьці прагляду ў будучыну.

Не жальбую, тых дзянькоў я не шкадую,
Што жыцьцё даўно развеяла, як дым...!! [3])

У яго

Песьні ліюцца крыніцай.

Ён прагне

У Беларусі быць вігціпай.

---

[1]) Стар. 8.
[2]) Стар. 9.
[3]) Стар. 17.

Свой кіпучы настрой поэта стараецца перадаць другім, завучы:

Кроў у нас хай закрынічыць,
Завіхрыцца дух вірам,
Хай імпэт наш чараўнічы
Бомкне гора пяруном. [1])

Уладзімер Дубоўка, у адлічча амаль не ад усіх беларускіх песьняроў, выступіў на шлях творчасьці рэзвым, жывым і бадзёрым. Гэта яго адзнака ня можа схавацца і ў тых вершах, дзе поэта прымае мінорны тон. Сама жуда і моркатлівасьць здаюцца незапраўднымі, бо граюць, мітусяцца, танцуюць і мэрам-бы гутораць у рэзьвістых музычных радкох рухавага тэмпу: «Мы ня жуда, а замашчанае вясельле». Так, вясельле! Яго ноч горне да сябе міласьцю ветлівых вобразаў, белай, малочнай хварбы, цымбалаў сьпевамі. Хоць на небе хмары, а ўнізу «пах, квяцісты ложак».

Жыцьцё—гарэлкі пеннай чарка.

У гэткім настроі поэта ўвайшоў у лоньне беларускай літаратуры і ўхарошыў яе сваім мілагучным, гарманічным вершам.

Верш Уладзімера Дубоўкі, апроч музычнасьці, варожыць яшчэ й сваёю сочнасьцю, багацьцем прыгожых вобразаў, нібы зложаных з рознамульнага галёну (бісер). З-за гэтых вартасьцяў зусім не прыкмячаюцца рэдкія няроўнасьці ў рытме, не выдаюцца слабасьці рыфмы. Многае з гэтых недахватаў быццам-бы знарок унесена аўторам, каб прыдаць вершу больш самотнасьці. Тыя-ж лёгкія заганы, якія праскаўзнулі між волі паэты—пэўна ў далейшым ня знойдуць месца. Гэта можна спадзявацца, бо першы выступ выразна кажа, што Уладзімер Дубоўка надзелены багатымі скарбамі талентнасьці, якая абяцае нам шмат пекных напеваў яго музы.

Чытаючы невялічкую нізку вершаў УладзімераДубоўкі,ахрышчаную назвай «Строма», цешышся за тыя скарбы, якія заложаны ў беларускім працоўным народзе і якія пачынаюць вынікаць на паверх жыцьця, каб тварыць яго вольную працоўную культуру. Хто ў сілах супыніць яе разьвіцьцё?

Кніжачка выдана добра, на дарагой паперы і выразна надрукавана.

Ц. Г.

[1]) Стар. 23.

## Хрыстаматыя Беларускае літаратуры М. Гарэцкага.

**XI век—1905 год. Прагледжана Выдавецкай Камісіяй Беларускага Навуковага Таварыства.** *Выданьне Віленскага Беларускага выдавецтва Б. Клецкіна. Вільня, 1922.*

Як відаць з прадмовы, «Хрыстаматыя» дапасована да падручніка таго-ж аўтара «Гісторыя Беларускай літаратуры» і мае мэтай дапаўняць яе з боку літаратурных узораў. Але гэтае дапасаваньне праведзена аўторам з такой сьцісласьцю, што ўсе недахваты «Гісторыі Беларускай літаратуры», асабліва з мэтодолёгічнага погляду, знайшлі сабе прытулак і на старонках «Хрыстаматыі». Перш-на-перш—гэта распыленасьць «Хрыстаматыі»—асабліва тае яе часткі, якая датыча старажытняга пісьменства. Як відаць, аўтор кіраваўся поглядам, усяго патрошку. Тут мы спатыкаем розную дробязь, як, напр.: „Сьвятаславаў Ізборнік», «З кронікі Івана Малалы», «З кронікі Ягора Амартола», «З апокрыфу аб Адаме і Еве» і г. д. Усяго гэтага прыводзіць аўтор толькі па некалькі радкоў. Паўстае запытаньне: якую меў на ўваве аўтор мэту? Літаратурнага матар'ялу гэтыя разарваныя радкі не даюць; асаблівасьцяў мовы гэтак сама ў іх улавіць нельга. Калі-б хоць былі захаваны аўторам палеографічныя асаблівасьці, то ў такім выпадку гэтыя адрыўкі мелі-б нейкі raison d'etre. З другога боку найбольш буйныя помнікі белар. старажытняга пісьменства—«Прадмова» Васіля Цяпінскага або «Прамова» да катахізісу С. Будвага — пададзены ў «Хрыстаматыі» толькі ў адрыўках. Нам здаецца, што заданьнем літаратурнай хрыстаматыі ёсьць знаёміць

ня з усім тым, што калі-колечы было напісана, а з характэрнымі і тыповымі для розных момантаў узорамі літаратуры. Асабліва датыча гэта беларускай старажытняй літаратуры. Даць некалькі найбольш характэрных і тыповых узораў ня ў выглядзе кароценькіх адрыўкаў, а памагчымасьці паўней—зусім здаволіла-б вымаганьням гісторыка-літаратурнай хрыстаматыі.

У разьдзеле «Стара-шляхоцкія рамантыкі» спатыкаецца прыкрая недакладнасьць. На стар. 95 падаецца адна з легэнд Я. Баршчэўскага, пры чым не агаворана, што гэта пераклад Я. Станкевіча з польскае мовы, у якой пісаў свае фантастычныя легэнды-апавяданьні Я. Баршчэўскі.

Залішне шмат месца адведзена ў «Хрыстаматыі» пад творчасьць А. Пшчолкі, дзякуючы чаму робіцца ўражаньне, што А. Пшчолка ў нашай літаратуры займае значнае месца, што, бязумоўна, далёка ня так.

Ня гледзячы аднак на падобныя недахваты, «Хрыстаматыя» М. Гарэцкага ў цэлым мае сваю вартасьць. Аўтор згуртаваў у ёй шмат літаратурнага матар'ялу, недаступнага ў сваіх крыніцах шырокаму грамадзянству і асабліва неабходнага для школы.

**Настаўнік.**

**К. Езавітаў.** *Становішча беларускае школы ў Латвіі.* Вільня, 1923 г.

У сваёй невялічкай кніжачцы, якая зьяўляецца адбіткам з газэты «Новае жыцьцё», К. Езавітаў прыводзіць шмат цікавага матар'ялу аб культурным руху беларускага жыхарства, як нацыянальнай меншасьці „дэмократычнай Латвіі“. Ачуўшыся раптам падданым зусім новае дзяржавы, беларуская сялянства (а яно й складае ў Латвіі амаль ня ўсю беларускую меншасьць) вымушана было шукаць выйсьця да культуры й самапазнаньня праз родную школу. Але ня так лёгка ўдалося дамагчыся яе. «Дэмократычнае правіцельства» Латвіі, аднэй рукою даючы мізэрныя сумы на беларускую школу, каб у вачох каго трэба паказацца ахавайцам правоў меншасьцяў, другою рукою вяло змаганьне з пашыраючымся беларускім рухам. Гэтак латышская адміністрацыя забараняла (і цяпер забараняе) ставіць спэктаклі на беларускай мове, больш упартых у беларусіцызьме настаўнікаў абвінавачвала, як палітычных праступнікаў, і цягала па палітычным аддзелам (ахранкам). Разам з гэтым супроціў беларускай школы вялі (і вядуць цяпер) змаганьне польскія памешчыкі й буржуі і расійскія чыноўнікі й купцы, якіх засталося ў Латвіі досі. Усё-ж гэтыя цяжкія ўмовы, як сьведчыць аўтор, перамагліся беларускім жыхарствам Латвіі, і яно адваявала шмат чаго ў справе роднай школы. К канцу 1921--22 г. г. налічвалася ў Латвіі 46 аснаўных беларускіх школ з 3500 вучнямі і аднагадовыя настаўніцкія курсы. З 1923 году дадалося дзьве сярэдніх школы (у Дзьвінску й Люцыне) і сельска-гаспадарчая школа ў тым-жа Дзьвінску. Каля 60 проц. аснаўных школ перайшло цалкам на беларускую мову. Зараз, як падлічвае аўтор, прыходзіцца адна беларуская школа на 1324 беларусаў.

Поплеж з гэтымі падлікамі ў справе школьнай, К. Езавітаў сабраў данныя аб колькасьці нацыянальнасьцяў, якія жывуць у Латвіі, сярод якіх беларусы займаюць другое месца, маючы ўперадзе велікарусаў і складаючы лічбу ў 66.194 чал.

Апроч гэтага ў кніжачцы аўтор кратае агляд нацыянальнага жыцьця беларусаў у Латвіі да 1905 г. і разьвіцьця беларускага руху наогул, што робіць працу больш сачнейшай. Кніжачка напісана старанна й грунтоўна і поўна дасягае мэты—інформацыі чытача аб становішчы беларускае школьнае справы ў Латвіі. З надворнага боку кніжачка выдана добра.

N.

**Сцэнічныя творы.** *Кніжка першая. Выданьне Беларускага Коопэрацыйна-Выдавецкага Т-ва «Савец-*

*кая Беларусь». Менск, 1923 г. стр. 83 іп.* ¹/₈.

Кніжка гэтая зьяўляецца толькі першым крокам у тым пляне, які закрэсьліла перад сабой выдавецтва «Сав. Беларусь». А плян гэты такі: «Прымаючы пад увагу вялікае за апошнія часы запатрабаваньне на беларускую сцэнічную літаратуру, і зважаючы на тое, што гэтае літаратуры вельмі мала надрукавана, хоць у рукапісах і многа ёсьць яе—выдавецтва «Сав. Беларусь» пастанавіла прыйсьці на падмогу маладому беларускаму тэатру і выдаваць па сіле магчымасьці беларускую сцэнічную літаратуру пад агульнай назвай „*Сцэнічныя творы*“...

У дальнейшых кніжках будуць зьмешчаны арыгінальныя драмы й камэдыі Галубка, Цішкі Гартнага, Аляхновіча і інш., пераклады Ф. Ждановіча і г. д.»—чытаем мы ў прадмове да кніжкі. Як бачым, заданьні пастаўлены шырока і якраз упару. Аднак, ці ў поўнай меры здавальняе гэтым заданьням кніжка першая «Сцэнічных Твораў?» Нам здаецца, што ня зусім.

У кніжку ўвайшлі наступныя п'есы: «Прымакі» Я. Купалы, «Мікітаў лапаць» М. Кудзелькі, «Пінская шляхта» В. Марцінкевіча і тры п'ескі Л. Родзевіча — «Зьбянтэжаны Саўка», «Пасланец» і «Конскі Партрэт». Першыя тры п'есы друкаваліся толькі ў часопісях, дзякуючы гэтаму ў сучасны момант ядыным спосабам іх распаўсюджаньня зьяўляецца асобны зборнік —значыць, яны маюць поўнае права на сваё месца ў разгляданай кніжцы. Што-ж датыча трох п'есак Л. Родзевіча, то яны выданы ў Вільні асобным зборнікам і другі ўжо год, як распрадаюцца ў Менску ў кнігарні Выдавецтва „Савецкая Беларусь“; вялікі запас гэтага зборніку маецца й па сёнешні дзень у кнігарні Т-ва.

Датычна п'есак можна сказаць, што з сцэнічнага боку яны зусім надаюцца для вясковага тэатру, лёгкія да пастаноўкі. З боку чыста драматычнага яны гэтак сама з цікавасьцю глядзяцца на сцэне. Асабліва гэта датыча «Прымакоў» Я. Купалы. З ідэйнага боку яны бадай што нічога з сябе не прадстаўляюць.

**Аматар.**

**Роднае Слова.** *Другая пасьля лемантара кніга да чытаньня. Пад рэдакцыяй* **С. Некрашэвіча.** *Выданьне Белар. Коопэр. Выд. Т-ва «Савецкая Беларусь». Менск, 1922. Стр. 162. 8º.*

Кніга да чытаньня «Роднае Слова» мае на мэце даць адпаведны вымаганьням сучаснае школы матар'ял для распрацоўкі на лекцыях роднае мовы. Падручнік гэты, наогул кажучы, стаіць значна вышэй іншых «Другіх чытаньняў», якія дагэтуль ужываліся ў беларускіх школах. Матар'ял у ім падабраны лёгкі, зразумелы, які ў той самы час мае вялікае ўзгадавальнае значэньне: разьвівае грамадзкія інстынкты, любоў да людзей, да прыроды, самаахвярнасьць ды значна пашырае кругавід дзяцей, тлумачачы часта ў форме апавяданьняў, розныя зьявішчы прыроды й грамадзкага жыцьця. У большасьці матар'ял гэты ўзяты з арыгінальных беларускіх твораў, досіць многа ёсьць і перакладных рэчаў; на жаль толькі саўсім ня зьвернута ўвагі на народную поэзію, няма ніводнае народнае казкі, песьні, нават, прыказкі, а трэба ўсё-ж прызнаць, што гэткі матар'ял быў-бы ў падручніку беларускае мовы вельмі няліпшым. Апавяданейкі, з якіх складзена кніга (ёсьць іх каля 160), за невялікім выняткам, кароткія, дапасаваныя і па велічыні і па зьместу да веку дзяцей. Разложаны ўвесь матар'ял на 7 аддзелаў: 1) Сям'я і школа, 2) Поры году, 3) Сярод жывёлін, 4) Сярод расьлін, 5) Няжывая прырода, 6) Па беламу сьвету і 7) Ў грамадзе. Асабліва цікавы апошні аддзел, мэтаю якога ёсьць даць паняцьце аб асноўных грамадзкіх пытаньнях сучаснасьці. Перад усім у некалькіх артыкулах ды апавяданьнях тлумачыцца паходжаньне і сутнасьць рэлігіі ды забабонаў. У далейшых артыкулах і вершах робіцца спроба растлумачыць дзецям галоўныя

мэты й здабыцьці рэвалюцыі. Зьмяшчэньне гэтага аддзелу надае асаблівае вартасьці кнізе; шкада толькі, што сацыяльныя пытаньні не распрацаваны больш вобразна і зразумела для дзяцей усё-ж досіць раньняга веку. Добра было-б прыкладам у нейкіх просьценькіх апавяданьнях раскрыць хоць маленькую частку тых супярэчнасьцяў, якія тлеюць у капіталістычным грамадзянстве, паказаць вучню ў наглядных вобразах жыцьцё і змаганьне пролетарыяту—як вясковага, так і меставага; тады-б і здабыцьці рэвалюцыі ды наш сучасны палітычны лад зрабіліся-б для дзіцяці больш зразумелымі і больш цэннымі.

Кніга, на жаль, выдава саўсім бяз рысункаў, што моцна ёй шкодзіць. Рысункі ў дзіцячых кніжках—ня збытак, а самая канечная патрэба. Яны прывучаюць дзяцей любіць і шанаваць кніжку, а пры звычайным у нашых вясковых школах недахваце наглядных дапамогаў зьяўляюцца бадай ці не адзіным спосабам зрабіць школьную навуку больш нагляднай і жывою. Нам здаецца, што выдавецтва аб гэтай справе павінна-б вельмі пільна парупіцца.

Ня глядзячы на тэтыя дробныя недахваты, кніга, бязумоўна, зьяўляецца цэнным здабыцьцём для беларускае школы і сваёй сыстэмаю ды падборам матар'ялу шмат дапаможа ў цяжкой і адпавядальнай працы беларускага настаўніка. Зараз кніжка друкуецца другім выданьнем.

**А. Смоліч.**

«**Жизнь национальностей**».— *Ежемесячный журнал по вопросам политики, экономики и культуры национальностей.* Книга вторая. 1923. Издание Народного Комиссариата по делам национальностей.

Гэта часопісь перарадзілася са штотыднёвай газэты, якая выдавалася да пачатку гэтага году на працягу чатырох з лішнім гадоў тым-жа Камісарыятам па справах нацыянальнасьцей. Як і першая кніжка часопісі «Жизнь национальностей», другая кніжка багата зьмешчана розным матар'ялам, як тэорэтычнага характару, гэтак і інформацыйнага па нацыянальнаму пытаньню водлуг яго вырашэньня ў цяганіне будаўніцтва Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Найбольш багаты аддзел інформацыі, у якім можна знайсьці поўны адбітак культурнага, экономічнага і іншага бакоў жыцьця многіх нацыянальнасьцяў, як саюзных, гэтак і аўтономных рэспублік і вобласьцяў.

Так сама цікавен і аддзел «Библиография», у якім сабрана як ўся выйшаўшая за апошні час літаратура па розных пытаньнях нацыянальнага жыцьця на расійскай мове, гэтак і многае што з нацыянальных выданьняў. Аддзел «Библиография» удачліва дапаўняе «Список книг и периодических изданий, поступивших в редакцию», у якім чытач можа ўбачыць становішча друкарскае справы кожнай нацыянальнасьці.

Панашаму, водлуг інформацыйнага матар'ялу «Жизнь национальностей» бедна матар'ялам прынцыповага характару з дзядзіны высьвятленьня нацыянальнага пытаньня, як гэткага, нацыянальнай культуры (школа, тэатр) і інш. Бяз грунтоўных артыкулаў адмечанага характару часопісь цярае ў саліднасьці і ня можа адыйсьці далёка ад яго бацькі—штотыднёвіка-газэты. Так сама было-бы пажадана ў кожнай кніжцы даваць па некалькі апавяданьняў і вершаў у расійскім перакладзе з нацыянальнай літаратуры.

Што датыча тэхнікі выданьня, то тут ня трэба хацець нічога. Часопісь выдана на добрай паперы і справоджана пекнаю вокладкаю.

**З.**

# Хроніка Беларускай Культуры.

### Кузьня сьвежых сілаў.

Цяга беларускай моладзі да асьветы шырокаю паводкаю разьлілася па абшарах Беларусі. Доўгімі шэрагамі пацягнулася яна з цёмных вёсак у культурныя асяродкі Савецкае фэдэрацыі, прагавіта ловячы праменьчыкі ведаў і знаньняў.

Дзе-дзе цяпер нямашака беларускіх студэнтаў! У якіх куткох вы не спаткаецеся з імі! Але, як тое й павінна быць, больш усяго прыцягаюць да сябе два асяродкі-гарады—гэта Масква й Петраград. Гэтыя два цэнтры цяпер ужо новае пролетарскае культуры стаяць наперадзе ў разгоне культурнага карабля, які пушчан Савецкаю ўладаю на ўсю пару.

Масква й Петраград абагачаны дзесяткамі розных вышэйшых навуковых школаў. Няма, здаецца, гэткай дзядзіны жыцьця, каб яна не ўзглаўлялася вышэйшаю школаю. Ёсьць ужо ў маладой Савецкай фэдэрацыі гэткія Вузы, якіх дасюль яшчэ ня мае й ніколі ня мела шмат апярэдзіўшая нас культураю Заходняя Эўропа.

І вось, усе гэтыя Вузы бітком напіканы студэнцтвам. Многа тысячаў сялянскіх хлопцаў і дзяўчат перасыпаюць гушчы гарадзкое публікі. Бля дыя, дрэнна адзетыя, вымушаныя цярпець розныя недахваткі, забылі дзеці рабочых і сялян усё—для навукі.

Але ў заданьнях навукі для працоўнай беларускай моладзі, закінутай далёка «ад родных гоняў», уложана адно грунтоўнае пытаньне—гэта *пазнаньне свае краіны*. Беларусь для сябе ня жыла. Яе імя й яе твар адкрыла Савецкая ўлада, рабочыя й сяляне. Толькі чатыры гады, як сталася гэта вялікае гістарычнае здарэньне—і, кэўна, так мала гэтага часу, каб знайсьці сілаў, магчымасьці пазнаць яе твар, абмыць яго ад заскарузласьці вясковага прыгнячэньня, разгусьціць струхлае, задымнае паветра насустрэч лучам узыходзячага сонца шчасная будучыны.

Дзеля гэтага патрэбны сілы: веды і змаганьне. Дзеля гэтага патрэбна крыніца новае рэвалюцыйнае культуры. Хто-ж пап'е яе жыцьцёдаўчую вільгаць? Праз каго павінна праліцца яна на глебу ўстаўшай да новага сьветлага жыцьця Савецкай Беларусі?

Праз работніча-сялянскую моладзь, вядома. Вялікая місыя адраджэньня працоўнай Беларусі ляжыць на працоўнай беларускай моладзі!

І беларуская працоўная моладзь гэта ясна асазнае. Яна клапатліва, няміпуча, заўсягды і ўсюды становіць у парадак свае працы радзімаведаньне. У Менску, у Маскве, у Петраградзе...

У апошнім беларуская работніцка-сялянская студэнцкая моладзь пасьля доўгіх старэнных і руплівых захадаў, якія цягнуліся праз цэлы год, толькі ў канцы сакавіка месяца афарміла справу адчыненьня беларускай студэнцкай асоцыяцыі. Праз цэлы год ініцыятыўны гурток студэнтаў-беларусаў

саў Агранамічнага Інстытуту абіваў парогі розных беларускіх дзеячоў, просячы іх узяць на сябе кіраўніцтва, ці па крайняй меры, арганізацыю беларускай студэнцкай моладзі. Але ўсе яны (дзеячы) па розным прычынам ухіляліся ад гэтага, як Карскі, Сержпутоўскі і інш. Толькі памог ім адзін Е. Канчар. Ён пасобіў выпрацаваць статут і намеціць плян чыннасьці асоцыяцыі. Усё-ж адпак ініцыятары не маглі цалкам уцягнуць да працы ў ёй нікога старонньяга. Ім прышлося ўзяць справу арганізацыі асоцыяцыі на сябе саміх. Так яны й зрабілі. І вось, пасьля некаторае падгатоўкі, ініцыятыўная грамадка са студэнтаў: Рамановіча (камуністы), Казловіча (камуністы), Краскоўскага (непартыйны) і інш. склікала на 25 сакавіка агульнагарадзкую нараду студэнтаў-беларусаў усіх Вузаў г. Петраграду. Ня гледзячы на слабае, неналаджанае апавяшчэньне (праз маленькія, ад рукі напісаныя абвесткі, разьвешаныя ў будынках Вузаў), у клюб студэнтаў Сельска-Гаспадарчага Інстытуту (Сергіеўская, 7) к адмечанаму часу сабралося да паўтараста чалавек.

Гэта съведчыла, што пытаньне аб асоцыяцыі глыбока зацікавіла ўсіх, і калі абраны прэзыдыум, пасьля дакладу студ. Краскоўскага, пастанавіў пытаньне аб патрэбе гэткай асоцыяцыі—то ўсе, як адзін, паднялі за гэта рукі. Не знайшлося ніводнага студэнта, які-б хоць заікнуўся супроціў.

Толькі праз некі час прышлося спыніцца на вырашэньні пытаньня аб узаемаадносінах між зямляцтвамі й асоцыяцыяй. Мэты-ж апошняй усім прысутным, за малым выключэньнем, высьвяціліся самі сабою. Усе прамоўцы (а іх было вельмі многа), заклікалі таварышоў іці ў асоцыяцыю, праз якую патрэбна ўзяцца за высьледжваньне й пазнаньне Беларусі, беларускай гісторыі й беларускай літаратуры, этнографіі, народнага эпосу і інш. «Перад намі стаяць вялікія заданьні,—казаў Сеньніцец Духаўскі:—наша Беларусь ні з якага боку не абсьледавана дагэтуль. Яна бядней усіх часьцей Савецкае фэдэрацыі. І мы, атрымаўшы пазнаньне, мусім вярнуцца дамоў, каб высушаць вагромныя абшары балотаў, каб будаваць дарогі, каб вызнаваць усе бакі жыцьця нашага працоўнага народу і памагаць змагацца за яго паляпшэньне». Некаторыя абварачвалі погляды ў бок беларускага Савецкага правіцельства, каб яно прыняло на ўвагу шчырыя пазывы свайго студэнцтва й прышло на дапамогу ў яго працы. Ніхто не сумляваўся ў цесным супрацоўніцтве з Савецкаю ўладаю. Ды ці-ж магло быць сумленьне ў тым хоць у аднаго студэнта? Дарэмна думаць! Зьлітная грамада сялянскай моладзі—то ня бывалашнія сынкі купцоў, памешчыкаў, папоў і інш...

Савецкая ўлада, Савецкая Беларусь —вось для каго й на каго сышліся беларускія студэнты выпрацоўваць плян свае працы... Гэта яны падмацавалі выбарамі ў часовую ўправу асоцыяцыі шасьцёх таварышоў камуністоў і рэшту старых працаўнікоў у ровных беларускіх культурных арганізацыях.

Пасьля выбараў часовае ўправы нарада запрасіла выпадкова папаўшага на яе т. З. Жылуновіча паінформаваць удзельнікаў нарады аб культурным, палітычным і экономічным становішчы Савецкае Беларусі, што было й зроблена. Інформацыя падняла настрой і зацікаўленасьць і т. Жылуновічу было зададзена шмат пытаньняў па розным галінам. Усьлед за гэтым т. А. Уласьціновіч паведаміў у кароткіх рысах аб беларускім рэвалюцыйным руху сярод пецярбурскіх рабочых.

У канцы нарады было парашано паслаць прывітальную тэлеграму Соўнаркому Беларусі.

Нарада зачынілася пяяньнем Беларускае Марсэльезы.

---

Першага красавіка адбылося першае сабраньне асоцыяцыі студэнтаў-беларусаў у памяшканьні клюбу Сельска-Гаспадарчага Інстытуту.

На гэтым сабраньні Е. Канчар зрабіў даклад аб глебе Беларусі, а З. Жылуновіч паведаміў студэнтаў аб

сучасных напрамках у беларускай літаратуры. Таксама па просьбе сабраньня З. Жылуновічам былі прачытаны свае вершы і вершы М. Грамыкі, сустрэтыя сабраньнем бурнымі воплескамі.

На гэтым-жа сабраньні сябар часовае ўправы асоцыяцыі паведаміў яе сяброў аб зацьвярджэньні Петраградзкім Іспалкомам Статуту асоцыяцыі беларускіх студэнтаў Вузаў г. Петраграду.

**К—н.**

### 3-ці вечар «Полымя».

Сьцішна загаманіў Дом Працаўнікоў Асьветы ў панядзелак 16 красавіка. 7 гадзін—вечар „Полымя". На вуснах цікавы артыкул т. Дзяржынскага—«Беларусы» Е. Ф. Карскага, зьмешчаны ў другім нумары «Полымя». Ёсьць што разабраць і разглядзець. Дзяржынскі крытыкуе «вядомага» прафэсара і акадэміка Карскага. Вучань крытыкуе працу, быць можа, свайго настаўніка. І вось заля Дому час-ад-часу напаўняецца й абнімае ўсё новыя й новыя зьлятаючыяся гурткі й групы настаўніцтва й студэнцтва. І вечар адчыняе т. Жылуновіч, даючы слова Дзяржынскаму для дакладу тэзісаў свайго артыкулу. За катэдраю зьяўляецца крытык. У кароткіх словах перадае т. Дзяржынскі зьмест свайго артыкулу. Вядомы беларусазнаўца, прафэсар і акадэмік Карскі, кажа т. Дзяржынскі, вядомы аўтор працы пад агульнаю назваю «Белорусы» у апошнім выпуску гэтае працы (Белорусы, т. III вып. III) узяў на сябе падвойную ролю, як гісторыка новай беларускай літаратуры і як гісторыка беларускага нацыянальнага руху. І, заместа об'ектыўнанавуковага разгляду гэтых галін, дае павярхоўныя нарысы, робіць падыход суб'ектыўна-тэндэнцыйны і выяўляе свой твар, асабліва ў апошнім пытаньні, як чалавека не навукі, а палемікі, як чалавека з разьбітае старадаўняе «талеркі». І т. Дзяржынскі на прыкладзе паказвае, як робіць разгляд Карскі творчасьці Купалы. Пасьля ўвагі, што яго дапоўняць другія таварышы і быць можа высунуць новыя пытаньні, выступае т. Жылуновіч. Ён адзначае тую чорнарызную падкладку, на якой выхоўваўся Карскі і дзякуючы якой дасягнуў прафэсарства й акадэміцтва. «Дык і „песенькі" пеў Карскі ў угоду таму, на чыім возе ехаў. У бытнасьць рэктарам Варшаўскага Унівэрсытэту Карскі адначасна зьяўляецца ідэёвым прыхільнікам «ісьціна-рускіх» арганізацый і старанна падтрымлівае й дапамагае русіфікатарскай палітыцы царскага ўраду». Разглядаючы-ж працу Карскага на ніве беларусазнаўства, Жылуновіч кажа: «Адна мэта праследуецца праз працу, асабліва праз апошні выпуск „Белорусы"—гэта дыскрэдытаваць беларускі рух перад вучоным сьветам ды ня толькі Расіі, але й усяго сьвету. Карскі, як сам прызнаецца, ужо скончыў працу па беларускаму пытаньню. За гэтую працу, як апошнюю, лепш-бы ён і зусім ня браўся: яна ня ўзложыць яму вянка, вянка беларусазнаўцы. Гэта цэбар гразі, які ён вылівае сам на сябе. І хібіць праца Дзяржынскага, што ня ў поўнасьці раскрывае палітычны твар Карскага, які так яскрава адбіваецца ў «Белорусах, т. III вып. III», закончвае т. Жылуновіч.

Падасьпявае й тав. Дыла. «Капні мінулае Карскага», кажа ён, «і ўбачыш, што ён быў тым навуковым рупарам, праз які «навукова» рычэлі тры кіты царскага самаўладзтва: «самодержавие», «православие» і «народность». Пэўныя палітычныя думкі знаходзілі ў Карскім навуковае апраўданьне, да якога й зьвярталася расійская адміністрацыя. Ёсьць артыкулы, якія сьведчаць, што пачаў Карскі з чорнасотніцтва, што ён дапамагаў адміністрацыі грунтавацца, быццам-бы, на навуковых досьледах у русіфікатарскай палітыцы». Далей т. Дыла, успамянуўшы рэктарства Карскага, калі ён быў, як кажуць, консэрватарам і калі «далікатна» выказваў ён свае думкі,

успамінае пра ліст у кніжачцы Караткевіча «Беларусь і беларусы», у якім Карскі выказвае свае адносіны да беларускага руху, і, нарэшце, пераходзіць да агляду працы Карскага па старажытнаму беларускаму пісьменству. «Ён і тут», кажа Дыла, «шукае ізьмены „ісьцінна-рускаму“. Разглядаючы пераклады сьв. пісьма з жыдоўскага, ня могучы нічога сказаць на-конт самога перакладу, Карскі так вызначае іх мэту: «такія-жа кніжкі «были переведены, чтобы соблазнять западноруссов в истинной вере православной». Гэта ён мкнецца давесьці праз усю кнігу і, не давёўшы, у канцы кнігі кажа: «трудно доказать, что это так, но нужно предпологать, что это так».

«Ёсьць працаўнікі, ня кажучы пра маладых», закончвае сваю прамову Дыла, «для якіх істнуюць аўторытэты. Адным з апошніх хоча быць і Карскі, але ў сваім паслесловіі к III вып. III тому «Белорусов» ён столькі падсыпаў перцу й солі, што яно аддае пахам дзёгцю. І кожны, хто зьвяртаецца да працы Карскага, павінен крытычна расшуфлёўваць сьцежку, каб знайсьці што-кольвек карыснае й цэннае».

А вось і сам «Карскі». Жылуновіч чытае вынятку з «Белорусов» аб творчасьці паэты Кудзелькі-Чарота, і падыхае на паўнюткую залю рэакцыйнасьць Карскага. А Дыла вычытвае пра творы Жылуновіча-Гартнага, якому Карскі як у загану ставіць тыя гумарыстычна-сатырычныя вершы на асколкі разбуранага царызму і не знаходзіць нічога пекнага й лепшага. «Так, здаецца, і татоў Карскі заплакаць над тымі золатапагоньнікамі, якіх Цішка Гартны ў сваіх вершах-сатырах высьмейвае», дадае т. Дыла. „Наогул Карскі ва ўсіх пісьменьнікаў шукае польскае інтрыгі. Ён старанна падкрэсьлівае каталіцкую рэлігійнасьць таго ці іншага пісьменьніка. Ён усё лічыць наносным, якое хутка павінна зьнішчыцца».

І вось узьнімаецца голас маладога беларускага студэнцтва. Палкія маладыя грудзі вольным гоманам новых імкненьняў шугаюць думкі аб працы акадэміка і прафэсара Карскага, робяць тыя ці іншыя ўвагі, й да працы свайго таварыша Дзяржынскага.

«III вып. III тому «Белорусы» Карскага—гэта адрыжка царска-русіфікатарскай інтэлігэнцыі, ідэолёгам якой зьяўляецца прафэсар Карскі», кажа студэнт Кіпель.

„З навуковага боку хібіць і артыкул т. Дзяржынскага, які мала адвёў месца крытыцы разгляду Карскага такіх пісьменьнікаў і песьняроў, як жанчын—Цёткі, Канстанцыі Буйла і інш., а спыніў галоўным чынам увагу на Бядулі“.—гаворыць другі студэнт Мялешка і вынятнамі з працы Дзяржынскага знаёміць публіку з поглядам Карскага на «здравые взгляды» у беларускіх творах. „Ён не знаходзіць іх“, кажа Мялешка, „у твораў нашых пісьменьнікаў, а бачыць «здравые взгляды» у чорнасотніцкіх лістках, пісаных рукамі царскіх „архангелаў“, на жаль, у беларускай мове“. «Я-б зусім гэткую кнігу не дазволіў выдаць», выступае трэці студэнт Апаціонак, бо яна, апроч шкоды, ніякай карысьці не ўкладае ў скарбніцу беларускай культуры. Яшчэ кніга ня вышла была, а ўжо водгук яе насіўся сярод школаў і студэнцтва старога закалу, што вось і па беларускай мове, бо Карскі даводзіць, што яе няма. Ня трэба будзе, значыць, вучыць. Але ўжо ня Карскаму быць аўторытэтам. Наш аўторытэт—жыцьцё новае, бурлівае“.

Нарэшце заключная прамова т. Дзяржынскага, у якой ён, адказваючы на некаторыя ўвагі датычна свайго артыкулу, шырэй знаёміць грамадзянства з тымі поглядамі, якія ён выказаў у сваім артыкуле.

«Хто знаём з беларускай найноўшай літаратурай, таму няма чаго новага шукаць у Карскага, хіба толькі дылетанскай навучнасьці самога Карскага; хто-ж не знаём, той таксама не азнаёміцца й па кнізе Карскага і, не зьвярнуўшыся да самой літаратуры, да саміх твораў пісьменьнікаў і паэтаў, можа акунуцца ў памылковы пагляд», дадаў т. Дзяржынскі.

І пацямнеў арэоль аўторытэтнага

беларусазнаўцы ў вачох кожнага прысутнага. Паблядзеў твар Карскага ва ўяўленьні паўнюткае залі. А беларуская літаратура, беларуская працоўная культура іскрылася водблескам „Полымя“. Марксыцкія іскрачкі разгараюцца на сьцежках маладое беларускае працоўнае навукі.

І, зачыняючы вечар, т. Жылуновіч кажа: «Гэта апошняя праца Карскага па беларусазнаўству, і трэба радавацца, што яна выйшла ў ліку 600 экземпляраў, якія разасланы па навуковых інстытуцыях, дзе яны павінны захоўвацца. Апошні й наш вечар прысьвечан разгляду такіх прац, як Карскага. Далейшыя вечары будуць ахвяраваны выключна новай беларускай пролетарскай літаратуры».

Гром воплескаў зачыняе вечар.

**А. Б—ка.**

### Сэкцыя беларускіх песьняроў і пісьменьнікаў пры Доме Працаўнікоў Асьветы.

18-га красавіка адбыўся сход беларускіх песьняроў і пісьменьнікаў, склікаиы Домам Працаўнікоў Асьветы. Прысутнічала 13 чалавек, у большасьці ўсё «маладыя», і сярод іх старшынёю сходу Зьмітрок Бядуля. Загадчык Дому т. Тэрро паведаміў аб агульных мэтах і заданьнях Дому і ўмовах, на якіх магчыма ўтварэньне сэкцыі беларускіх пісьменьнікаў. Пасьля сьціслых перагавораў аб мэтах і заданьнях асабістай сэкцыі, аднагалосна пастаноўлена сэкцыю заснаваць на грунце пролетарскага літаратурнага самавыхаваньня і пашырэньня сярод сяброў Дому працоўнай беларускай літаратуры ў форме вечароў сэкцыі, вечароў твораў паасобных сяброў сэкцыі, вечароў альманахаў і інш. Для часовага кіраваньня справамі, зьвязанымі з заснаваньнем сэкцыі, выбіраюцца Бядуля й Александровіч, якім і даручана саставіць сьпісы ўсіх пісьменьнікаў беларускіх у Менску і ўвайсьці ў Праўленьне з просьбаю зацьвердзіць сэкцыю ў вызначаным складзе. Далей намечаны плян на бліжэйшы чарговы сход сэкцыі і прапанована кіраўнікам запрасіць на яго ўсіх песьняроў і пісьменьнікаў беларускіх, якія пражываюць у Менску.

**А.**

### Літаратура.

— Песьняр М. Чарот з прычыны занядужаньня паехаў на Каўказ (у Сухум) на курортныя лекі.

— Пясьняр Якуб Колас зараз піша п'есу з часоў імпэрыялістычнай вайны.

— Пясьняр Міхайла Грамыка назначан асыстэнтам па катэдры геолёгіі і мінэралёгіі ў Сельска-Гаспадарчым Інстытуце.

— О. Дылам напісана гістарычная драма з часоў паўстаньня беларускіх сялян супроціў панскага прыгону ў канцы шаснаццатага стагодзьдзя. Аўторам рабілася чытка п'есы беларускім літаратарам, якія, даўшы некаторыя ўвагі, прызналі п'есу дужа пекнай і багатай па зьместу. П'еса пойдзе ў Беларускім Дзяржаўным тэатры ў будучым сэзоне.

— Аўторам беларускае п'есы „Вясельле“ *Гарбацэвічам* напісана новая драма з часоў польскае акупацыі. Драма перададзена дырыжору Беларускага Дзяржаўнага Тэатру Е. Ф. Міровічу на перагляд.

— Пры Цэнтральным Доме Асьветы адчыняецца гурток беларускіх пісьменьнікаў, які ставіць сваёй мэтай вясьці працу па азнаямленьню з сучаснымі кірункамі ў літаратуры расійскай, даклады й спрэчкі аб беларускай літаратуры, літаратурныя вечарыны, вечарыны памяці памёршых беларускіх пісьменьнікаў і інш.

### Выдавецтва.

— У красавіку месяцы беларускім Коопэрацыйным Выдавецтвам «Савецкая Беларусь» выпушчаны з друку вось якія кніжкі: «На зачаро-

ваных гонях»—збор апавяданьняў З. Бядулі, «Збор песень з нотамі» Равенскага, «Сцэнічныя творы»—кніжка першая, у якую ўвайшло 5 камэдыяў і жартаў розных аўтораў.

— У хуткім часе Беларускім Копэрацыйным Выдавецтвам «Савецкая Беларусь» выпускаецца поэма Якуба Коласа—«Новая Зямля».

— Рэдакцыя газэты «Савецкая Беларусь» у хуткім часе выдае першы зборнік (25 вершаў) беларускага сатырыка-песьняра Крапівы.

— Палітпрасьветам Беларусі пастаноўлена выдаць збор п'ес вядомага беларускага драматурга В. У. Галубка.

— Студэнтамі Горэцка Сельска-Гаспадарчага Інстытуту рыхтуецца да выданьня часопіс «Беларускі Гаспадар».

— Выдавецкім Аддзелам пры Камісарыяце Земляробства выдана на беларускай мове «Як узгадаваць і даглядаць сад» Я. Пачопкі.

## Тэатр.

— У Беларускім Дзяржаўным тэатры за апошні час адмячаецца наплыў публікі, якая ахвотліва і з прыемнасьцю слухае беларускія п'есы.

— Супрацоўнікамі Беларускага Дзяржаўнага Тэатру зложана ўласная сымфонічная аркестра. Аркестра добра сыгралася і з вялікім посьпехам спраўджае музычныя й концэртныя пастаноўкі Тэатру.

— На першае мая ў Беларускім Дзяржаўным Тэатры мае быць пастаноўлена п'еса ў 5-ці актах Андэрсэна пад рэжысурай Е. Міровіча. Дэкорацыі гатовіць мастак трупы Белтэатру Марыкс.

— Драматургам У. Галубком напісаны дзьве новыя п'есы—драма «Блуд» і камэдыя ў 3-х актах „Князь Качаргін», якую адначасна пераклаў на расійскую мову. На расійскай мове п'еса будзе пастаноўлена ў клюбе І. Караленкі на Ляхаўцы.

— Зімовы сэзон у Беларускім Акадэмічным Тэатры канчаецца першага мая. Пасьля гэта трупа прыступае да чыннае працы па падгатоўцы новых пастановак да новага сэзону. Да адчыненьня наступнага сэзону трупа маецца паехаць у Маскву, каб даць некалькі пастановак на ўсерасійскай сельска-гаспадарчай выстаўцы.

— Беларуская студыя ў Маскве гатовіцца даць першую прыкладную пастаноўку. Дзеля гэтага намечана п'еса Ф. Аляхновіча «Чорт і баба».

— У канцы сэзону маецца йсьці ў Беларускім Дзяржаўным Тэатры ў аднаўленай пастаноўцы Е. Міровіча «Раскіданае гняздо» Я. Купалы.

— Музыкальная п'еса М. Кудзелькі выклікае вялікую цікавасьць. Кожная пастаноўка зьбірае поўны тэатр, а некаторыя разы прыходзіцца публіцы не даставаць білетаў. 19 мая адбылася 39 пастаноўка.

## У Інбелкульце.

— Вышла з друку тэрміналёгія па прыгожаму пісьменству. Здана ў друк тэрміналёгія географіі й космографіі. Падрыхтована да друку тэрміналёгія лёгікі й псыхалёгіі.

— С. Ганчарыкам сабраны вельмі цікавыя матар'ялы да тэрміналёгіі па сыстэматыцы расьлін. Пастановай Інбелкульту праца Ганчарыка набыта для друку асобнай кніжкай.

— На сельска-гаспадарчай выстаўцы ў Маскве, якая адчыніцца восеньню, будзе пабудован павільён беларускае этнографіі. Для зьбіраньня прадметаў па беларускай этнографіі Інбелкультам арганізавана экспэдыцыя ў складзе чатырох асоб: этнографа й археолёга Мялешкі, географа Азбукіна, композытара праф. Палфёрава і Дашкевіча. Экспэдыцыя будзе накіравана ў Ігуменскі й Бабруйскі павет. Сабраныя прадметы пасьля выстаўкі пойдуць на папаўненьне музэю.

— Інбелкультам набыты для друку зборнік народных беларускіх песень нябошчыка праф. Янчука. Зборнік

зьмяшчае 128 песень уласнай гармонізацыі Янчука. Па водзыву кампазытара Грэчанінава зборнік зьяўляецца па свайму зьместу вельмі каштоўным.

— Дзяржаўнай Бібліятэкай набыты ў этнографа Сапунова літоўскі статут выданьня 1588 году і многа другіх вельмі цікавых для гісторыі Беларусі кніг. Тэй-жа бібліятэкай набыта ў гр. Рабіновіча бібліятэка старых жыдоўскіх кніг, выданых на Беларусі.

— Чытаньне лекцыяў па беларусазнаўству ў Беларускім Дзяржаўным Сельска-Гаспадарчым Інстытуце Інбелкультам даручана Язэпу Лёсіку (мова й гісторыя літаратуры) і Я Дылу (гісторыя Беларусі).

— У Маскве арганізавана Беларускае Навуковае Т-ва. У склад Т-ва ўвайшлі выдатнейшыя расійскія вучоныя.

— Пры Петраградзкім Сельска-Гаспадарчым Інстытуце ўтварылася Беларуская навуковая асоцыяцыя.

— Інстытутам Беларускай Культуры праектуецца заказаць мастаку-патрэтысту Кругеру напісаць патрэты беларускіх пісьменьнікаў і палітычных дзеячоў, як А. Чарвякова, У. Ігнатоўскага, Я. Купалы, Ц. Гартнага і інш. у ліку дзесяці.

## Зьмест 3—4-га нумару.





Галоўлітбел № 1174. 1-я Сав. друк. зак. № 1700. Друк. ў ліку 1000 экз.